УДК 821.161.3-3
ББК 84(Беи)
А65

**Андзілеўка, Л.**
А65 Эфект плацэба : апавяданні / Людміла Андзілеўка. — Мінск : Выдавец Цымбераў Р. М., 2022. — 148 с.
ISBN 978-985-7236-70-1.

Грамадства набліжаецца да мяжы расчалавечвання. Страчваецца боскі пачатак: любасць, сапраўднасць падмяняюцца на прынцып формы. Нараджэнне дзіцяці перастала быць радасцю, цудам, сакраментальнай таямніцай. Дзіця можна прадаць, купіць, атрымаць у прабірцы. Жанчына — інкубатар, прамысловы кантэйнер для жывога тавару, яйцаклеткі. Яе задача пасля родаў — зберагчы бізнес, захаваць формы, пругкасць грудзей, прывабнасць. Сучаснай маці цяжка развітацца з асалодай вольнага часу, актыўнасцю ў коле сяброў. Пасляродавая дэпрэсія — «модная» хвароба, яшчэ не даследаваная, а ўжо актыўна лекаваная медыкаментозна. Педыятрыя фіксуе катастрафічнае распаўсюджванне аўтызму, нядаўна — рэдкай хваробы. Леа Канер, першаадкрывальнік аўтызму, бачыў прычынай мацярынскую халаднасць да дзіцяці. З гадамі бацькам удалося «перакрычаць» доктара, перамагчы хваробу — не…

**УДК 821.161.3-3**
**ББК 84(Беи)**

**ISBN 978-985-7236-70-1**

# БІЗНЕС-ЛЭДЗІ
*(дзённік няньки)*

## ЖЭКА

Паўтарагадовы Жэка даядаў астаткі баршчу, і тут якаясь халера штурхнула мяне пацягнуцца да палічкі па маленькі прастакутнічак файлаў, па абодва бакі старонак у ім былі паўстаўляныя каляровыя здымкі. Звычайна маці забаўляла Жэньку гэтымі фоткамі, падманам торкаючы ў рот лыжку кашы ці булёну. Навошта спатрэбіўся ён мне? Дзіця паела. І вось: абед зноў на стале! Хлопчык прыгледзеўся да адной з фатаграфій, пазнаў маці, торкнуў пальцам у здымак, устрапянуўся, балюча прыпомніў, зморшчыў тварык, глянуў запытальна на мяне, зноў ткнуў пальцам у фотку — на мяне! Ён мыкаў, трос галавой, патрабуючы тлумачэння. Ускладнялася сітуацыя нематой: малы зусім не размаўляў, ні слова, нават «мама» для яго заставалася неназоўнай. Жэка зароў горка, несуцешна. Яго вывернула на стол. Я бегала вакол дзіцячага крэсла з ручнікам і з мулкай непавагай да сябе з-за жудаснай памылкі. Дзіўна ўстроена памяць дзіцяці: не бачыць — не памятае, убачыў — успомніў. Маці хлопчыка паехала ў Піцер на тры дні, без усялякай мітрэнгі ён заставаўся са мной удзень і ноччу. Трэба было так сапсаваць настрой маламу перад самым вяртаннем маці!

Вета таіла ад сямейных будучую камандзіроўку. Мужа не баялася, але падманвала яго стабільна і рэгулярна. Такімі бачыліся ёй умовы прыстойнага сямейнага жыцця. Па гэтай вандроўцы Слава не запярэчыў бы ні словам, як і наогул рэдка пярэчыў маладой жонцы, ды мог прагаварыцца сваёй маці, а са свякрухай Вета трымалася дыстанцыйна.

За месяц, мо раней, я дала згоду на працягу трох сутак адседзець з малым «бязвылазна». І наконт аплаты Вета засталася задаволенай,

распавёўшы мне перад тым пра «нахабную» папярэднюю няньку, якая запатрабавала ў такім самым выпадку аплаціць кожную гадзіну. Я аддала права ёй самой назначыць ганарар. Праўда, выставіла жорсткую ўмову: ноччу ў кватэры акрамя мяне і хлопчыка нікога не павінна быць. Не ведаю, як Вета з мужам дамаўлялася, — бацька Жэнькі зусім не зразумеў патрабавання, відавочна абурыўся і нават пасля ад'езду жонкі ў Піцер, у дзесяць гадзін вечара, на адыход, паспрабаваў высветліць прычыну такога майго капрызу. Трое сутак у чужой кватэры — не самыя псіхалагічна камфортныя ўмовы існавання для мяне, тым больш калі будзе тут знаходзіцца чужы мужчына. Слава зразумеў — ці не: жытло пакінуў. Трэба аддаць яму належнае — хваляваўся за сына. Ранкам прыбег з кантрольным візітам, супакоіўся: Жэка адчуваў сябе прывольна і па-гаспадарску.

Чаму, пры наяўнасці дзвюх не занятых працай бабуль, хлопчыка прыйшлося пакідаць на няньку — не пыталася. Свякроў унука дагледзела б, каб пакінула прэтэнзіі быць у сям'і сына гаспадыняй і не мела дурной звычкі выказвацца крытычна супраць нявестчынага бізнесу, «пустой забавы» — «Мэры Кей». Наконт сваёй маці Вета дарэмна ўзялася апраўдвацца: «Вы не думайте: она совсем не алкоголичка, просто не доверяю ей». Прыйшлося думаць: значыць, алкагалічка. Пацвердзілася: першы вечар па адсутнасці дачкі Жэкава бабуля прыехала на чырвоным аўто пад (густым і выразным) шафэ. Машыну Слава прэзентаваў Веце, а тая аддала аўто маме з надзеяй атрымаць ад мужа яшчэ лепшую маркай.

Па назіральнасці і схільнасці да разваг я прыкмеціла ўсе мадуляцыі і адхіленні ў танальным раскладзе сям'і, яе галоўныя лейтматывы і пабочныя партыі ў першы ж рабочы дзень, калі Жэка заснуў пасляабедзенным часам, а Вета не дазволіла мне хоць чым-небудзь заняцца, дапамагчы ёй: на канапе ляжала гара мытай, непрасаванай вопраткі, не пашкодзіла б і павільгоціць падлогу — адпачывайце, глядзіце тэлевізар. На такі «занятак» не згадзілася я. Вета на дыбачках схадзіла ў пакой, дзе з падушкай пад жывоцікам, стоячы на каленях і локцях (улюбёная поза) спаў Жэка, прынесла вялізнага памеру вясельны альбом. Раскінула яго белыя скураныя, амаль паўтараметровага размаху, крылы, і, як на тэатральнай афішы, перада мной паўсталі дзеючыя асобы.

Вета ганарылася вяселлем, падвянечным строем, фотаздымкамі, альбомам, за які агулам, з фотасесіяй, афармленнем (пахвалілася),

прыйшлося аддаць больш за тры тысячы даляраў. Нягледзячы на тое, што «фасады» фотагерояў былі старанна закамуфляжыраваны майстрамі-цырульнікамі сярэдняй рукі, фавісцкага стылю касметыкай, кідкай аксесуарамі, прэтэнцыёзнасцю колераў і фасонаў не таннай, але базарнай вопраткі, — на кожным твары лёс чытаўся выразна.

Мне ўспомніліся хамскія словы дырэктаркі першага сталічнага агенцтва па падборы кадраў для дамашняга персаналу, агенцтва раскручанага і грунтоўна захапіўшага пад сваю руку ўсе хады і выхады перспектыўнай галіны, агенцтва так замацярэлага ў новых эканамічных умовах, што пачынала палохаць агрэсіўнай неадпаведнасцю заяўленаму назначэнню ў параўнанні з тымі агенцтвамі, якія прапанавалі значныя выгоды і паслабленні патэнцыйным кліентам, жадаючым працаўладкавацца незалежна ад сістэмы дзяржаўнай, — ды чамусьці вельмі хутка закрываліся «самі сабою»; на іх шляхах у бізнес сустракаліся непераадольныя перашкоды для росквіту ці хаця б магчымасці бязбедна існаваць.

На пытанне, чаму яна за два тыдні не знайшла мне працоўнага месца, дырэктарка агенцтва заявіла:

— А мы не обязаны вам его искать!

— Але вось жа, зарэгістраваная ў вашым агенцтве сям’я мае патрэбу ў нянечцы? Мы без вас па газеце знайшлі адно аднаго. Чаму вы нам не дапамаглі сустрэцца? — наіўна дапытвалася я, злуючы прастадушнасцю «бізнес-лэдзі», вульгарную хабалку цыганскай крыві.

На той момант я не ведала ўсіх тонкасцяў саўковага бізнесу: праз пару тыдняў агенцтва займее права зноў садраць з нас, кліентаў, грашовы вынятак за паслугу, вось тады і знойдзе і працадаўцу, і персанал.

— Я хотела вам предложить более выгодные варианты. Нашли… сраных бизнесменов! Да у них нечем платить вам зарплату, — яхідна адпасавала мне агентша па падборы кадраў у прыватную сферу.

На вясельных здымках адлюстроўвалася праслойка грамадства, не вельмі спакушаная інтэлектам і духоўнымі пошукамі. На тварах адбівалася прагная мара альбо ўжо дасягненне — «из грязи в князи». Здымкі маглі паслужыць тэстамі-дапаможнікамі для падручніка студэнтам факультэта псіхалогіі. Маці жаніха: яўна — у мінулым галоўны бухгалтар якогась матэрыяльна прыбытковага прадпрыемства, пад заслону даведзенага да банкруцтва намаганнямі кіраўніцтва, якое

набрала перад самай дэнамінацыяй з «дазволу» працоўнага калектыву безадсоткавых пазык. Відаць, удалося выкруціцца — «не сядзела». «Канкрэтная», бадзёрая, самаўпэўненая, пад шэсцьдзясят, досвед ва ўсіх сферах дзелавых кантактаў, яшчэ — выдатны таваравед ад прыроды і па прычыне спрыяльных умоў, бо без магчымасці бачыць, мець і параўноўваць ніякія здольнасці не разаўюцца; адна на ўсіх фота прыстойна апранутая, дабраякасна, камфортна, без лішніх дэталяў і кідкіх брандзэлак. Сапраўдная гаспадыня ўсяго, што тут адбываецца, на вясельных здымках. Без сумневу: фінансаванне банкету, фотасесіі і спадарожных расходаў вялося з яе кішэні. Аналітычна-кантралюючы позірк — усё схоплена! Б'юся аб заклад: свой дзень народзінаў жанчына спраўляе ў чэрвені. Толькі жанчыны-«блізняты» здольны так проста і лёгка арыентавацца ў гэтым трохмерным свеце, так віртуозна валодаюць лагістыкай матэрыяльнага начыння прасторы; яе відавочна-асязальнай утульнасцю карыстаюцца напоўніцу. Побач дачка, сястра жаніха, маладзіца нявызначанага ўзросту: трыццаць, сорак? Шчыльна залізаныя над высокім ілбом якогась невыразнага колеру валасы ў сціплы дыстрафічны хвасток-пэндзлік, не спешчаная доглядам ці хоць бы неабходнай патрэбай у сілкаванні шэрая чахлая скура; патухлыя вочы дэкларавалі: не трэба мне вашае ўвагі, не трэба прыязнасці! І любоў ваша зусім не патрэбна! Я ўсіх «прэзіраю»! Па-мастацку афармленая, фрывольная грыўка над яе сямю пядзямі і бляск у вачах многае маглі б знівеліраваць у гэтым панылым вобразе: пасуліць светлую жаночую мудрасць, жаданне лёгкага, бяскрыўднага флірту ці хаця б мамін талент арыентавацца ў побыце. Не было патрэбы і запыту: знішчаная прыгажосць, знішчаная жаноцкасць, шмат псіхалагічных праблем, цьмяная будучыня. Дачка пры маме выглядала, як пры «Мерседэсе» дробнагабарытны прычэп без нумароў, фар і адпаведнага дакумента, годны для перавозкі на дачу ламачча, праўда, і «Мерседэс» хоць і ў добрым тэхнічным стане, але ўсё ж бэушны.

Дачка выношвалася ў жудасны перыяд жыцця, у стрэсе — саперніца ў той самы час насіла ў сваім жываце сястру для гэтага дзіцяці. Патрабавалася адно дзіця пакінуць, другое — прызнаць, ці наадварот. Выбраць іншае рашэнне, бяскроўнае, безахвярнае, не хапіла ні розуму, ні любасці, ні дабрыні, ні сацыяльна выпрацаванай культуры. Вось яна, тая жанчына, у другім шнурочку калектыўнага здымка, перад-

апошняя з левага боку, апошні — ён, муж, бацька няспраўджаны. А тая, на каго за ўсё жыццё назапасілася столькі нянавісці — агонь павінен быў спапяліць «сястру», — стаіць за ім, руку паклаўшы на плячо, бы сцвярджаючы: мой! Ні аднаго адкрытага позірку ў той бок — а шыю сутаргай зводзіць, так хочацца зірнуць на ЯГО — стрэмка дзіцячай душы, балючая, пякучая, на ўсё жыццё спрутам прарослая ў сэрцы. Не глядзець! Там зладзейка, украла самае дарагое, самае жаданае — бацьку, дзяцінства, зламала жыццё, адабрала шчасце навек.

Наступны здымак здзівіў падабенствам жанчыны з нявестай — маці. Тая ж мініяцюрная камплекцыя, тая ж безабаронная жаноцкасць абянтэжваючага прыгажосцю твару, тут — моцна патрапанага жыццём. Вульгарная чырвоная сукенка на жанчыне бальзакаўскага веку — не ад жадання захапіць увагу на сябе нават ад нявесты-дачкі: што было лепшае, як Вета палічыла, тое дала маці ад свайго гардэроба апрануць. Два дзецюкі ля яе — якім бокам да гэтай кампаніі? Абодва спехам голеныя, халявай стрыжаныя — ці не Вецінай рукі кліенты? Тварамі жаласныя, учарнелыя, пакоцаныя. На неахайных чарапах — шнары, зусім не тыя, што мужчын упрыгожваюць: без дактароў, самапашшу гоеныя «баявыя раны», адмеціны воспін, плямбы, парослыя дзікім мясам язвы замест незваротна страчанага валасяного покрыва. Адзін — сын, брат Веты, другі маладзён — сябрук сына і заадно мамін «муж», кавалер. Гэты тут нелегальна, прыбег на хвілінку па «выбачальную» бутэльку — вось жа яна, адтапырвае нагрудную кішэню. Усё, больш хлопца сярод гасцей не адшукаеш — гаспадыня праграмы адмовілася фінансаваць «усякую шваль».

Быццам выпадкова ў гэты балаганчык заблукала крохкая постаць нявесты. Акуратная белая галоўка, густоўна прычэсаная ў лепшым салоне; прыемныя, своеасаблівыя рысы твару, майстравіта скампанаваныя прыродай, выразныя вусны прыгожай рэдкай формы. Вочы блакітныя са срэбраным водблескам і даволі разумным позіркам для зусім не адукаванай (восем класаў) дзяўчыны. Невысокая ростам, шчупленькая целам.

Дзіўнай неадпаведнасцю кампаніі нявесце цырымонія напомніла вядомую колішняй рэпрадукцыйна-інтэр’ернай папулярнасцю карціну Васіля Пукірава «Неравный брак». Фотажаніх нічым не напамінаў жывапіснага. Мужа Веты, бацьку Жэніка, я на той першы працоўны

дзень яшчэ не бачыла. На здымку — хоць і пад сорак, але даволі імпазантны мужчынка. Модны вясельны гарнітур з іскрой сядзіць на ім някепска. Было ў вачах дудзькаватага жаніха штосьці дзіцячае, кранальнае, блізкае дзетдомаўскаму сіраце жаданнем спадабацца першым сустрэчным «патэнцыйным прыёмным бацькам». Нявеста, амаль у два разы маладзейшая за мужа, вытрымлівала належны цяперашняму яе статусу спакой і прадчуванне забяспечанай будучыні.

Агульнае ўражанне: клас двоечнікаў-недавукаў, так і не адолеўшых экзаменацыйных іспытаў, купка нешацунцаў, памылкова трапіўшых не ў свой кам-пот. Жаніх быццам і не здагадваўся, як апынуўся на свяце пад незразумелай яму назвай — жыццё. Сястра, з нараджэння пакрыўджаная на ўвесь свет самім працэсам свайго існавання, нібы адбывала павіннасць. Іх здраднік-бацька прэтэндаваў на асэнсаванне пражытага — нязвыклы да душэўных выняткаў, і ён не ведаў, як гэта адбываецца, нёс свой груз за плячамі з камфортам у даволі зручнай покладзі. Новая сям’я яго і зусім — пагуляць выйшла: пацiху паслася на агароджанай пожаньцы. Два тут выпадковыя дзецюкі мелі права на паўнавартаснае, фізічна здаровае існаванне ў грамадстве, каб выхоўваліся адпаведна назначэнню, знойдзенаму і апраўданаму месцу: лёгка сталі б харошымі рабацягамі, маглі б паважаць сябе за спрыт і зграбнасць, любіць жонак, гадаваць дзяцей; навучанымі, аднак, былі яны з зайздрасцю назіраць у экране тэлевізара «крутое жыццё зорак» замежных ці айчынных ды марыць аб бесклапотным балдзяжы на вечным пляжы акіяна шчасця, хаця б праз алкагольны падман набліжаючыся да віртуальных ідэалаў. А нявеста пры сваёй вабнасці (можа, праўда, — дачка лётчыка?) лёгка ўпрыгожыла б нябесны рэй пасажырскага лайнера на замежных маршрутах: сцюардэса з яе атрымалася б сапраўдная, пекная, разумная, далікатная. І маці нявесты лёс гатаваў шырокі выбар шляхоў — такая першародная жаноцкасць несла шмат варыянтаў прымянення: яна цанілася высока, ды часцей каштавала — нішто. Толькі маці жаніха — цэльная, падрыхтаваная, годная да ўсіх выпрабаванняў і складаных варункаў таемнай, негалоснай сістэмы нашага хворага грамадства. Яе навука ператвараць лічбы-кручкі папяровых бланкаў у самую сапраўдную асязальную матэрыю ўзносіла яе да пасады вялікай гаспадыні жыцця, кіроўцы падзей, мага…

Сустрэча маладых адбылася ў прыходзе евангелісцкай царквы, куды заагітавалі пацыентаў рэабілітацыйнага цэнтра, дзе лячыўся Слава ад алкагольнай залежнасці. Як у царкве апынулася Вета — не запыталася.

Вета ад чатырнаццаці гадоў дапамагала сваёй цётцы гандляваць бананамі на Камароўцы, падвучылася нарошчваць пазногці — стала зарабляць, апранулася і вось звязалася з сектай, як кажа яе свякруха пра «Мэры Кей». Што б ні казалі пра гэты сеткавы маркетынг, свае плюсы, мне асабіста, ён прадэманстраваў: потым я на працягу трынаццаці гадоў буду мець магчымасць параўноўваць працадаўцаў, рэдка якая сям'я вытрымала б канкурэнцыю ў культуры адносін з «дамашнім персаналам», падобную да той, што прывіў Веце вопыт, атрыманы ў сістэме «Мэры Кей».

— Записывайте каждую минуту — это ваше личное время. Не в 9:30 вы пришли — в 9:20. За неделю насобирается час… Завтра свекровь хочет забрать Женю — не приходите — я вам оплачу выходной как рабочий… Мы сегодня раньше уедем в гости — не волнуйтесь: оплата сохраняется до конца рабочего дня. Кстати! Подвезём вас до самого дома.

Яна цікавілася маімі дзецьмі і ўнукамі, што забараняецца ў падобных стасунках. Магчыма, спрацоўвала асабістае выхаванне і душэўная цеплыня Веты. Хто б ні завітаў у двор, звычайна прафілакторскія сябры Славы па царкоўнай завядзёнцы гасцююць штотыднёва адно ў аднаго (Слава запрашаў дапамагчы па гаспадарцы: абкасіць траву, штосьці адрамантаваць), першае — за стол. Сама Вета як птушка — толькі дзюбне па талерцы, а ежы ў яе заўсёды нагатавана, і нікога за дзверы не выпусціць не накормленым.

Але прыбытку ад бізнесу Вета, і сапраўды, не мела. Зусім не была прывіта з жабрачага дзяцінства ёй звычка берагчы і даражыць кожнай заробленай капейкай.

— Мы здесь на районе в бараке живём. Наш деревянный барачный район посёлком называют, — распавядала Вета пра сябе. — Отец лётчиком (?) был. Сильно пить начал. Потом пропал совсем. Маму и нас семь лет таскали на допросы — подозревали в убийстве. С нас весь посёлок смеялся. Бомжами обзывали. А потом оказалось, что папу в безымянной могиле закопали, как неизвестного. Закрыли дело не так уж давно.

Набраныя пад продаж каробкі вельмі нятаннай касметыкі стаялі ў сырым гаражы, валяліся скамканыя фірмовыя ўпакоўкі. Ля сабачай будкі замест косткі Дунай грыз імпартную тубу з крэмам. Жэнік любіў цягаць з маміных запасаў сабе ў цацкі стылёва афармленыя флаконы духоў, грэмзаў па сценах касметычнымі алоўкамі, тачыў зубкі аб збанкі тонікаў, пудры, румян, памады, «асновы пад аснову і самой асновы». Вету не засмучалі згубы, якія перавышалі іншым разам прыбытак з продажу. Лічыла сябе заможнай жанчынай і звычкі выпрацоўвала адпаведныя. Запрошаная на святкаванні народзінаў шматлікай радні, сваякоў, сяброў, выпраўлялася ў самы круты фірмовы магазін, выбірала падарунак, не пытаючы цэннікаў. Яна ўмела спыніць свой позірк на мужавым твары так, што той імгненна пачынаў нервавацца, чырванеў, ускіпаў:

— Мне их рисовать? Станка печатного не имею.

Аднак вечарам грошы прыносіў і стараўся забыць на нейкі час пра тое, што бізнес трашчыць па ўсіх швах.

Яму перапала ад мамы будаўнічая фірма, якая «выйграла» выгадны тэндар і магла квітнець. У цэнтры сталіцы, у буйным парку завяршалася будоўля сучаснага рэстарана-піўбара. Але Слава захлынаўся ад безвыходнасці. Нібы другагоднік, вучань малодшых класаў, ён увесь працоўны дзень вырашаў невырашальную задачку: як напоўніць басейн адной, амаль ужо перакрытай, трубой, калі з яго выцякае вада праз пяць адразу. За «аўдыт» маме і сястры палагаўся немалы заробак, яшчэ трэба было выкраіць прэміяльныя на іх абавязковыя адпачынкі ў харошых прыморскіх гатэлях. Вецін «Мэры Кей» цягнуў бясконца шалёныя грошы, прыходзілася трымаць лішнюю адзінку шафёра выключна на «дзелавыя» паездкі жонкі, бо аўтамабіль яна аддала маме. Прыстроеныя на фірму патрабаваннем Веты markrozнарабочымі брат з цешчыным ухажорам мулялі вочы спецыялістам-работнікам, якім, і праўда, не пашкодзіла б павысіць заробак, хаця б за кошт уборкі будаўнічага смецця і дробных пабочных паслуг, за што атрымлівалі цяпер сваякі, а смецце гарой ляжала ля бытоўкі і пагражала штрафамі. Стаяў у Бараўлянах, развальваўся недабудаваны дом. Маці яшчэ ў дзевяностых назбірала па падкантрольных прадпрыемствах бясхознага будматэрыялу і зляпіла двухпавярховы каркас на высокім фундаменце. Цяпер, дзякуючы добра заглыбленаму падмурку, яны маюць асобнае

някепскае жытло. Перад тым як справіць вяселле, маці Славы наняла брыгаду, і ў паўпадвальным памяшканні пад будучым домам адбудавалі, адрамантавалі шыкоўную двухпакаёвую кватэру. Вета адчувала сябе непаўнацэннай гаспадыняй жытла, не столькі з-за адсутнасці прапіскі — саромелася паўпадвала. Адразу пасля вясельнага альбома прадэманстравала глянцавы каляровы гросбух, праект інтэр'ера будучага дома, які пакуль што ганебна ўзвышаўся над іх кватэркай — пяць тысяч баксаў, канстатавала яна. Царскія харомы! Але спачатку не пашкодзіла б дабудаваць сам маёнтак. А на яго якраз грошай не хапала. Мне цяперашняя іх кватэра здавалася сапраўднай марай — так тут усё было ўтульна, прынадна. Задняя сцяна высокага блочнага дома-каркаса стаяла ў нізінцы, і ўваход у падвал месціўся там — звычайны першы паверх. Неглыбокія, акуратныя прыступкі, з мастацкім афармленнем каменнай агароджы вакол іх, стваралі машчоную гранітнай пліткай, крыху ўтопленую ў глебу мікрапляцовачку перад уваходным тамбурам, таксама аздобленым прыгожай пліткай ад падлогі да столі. Ён жа служыў гардэробам. Далей, за стальнымі дзвярамі ішоў калідорчык з ацепленай падлогай. Направа — прасторная кухня з усім верагодным і неверагодным сучасным побытавым начыннем: машына для мыцця посуду, электрычная пліта з духавой шафай, мікрахвалёўка, бар, мельнічка, міксеры, кавамашына, тостар, блэндар… Супермадэрновая мэбля шклометал. Пад столь — лядоўня, набітая якасным прадуктам. Далей ішла бытоўка — найлепшай фірмы керамічнае абсталяванне: чарупіна шклометал, унітаз з бідэ, пральная машына апошняй маркі, побач машына-сушылка, з якой вымалася бялізна, гатовая да ўжывання. У куточку душ-кабіна, тут жа Вецін касметычны столік з камодзікам пад жаночыя дробязі і шафа пад прас з прасавальнай дошкай — стацыянарнае ўніверсальнае абсталяванне! Калідор упіраўся ў спальны пакойчык: уздоўж сцяны люстраная шафа, шырачэзны ложак і Жэнікава люлька. Налева з калідорчыка, насупраць кухні, зазывала ў гасціную залу бяздзверная арка, там акрамя кутняй мяккай канапы седакоў на пяць-шэсць і шырокаэкраннага тэлевізара не было нічога, ну, яшчэ куточак з Жэнікавымі цацкамі. Вонкавая сцяна гасцінай у сонечнае надвор'е цалкам расчынялася шклянымі дзвярмі — ветліва запрашала ў палісаднічак. Яго дагледалі ўсё тыя ж Слававы прафілакторцы. Ландшафт псаваў недабудаваны дом-каркас. Агароджа вакол

пляца стаяла добротная, вароты раз'язджаліся перад аўтамабілем ад кнопачкі, дагледжаны двор — рай: шашлычная, дэкаратыўныя расліны, арэлі пад парасонам, кветнік, ходнік. Сабака, улюбёнец гаспадара, не адпавядаў вартаўнічай пасадзе — віляў хвастом перад кожным госцем-захаджанцам, кідаўся лізаць рукі і падвізгваў ад празмерна эмацыйнай натуры. Сядзіба патрабавала пагашэння процьмы падаткаў і рахункаў. Без маці не выпадала вырульваць, а Вета па-ранейшаму са свякрухай трымалася занадта незалежна. Электразабеспячэнне дакументальна не афармленага пляца з таемнай кватэрай у цокальным паверху вылятала ў касмічную лічбу — маці абладзіла праблему з энерганаглядам, але ж яе прадстаяла абладжваць штомесяц да веку.

Свякроў выбірала дзень, прыходзіла на дыпламатычную перамову з нявесткай, выгаворвала за непрыстойны лад жыцця свацці, патрабавала гнаць прыжыванца з законных Веціных квадратных метраў у «пасялковым бараку». Здагадвалася: Веціна сям'я поўным ходам утрымліваецца і раскашуе на яе кроўныя грошы.

Крывавыя грошы — удакладняла, — маладосць згублена на іх здабычу, зады лізаць прыходзілася начальству, на ўсе загады згодна і ліслі-ва ківаць галавой, падпісваць крымінальныя дакументы. Хацелася мець дом — поўную чашу, каб дзеці ні ў чым не зналі адмовы. Здавалася: вось-вось надыдзе момант, можна будзе спыніцца, хопіць, «у нас усё ёсць». Ды, як жартавалі каляжанкі, — «нет границ у множества». Здрада мужа падкасіла раптам. Жыў як у бога за пазухай: накормлены, дагледжаны, чысты — чаго не хапала? «Я такими трудами и хитростью заполучила свою первую машину! А этот рыжий чёрт на ней бл..дей взялся катать. Мне сообщили — чуть сознание не потеряла! Беременная, срок поздний, ничего не изменишь. Уговаривала, запугивала, требовала, совестила. Сын в критическом возрасте — отец, мужик нужен — глаз да глаз! Снюхался со шпаной, а что я могу? Болезненная малая на руках, как связали меня. Вот и полетел Слава под откос. Еле-еле вытянули, ему ни капли в рот нельзя! Закодировали у этой, как её, в телевизоре рекламируют, забыть бы навек! А как потом это скажется, чем обернётся постороннее вмешательство в психику?»

Вучыла Вету эканоміць, прасіла спыніць дурны бізнес: «Займись ребёнком!»

— Пусть благодарит, что живу с её сыном, — намякала Вета на штось інтымнае. — Да он как мужчина — ни-ка-кой!

Вета, нягледзячы на яе гутарковыя «пилимени» і эсэмэсачныя «падождите патом набиру вас в бес саракапити минут два, очинь занета сичас», бачылася мне вельмі мілай і прыемнай маладзічкай.

Яна распавядала пра свае дзявочыя прыгоды. Гэтаму дзіцёнку пашанцавала! Магла паўтарыць лёс бацькі.

— Был у меня парень! Очень любила его. В милиции работал. Чуть не убил! Он и раньше любил распускать руки, избивал меня сильно. Однажды встретились на съёмной квартире, а у него в очередной раз «крыша поехала». Не помню даже, как удалось убежать, от смерти спастись. Вот он был мужчиной — как с ним в постели классно!

Жэнікаў дзед адчайна імкнууся выпраўляць памылкі маладосці, наведваў унука штодзённа, любіў яго, закідваў падарункамі. Прызнаваўся, што цалкам вінаваты ў праблемах дзяцей, гатовы быў «укусіць сябе за локці» — што гэта дасць? У новай сям'і нічога райскага не чакала, і тут позна вяртаць — зруйнавана ўсё. Ён нікога не вучыў жыць і не папракаў. А за што папракаць? Яго бурная маладосць, а зараз поўнае ўтрыманне сям'і сына, дачкі вяліся з вялікай ласкі былой жонкі.

Як дзве найлепшыя сяброўкі, Вета са сваёй маці шапталіся на кухні, дзяліліся жаночымі сакрэтамі. Бабуляй Жэніку маці Веты была адмысловай — нічога і ніколі не забараняла, торкала тыднёвай «свежасці» торцікі, скормлівала яму шакаладку цішком, увагі не звяртаючы на алергічнае высыпанне. Хлопчык, якому яшчэ не споўнілася два гадкі, чатыры разы пабываў у рэанімацыі з атручаннем. Свякроў выстаўляла ўльтыматумы.

— Я сама приму решение, — ахалоджвала яе праведнае абурэнне Вета.

Жэка бегаў па кватэры як Маўглі — так і звалі яго сямейныя, «на чатырох лапах», бы коцік, ці сабачка. Менавіта так малому было зручней рухацца — не поўзаць, не хадзіць — на прамых канечнасцях. Хуткасць развіваў адпаведную кату — «триста долларов», — спаборнічаў у даганялкі. Падрапаны, пакусаны, з адбітым носам (у адсутнасць нянькі заваліўся на каменныя прыступкі тварам), ён ніяк не хацеў разумець чалавечыя словы, не жадаў паўтарыць ні гука. Жэка хваравбліва рэа-

гаваў на бацьку. Ён так імкнуўся да яго, так трымцеў ад рэдкай нязграбнай увагі, часцей за ўсё завершанай жартоўным звонкім лепяком пад зад, што ўціснутая ад нечаканасці ў прыўзнятыя плечыкі галоўка застывала на колькі хвілін у заваражаным стане. Потым пачынаўся адчайны плач, ці то ад пралангіраванай крыўды, ці ад убачаных праз акно, хуценька збягаючых на работу бацькавых ног. Запозненае разуменне падзей падказвае — дзіця адчувала. Дзеці ўсё ведаюць, усё разумеюць і адчуваюць усё…

У маёй памяці зафрахтаваўся той гук. Тры месяцы хадзіла я праз гэты самы тамбур, адчыняла-зачыняла дзверы. Чаму ў той дзень дзверы здэтанавалі іначай? Перад маім носам праляцеў стылёва выкананы керамічны евангелісцкі крыж — ён вісеў пад столлю ў кутку, бразнуўся на пліткай машчоную падлогу і разляцеўся дробнымі аскалёпкамі. Посуд біла я тут не раз — ніколі не пачула папроку, а ў разбітым крыжы маёй віны і зусім не было. Не прымхлівы я чалавек, а убачыла вечарам, якраз у дні адсутнасці Веты, — ладзіцца шашлык у двары, ля мангала на століку некалькі бутэлек віна — трывога пасялілася ў душы. Хоць бы Вета дома была…

Май прынёс шалёную эканамічную праблему — долар сігануў у разы, чэргі барыг начавалі ля абменнікаў. Вета выбачалася, са шкадаваннем паведаміла пра немагчымасць у новых эканамічных варунках трымаць няньку, яна да канца засталася добрасумленным чалавекам і працадаўцай: знайшла для мяне новую сям’ю, якой тэрмінова патрабавалася нянька, дала харошую рэкамендацыю. Там, праз год, ад маці Златкі, я і пачую жудасную навіну: Слава памёр. Ён сарваўся з кадзіроўкі, па-чорнаму запіў. Перад гэтым страшным здарэннем Вета з Жэкам сышлі з дому — свякруха выгнала. Славу знайшлі раніцай ля сабачай будкі. Святлане пра смерць мужа нават не паведамілі. Дазналася ад сяброўкі з тэлефоннай размовы, выпадкова.

— Что ты собираешся делать, Светлана?

— Вот договорились со Славой встретиться, обсудим, как дальше быть.

— Ты разве не знаешь?! Славу сегодня хоронят.

У Веты застаўся на памяць ад шчаслівага замужжа белы вясельны альбом у шыкоўнай скураной аправе, у Жэкі барак, сорак квадратаў на паях з сям’ёй бабулі, заўсёды цёплай, вясёлай і бесклапотнай.

Па ранейшаму, без згуб і «обременений», законнымі правамі, як і дыктуе справядлівасць жыцця, уся нажытая маёмасць, «аплачаная крывавымі мазалямі» і крывавымі ж слязьмі, засталася пры сваёй гаспадыні.

## ЗЛАТКА

На першую сустрэчу пад знаёмства прыйшла апоўднем, дзверы адчыніла дзяўчо. Мяне папярэдзілі: васьмімесячную малышачку прыходзіцца пакідаць на суседку-школьніцу. «Школьніцай» аказалася сама маці двух дачок: пятнаццацігадовай Яські, цяжка хворай на ДЦП, інваліда першай групы ад нараджэння, і дробненькай, бы фарфоравая лялечка, бялявенькай ледзь намечаным на лысай галавёнцы пушком, Златкі — менавіта яе мне і планавалася няньчыць. Абрысы Златчынага кругленькага тварыка з пімпачкай носа і цесна, глыбока ля яго пасаджаных вачэй не адразу распазнала мая падсвядомасць за візуальна прывычнага жыхара менавіта тых затомісаў, адкуль я сама з'явілася ў гэты свет. Мы пазнаём ці не пазнаём чалавека пры першым паглядзе, тым сілкуецца наша адкрытасць, прыязнасць адно да аднаго, давер альбо падсвядомае адмаўленне ад стасункаў з «чужым, неапазнаным» чалавекам. Але ведала: як толькі дзіця застанецца пад маёй поўнай апекай — палюблю безумоўна, назаўсёды. Златка стала самай першай, самай моцнай любоўю з няньчаных мною дзяцей, самым балючым расстаннем, пякучым успамінам, які я доўга-доўга ўтрымлівала ў нейкіх кладовачках сэрца пад замкамі-запорамі, накладзенымі на эмоцыі: выняткі прафесіі. (Жэка мала пабыў «маім», каб так прыкіпець да душы.)

Маленькая Златка ў дзень знаёмства сама без угавораў кінулася паказваць мне, што ўмее: было што! Дзяўчынка прапаўзла па дыванку праз увесь пакойчык, самастойна паднялася на ножкі, спрытненька цісканула на панэлі дзіцячага мадэрнавага, замежнай вытворчасці, электроннага музычнага цэнтра патрэбную з многіх кнопачак — загучала мелодыя: Злата пачала прысядаць, паварочвацца, хітацца з боку ў бок, патрэсваць дупкай у пухнатым памперсе, танчыла. Злата і потым, на маіх вачах, так хутка развівалася, быццам нерастрачаны інтэлект

хворай Яські ахвяравалі дадаткам да здольнасцяў гэтай кволенькай, анемічнай, з яўнымі прыкметамі рахіту дзяўчынкі-«мурашачкі» — так звала яе бабуля, «козачкі» — зваў дзед. Злата праяўляла надзвычайную здольнасць да навучання: колеры, лічбы, літары, словы, вершы, пазлы асвойваліся лёгка, запаміналіся зусім, здавалася, непрыдатнай да навук галовачкай. Форма яе галавы мянялася відавочна на працягу нядоўгага тэрміну: з кругленькай, бы мячычак, ператваралася ў выцягнутую агурочкам, раптам намячаўся квадрат, затым парушалася сіметрыя, сплюшчвалася патыліца. Насцярожвалі гэтыя фокусы анатоміі. Але бацькам, што зведалі трагедыю дыягназу ДЦП з першай дачушкай, перажылі цяжкасці рэабілітацыі і ўтрымання больш-менш устаялага фізічнага стану спаралізаванага дзіцяці з эпілептычнымі прыпадкамі, — Златчыны асаблівасці падаваліся мілымі і бяскрыўднымі. Тым больш малая сапраўды расла кемлівай, вясёлай і развівалася інтэлектуальна надзіва хутка. У год з паловай лёгка збірала складаныя пазлы з мноствам элементаў. Пад восьмы дзень сакавіка, прыняты паслухмянай большасцю нашага «народанасельніцтва» за свята, у падарунак маці мы паднеслі размоўны слоўнічак Златы на трыста слоў, дзе з перакладам і малюнкамі дадавалася арыгінальнае дзіцячае вымаўленне з транскрыпцыяй: «Кучьы муля матато. Татаць хута Патато» (уключы музыку на магнітафоне, будзем чытаць пра хрушу Пятачка).

Алёна, маці, сама яшчэ дзіця па выглядзе, хоць і набліжаўся ў яе жыцці канец чацвёртага дзясятка, занадта засяродзілася на матэрыяльнай базе сям'і. Заклапочанасць яўна несла хваравіты характар: склады валізаў з вопраткай, ні разу не ўжыванай па прычыне шматлікасці, склады посуду, бытавых прыбораў, цацак, забітыя цюкамі-клункамі антрэсолі, шафы — пад столь, дзе нічога немагчыма адшукаць, каробкі, напханыя праз верх няношаным, але ўжо не модным па даўнасці набыцця абуткам. У маленькай двухпакаёвай кватэрцы, дзе цяснілася сям'я; на летніку, у прасторным доме, выбудаваным на грошы бабулі (маці Алёны) для дзяцей-унукаў сярод буйнага саду-гароду, у гаражы: залежы-завалы зусім не патрэбнага барахла. Дзесьці будаваліся дамы-кватэры, праўдамі-няпраўдамі аформленыя пад факт інваліднасці, шматдзетнасці (хутка народзіцца яшчэ Васіліса), а жыццё праходзіла тут, у цесным складовішчы «скарбу».

Ёсць у гэтай асаблівасці сацыяльныя карані і апраўданні: доўгімі гадамі народ, які не ведаў дастатку, назапашваў у генах цягу да лішку. Алёнін эмацыйна ўзрушаны стан супакойваўся на кароткі час толькі ў момант новага прывозу пакупак. Андрэй (бацька сямейства) рэгулярна па загадзе жонкі выпраўляўся ў Вільню, Польшчу, Расію з доўгімі стужкамі спісаў патрэб: затаварыцца.

«Свободен!» — задаволена камандавала Алёна мужу, калі той уносіў у вузенькі калідорчык новую партыю пакетаў, каробак і мяхоў: з дзясятым гаршком для Златы, восьмым кругам для купання ў ванначцы, сто першай «папілай» — так жартоўна ў сям'і называлі паілачку для малюкоў. Гадавалая Злата тыркала пальчыкам у бутэльку з вадой, патрабавала: «Попила!» Андрэй, радасны, што дагадзіў, круценька зграбаўся ў спартовы цэнтр на валейбол ці яшчэ куды пад тую ж тэму. Як Абдула з «Белага сонца пустыні», велізарнага росту, шыракаплечы, магутны паставай, ён, калі і прысутнічаў дома, — ці спаў, ці выконваў Алёніны загады па дастаўцы набытку, ці чакаў гасцей, якіх Алёна запрашала ў дом часта, каб «зафіксаваць» у ім прысутнасць мужа.

Сям'я перажыла развод яшчэ да нараджэння Златы; яго прычынай стала Алёніна здрада і адпаведны сыход Андрэя да другой жанчыны. Алёнін новы абранец — «как он меня любил!» — чамусьці мужам не захацеў стаць, і тады яна кінулася вяртаць Андрэя. Гадалка абяцала: не адразу, чакай.

Алёна не любіла ёлачныя цацкі ў чырвонай гаме, яны напаміналі той страшны Новы год, адсвяткаваны у адзіноце. Ганарылася дзявочай фігурай: праўда, і так невысокая, дробненькая, тым нервовым адрэзкам жыцця схуднелая ў костку, у модных строях выглядала сямнаццацігадовым дзяўчом, а колькі ёй і было тады? Цяпер Алёну засмучала пакругленасць клубоў і не дужа, на яе думку, тонкая талія. «Вот похудею, стану стройной, тогда всё своё возьму», — неяк помсліва, бы мантру паўтарала Алёна.

Жанчыны, якім бачыцца іх жыццё няшчасным, чамусьці не заўважаюць, што шчаслівыя жанчыны зусім не падобныя на папулярных «зорак» і рэдка маюць мадэльную знешнасць. Алёна набыла крыху лішняй вагі, але выглядала вельмі хараша, не магла знешнасць стаць вінаватай у «няшчасці». Рэфрэн выдаваў крыўду на мужа: «Подтяну детей, немного оклемаюсь: верну утраченное!»

Год за годам Алёна густоўна ўпрыгожвала святочныя ялінкі срэбраным ці залачоным камплектам, чакалі чаргі ў пакуль яшчэ не распачатых каробках новыя: белы, фіялетавы, модны чорны з шэрымі ўкрапленнямі. Толькі чырвоны камплект ёлачных цацак заставаўся некранутым у куточку антрэсолі.

Алёніны крыху востранькія вусны, выразныя блакітныя, глыбока пасаджаныя вочы, вялікі для дробнага тварыка, якісь кенгурачы носік стваралі сумны вобраз пакрыўджанай шчымліва-кранальнай жаноцкасці. Асаблівая форма яе носа перадалася ўсім дачушкам і ўпоперак патрабаванням класічных канонаў прыгажосці даказвала: жаноцкасць мае большую прыцягальнасць, чым прыгажосць.

Андрэй тады і сапраўды вярнуўся. Алёна ўзялася рабіць з яго бізнесмена. Афармілі прыватнае ўнітарнае прадпрыемства, гандлявалі канцылярскай дробяззю. Грошы круціліся ў сямейным бюджэце выключна са шчодрых ахвяраванняў Алёнінай маці (дэжавю! Вета-Слава-Жэка), што працавала галоўбухам вялікага транспартнага прадпрыемства сталіцы, мела шматлікія «падвязкі і магчымасці». Будоўля кватэр, дамоў, закупка матэрыяльнага складовішча вяліся менавіта з тых крыніц.

Бізнес прагарэў: партнёр здрадзіў, падмануў, фірма абанкруцілася. Пачынаць прыйшлося ўсё спачатку — «боюсь, Андрей сломается». Бухгалтэрыя ва ўмовах эканамічна-прававой структуры краіны — справа адказная, чужому чалавеку сакрэты не даверыш; крукам сядзелі над паперамі, Алёна яшчэ давучвалася завочна ў эканамічным універсітэце.

Дзве спрактыкаваныя, таленавітыя, высокапрафесійныя бухгалтаркі мусілі кожны месяц скрупулёзна пералічваць недаплаты дзяржаўнай «дапамогі» на дзяцей. Штораз знаходзілі падман. Дабіцца выпраўлення памылак цяжка — даражэй нервы, здароўе, чым тыя капейкі, якімі дзяржава бралася надзяліць, ды скруціла, паабяцала вярнуць, а зноў не дадала па другім пункце…

Гэта прыклад, калі два бухгалтары выдатна ведаюць інструкцыі і дакументы. А спрэс сем’і, якія нават не ўяўляюць, што і калі ім «палагаецца» паводле закону. Раўнадушнасць чыноўнікаў, людзей абыякавых да чалавека, да канкрэтнай сям’і, урэшце знішчае і саму дзяржаву. Пры такой сістэме грамадзянін вызваляе сябе ад абавязкаў перад ёй. Той, хто рвецца дагадзіць цыркуляру, пункціку, бюракратычнай змове насуперак людской патрэбе, ёсць першы злачынца, бо разбурае дамоўленасць грамадскага ладу — утульнасць жыцця краіны.

Зайздрасная сквапнасць тачыла і Алёну: шкрабло яе, што бацькі жывуць у трохпакаёвай кватэры, а «мы должны теснится в двухкомнатной!» Мяняцца ж яна не жадала — не падабаўся раён, суседзі і не дужа мадэрновая планіроўка бацькоўскага жытла. Не хацелася Алёне разумець і тое, што немалыя грошы, спушчаныя на склады непатрэбнага шмацця, якраз і палепшылі б жыллёвыя ўмовы. Тут логіка бухгалтара не працавала, уключалася ўпартасць, знаходзіліся вінаватыя: нявестка, маці, свякроў, якая зусім адна жыла ў сваёй кватэры — а магла ж прадаць яе і аддаць грошы Алёне.

Бабуля з другога боку, маці Андрэя, была тут не ў фаворы, бо не мела магчымасці дапамагаць грашмі і з гэтай прычыны аўтарытэт страціла, мала таго, бабуля асуджала нявестку за «мяшчанскае нутро», намякала на «беззаконны, грэшны дастатак Алёнінай бацькоўскай сям'і, які стаў прычынай нараджэння дзіцяці-калекі». Пасля такіх слоў дарогу сюды перад бабуляй зусім закрылі. Але Яську ўсё ж нярэдка выпраўлялі да яе на пабыўку. Старая дажывала свой восьмы дзясятак. Цяжка было спраўляцца з унучкай — Яся ўвесь час валілася на падлогу праз нязграбнасць рухаў, білася аб рагі мэблі, дзвярныя касякі, сцены, стаўляючы новыя і новыя сінякі на цела.

— Скажи ей, что она плохая бабушка, и ты на неё обижена, — падказвала Ясі на вуха маці, калі хворая дзяўчынка, з вялікай цяжкасцю вымаўляючы простыя словы, радасна перагуквалася па спецыяльна даведзеным пад фізічна абмежаваных людзей тэлефоне.

Яська не вялася на дурны шэпт, пасядзеўшы хвілінку ў задуменні, раптам агаломшвала дзіцячай мудрасцю: «А-а, мая ба-бу-ка. Ме отэн залка её».

Выдаючы перад бацькамі істэрычныя прыпадкі з неўтаймаванай злосцю, жорсткімі папрокамі і абразамі, Яся ніколі і нічым не пакрыўдзіла Злату ці (потым народжаную) Васілісу. Сваіх сястрычак яна любіла такой ахвярнай, безумоўнай любоўю, на якую здольна толькі дарослая жанчына, надзеленая моцным інстынктам мацярынства.

Нельга лічыць нормай, калі нянька ў сям'і стае для дзіцяці самым любімым чалавекам. Гэта азначае, што іншыя члены не дадаюць эмацыйнага цяпла і любові. Алёна з-за бізнесовых клопатаў не магла ўдзяляць належнай эмацыйнай увагі дзецям, забывалася пацалаваць іх перад сном, па прасонні. Але яна любіла апрануць дзяўчатак у модныя сукенкі і любавацца імі ў адбітку люстэрка з радасным замілаваннем.

Выпраўляючыся на прагулку, я падносіла Златку прыткнуць тварыкам да маміных вуснаў, калі тая старанна падлічвала «дэбет з крэдытам». Хутка нянька стала для Златы самым любімым чалавекам у сям'і. Дзяўчынка не хацела адпускаць мяне дамоў, ашчэплівалася тоненькімі ручкамі, павісала на шыі бы малпачка — не адарваць: «Ты никуда не уйдёшь? Останься! Не уходи! Я не отпущу тебя!» Злата пільна ўглядалася ў мае вочы, шукала пацверджання. Я жартавала, заводзячы зноў і зноў нашу з ёй сакрэтную песеньку: «Малпачка мая, худышка мая. Жалелка мая. Душылка мая».

— У нянькі — свае ўнукі! Яна любіць іх, а ты ёй чужая! — прабірала малую бабуля.

— Гэтыя словы раняць Злату. Не кажыце так. — прасіла я.

— Чаму? — не разумела тонкіх эмоцый бабуля.

— Я люблю Злату, няхай дзяўчынка ведае толькі тое, што цяпер ёй трэба.

Злата не прызнавала бабулю, яе шчырыя, але прыземленыя ахвяры пакуль што не мелі для дзіцяці аніякага кошту.

Бабуля. Дзе чалавек чэрпае столькі сіл і цярпення? Вачэй не адвесці ад яе твару — такая ў ім прыцягальная цеплыня: натуральная, жывая, сапраўдная. А голас! Слыху не мела, а пачне вуркатаць штосьці, закалыхваючы немаўля, і разумееш, як спакушалі сірэны сваіх доўгачаканых ахвяр. Голас яе меў шмат абертонаў, гучаў таямніча, з аксамітным адценнем, неяк з нутра — ахутваў, заварожваў, чараваў.

Уся вялікая сям'я з мужам, дачкой-зяцем, сынам-нявесткай, унукамі з двух бакоў толькі ёю, бабуляй, сілкавалася і ўтрымлівалася. Жанчына перасіліла анкалогію, даўна пакутавала на жудасны артроз (прамыя ўколы ў суглобы), перажыла моцную наркатычную залежнасць сына, здраду мужа ў самы цяжкі перыяд свайго жыцця, да пералічанага дадалося нараджэнне ўнучкі-інваліда, якую ёй, па большасці, і даводзілася выхоўваць; бясконцае лекаванне Яські, масажы, гімнастыка, фізіяпрацэдуры… Развод дачкі з зяцем, потым нялёгкае іх прымірэнне, абавязкі на рабоце, дачныя клопаты: сад-гарод, марынады-саленні…

Жанчына шчыра шкадавала дачку, па першым яе покліку ехала стомленая пасля працы грамадскім транспартам (пры наяўнасці не аднаго аўто ў сям'і) праз увесь горад даглядаць унукаў, дапамагала ва ўсім, цярпліва выслухвала раўнівыя Алёніны папрокі — навошта дапамагае

нявестцы і «тым» унукам, калі «тут» яе дапамога куды важней? Дзе ўзяць сілы? Па гэтай прычыне, па часовай слабасці і параіла дачцэ — зрабі аборт. Алёна не паслухала.

— Ну что я, умышленно забеременела? По-твоему — я думаю только об удовольствии? Да я живу при своём муже, как монашка, без секса! — апраўдвалася перад маці Алёна.

Здрадай адбылося для Златы нараджэнне яшчэ адной сястрычкі. Яна і так расла ў згодзе быць заўсёды не першай. Ясьчына нездароўе дыктавала ўклад «малой і вялікай» сям'і. Планы і жаданні, праграмы святаў і будняў залежалі ад фізічнага стану і настрою Ясі. Першая справа — абслужыць хворую: Ясю першую купалі раніцай і нанач, яе першую кармілі, першую апраналі на вуліцу, першай аддавалі ўвагу. Змалку назіраючы Ясіна калецтва, Злата цярпліва саступала. І вось… яшчэ «якаясь дзяўчынка».

Алёна была ў раддоме. Здзічэлай ад адсутнасці маці Злаце паказалі вечарам відэасувязь з бальнічнай палаты. (Дарослыя ў сучасным свеце гаджэтаў страцілі натуральны нюх, прыродныя эмоцыі і пачуцці.) Убачыць у маленькім экранчыку «недасягальную» маці, якая невядома дзе трымае на руках чужую дзяўчынку, а не яе! Раніцай Злату было не пазнаць, не спала ноч, захварэла: зацялася, стала палохацца грамчэйшых гукаў, адмовілася ад ежы, не пайшла гуляць…

Маці хутка вярнулася, Злата яе не хацела бачыць. Праз акно, халодным позіркам сачыла яна праходку бацькоў ад аўтамабіля да ўваходных дзвярэй — зусім не адрэагавала на маміна радаснае прывітанне рукой. Потым пакрыўджана-зларадна заключыла (двухгадовае дзіця!):

— Ладно, папе помашу.

Ваську, нованароджаную сястру, Злата жорстка сустрэла — у люльку пуляліся бутэлечкі з-пад малочнай сумесі, цацкі, «папілы» і боцікі.

Злату аддалі ў садок, мне даручылі Васілісу. Самым галоўным вінаватым у гэтых абставінах для Златы выходзіла я: «здрадзіла ў самы цяжкі час, кінула ў садок да чужых людзей, сама ў той момант дома, разам з усёй сям'ёй, але ўжо без Златы, люблю ненавісную ёй Ваську!»

Мы і зараз трымаем сувязь з Алёнай, ведаем навіны адна пра адну. Я не забываю балючую майму сэрцу дзяўчынку. Даведалася, што Алёна аддала Злату ў модны мадэльны дом, дзе з яснавокай малышачкі зрабілі «томную жанчыну», апранулі ў «вечерние наряды»,

пафарбавалі яркай касметыкай пад ляльку Барбі, навучылі пазіраць у пустату блазнавата-зазыўным позіркам і пусцілі хадзіць па подыуме «соблазнительной походкой». Каля пяцігадовай Златы ўжо круцілася на падыходзе да подыума і трохгадовая Васіліса. Куды можа прывесці шлях па подыуме мілую маю дзяўчынку-разумніцу, тонкую душу?

Свет з'ехаў з катушак! Бацькі маленькіх дзяцей не бачаць, не разумеюць: на «самых высокіх» узроўнях у свеце паступовa і паслядоўна, хітрадумна прапагандуецца і ўзаконьваецца педафілія.

Нашы дзеці, будучыя таты, мамкі перасталі гуляць у лялькі, на якіх вучыліся клапаціцца аб маленькіх: даглядаць, карміць, апранаць. З дзіцячага выхавання знікла самая важная фаза: развіццё навыку стасавацца сям'ёй, дзе старэйшыя клапоцяцца аб малодшых, малыя паважаюць старэйшых. Замест дзіцячай гульні ў лялькі, у мамы-дочкі гандаль і мода стварылі гульню манекенамі, тыпу сексапільных Барбі, зусім не годных для ролі маці.

Як спыніць замкнёнае кола? Як перастаць гнацца за новымі цацкамі для дзяцей і дарослых, моднымі брэндамі, фішкамі, прэстыжам і пачаць проста жыць: любіць, жалець, заўважаць тых, хто даражэй усяго на свеце, пачаць адчуваць боль другога чалавека? За постсавецкія гады перад вачамі праляцела два пакаленні. Дзякуючы тэлебачанню, на відавочным вопыце папулярных «зорак», якія і задавалі асноўны напрамак жыцця моладзі, выбаўленай нарэшце з камуністычных ідэй, іх марам, імкненням, мэтам… Вось ужо, праз гады, яскрава адкрыліся вынікі і дасягненні тых новых ідэалаў: суіцыд, алкагалізм, наркаманія, нараджэнне генетычна муціраваных дзетак, ганебныя судовішчы з бацькамі за маёмасць, нянавісць у сям'і адно да аднаго, прэтэнзіі дзяцей да бацькоў, доказы бацькоўства праз аналіз ДНК… крах жыцця.

Калі я ўжо даўна працавала у другім месцы, дайшла навіна ад Алёны — яны разышліся з Андрэем! Закахаўся ў маладую бухгалтарку іх прыватнага прадпрыемства…

Алёна, «як марыла некалі», зноў ссохла на шкілет, на ёй — модныя сукенкі, сучасныя прыкрасы, але ўсё гэта не схавала ўнутранай душэўнай хваробы: маркота, трывога, чарната завяліся ў трагічнай глыбіні яе вачэй.

— Ничего, у меня есть мужчина! Правда, пожилой, но очень спортивный, бывший офицер. Помогает делать ремонт. Сегодня с Василисой сидит.

Сягоння няньчыць Васілісу, учора дапамагаў рабіць рамонт у новым доме, які нарэшце дабудавалі (усё тая фірма Вецінага Славы, бацькі Жэніка, цяпер нябожчыка). Мне бачылася перспектыва Алёнінага «новага замужжа». Ці ў яго не хопіць цярпення паслухмяна выконваць Алёніны патрабаванні, ці сама Алёна адмовіцца ад яго недастаткова адпаведнай «матэрыяльнай базы» і «спартыўнай формы». Алёна нервова піпчыла цыгарку за цыгаркай, чакаючы якогась тэлефоннага званка. Як шкада яе! Шкада дзяўчатак. Разумнічка Злата аказалася пакінутай сама на сябе. Нават той модны подыум прыйшлося выкрасліць з «статьи финансирования» — грошы, адабраныя ў Андрэя па пунктах: бізнес, кватэры, дачы, аўтамабілі — патрабавалі разумных, эканомных трат. Не запярэчыш, грошы ў гэтай сям'і заўсёды мелі адрасную крыніцу: Алёніна маці.

Не пазнала я сваёй «жалелкі-душылкі». Позірк Злаціных патухлых вачэй не стасаваўся з суперсучасным выглядам дзяўчынкі. Алёна, як і раней, старалася прыдбаць у свой гардэроб і шафы дачушак усё, што прапаноўвала навязлівая рэклама з экранаў тэлевізара, ролікаў інтэрнэту, глянцавых каталогаў і бігбордаў — у тым бачылася ёй набліжэнне сямейнага шчасця.

На новым месцы жыхарства Злата збіралася пераходзіць у трэці клас, Алёна паставіла перад сабой мэту аддаць яе ў блізкую гімназію з мастацкім ухілам, дзеля чаго і была арганізавана наша мімалётная сустрэча па «блиц-восполнению» некалі мной дадзеных Злаце навыкаў малявання, пакінутых і даўна забытых. Я ведала: тут наладжаны і звыклы штурмавы сямейны метад «блату» і «знаёмстваў» не спрацуе. Гэта зусім іншая крыніца, не тая, адкуль ліюцца не ўлічаныя дзяржаўнай сістэмай народныя сродкі ў чыесьці прыватныя кішэні. Крыніца, на якую сёння паклала вока Алёна, невычэрпная, яе можна толькі папаўняць.

# КІРАЧКА

Сваіх патэнцыйных работадацелек пазнаю ў першай тэлефоннай размове па тэмбры голасу. Усё ж сякі-такі музыкант з выцякаючымі асаблівасцямі слыху. Менавіта работадацелек — не працую ў сем'ях, дзе з нянькай мужчына дамаўляецца. Няясная роля жанчыны ў такой сям'і. Абавязкова ўключыцца ў дзею «глухі тэлефон», і дабром для нянькі ці іншага «дамашняга персаналу» тое супрацоўніцтва не скончыцца. Выбірае бацька, не падабацца ж нянька будзе жанчыне.

Мне лягчэй стасавацца з жанчынамі занятымі, адказнымі, якія самі спяшаюцца выбудаваць свой лёс і стасункі з дзецьмі, імкнуцца паспяваць, не чапляюць на плечы мужа ўсе свае праблемы. Жанчыны, якія давяраюць чалавеку, каму даверылі сваё самае дарагое на свеце — дзіця. Паважаю жанчын з розумам мужчынскага складу.

Дзіна, маці Кірачкі, патэлефанавала сама, яе голас не быў «маім»: гугнявы, вялы, затарможаны — ды мне кроў з носу патрэбна работа. Голас гучаў, нібы на тым канцы сувязі алкагалічка ці спаралізаваная інсультам.

Дзіна алкагалічкай, канечне ж, не была і хворай, дзякаваць богу, таксама. Магла іншы раз дазволіць сабе напіцца да «паўзунковага» стану з сяброўкамі, гэта ў іх называецца адпачынкам. Дзіна была «працагалічкай», высокаадукаванай рабацягай, якая хацела зарабіць шмат грошай: купіць сваім дзецям харошыя кватэры, даць добрую адукацыю, павазіць іх у вандроўкі па свеце, уладкаваць у жыцці, забяспечыць магчымасцю нармальна сілкавацца, лекавацца. Карацей, хацела ўсяго таго, на што мае права кожны грамадзянін нармальна ўзаконенай краіны.

Такой бачылася ёй перспектыва бясконцага знаходжання (з ранку да ночы) на працы ў сваім прэстыжным турагенцтве.

Дзіне тэрмінова была патрэбна нянька, былая чарговы раз запіла. Па вяртанні дамоў застала Дзіна п'яных няньчыных сяброўак у сваёй кватэры, апарожненыя тэтрапакі таннага пойла, пакінутую саму на сябе дзевяцімесячную Кірачку — і на гэты раз адмовілася ад паслуг добра знаёмай жанчыны-суседкі.

Дзіна згадзілася на запрошаную мной аплату, і назаўтра я стаяла ў іх цеснай, проста ад уваходных дзвярэй ныраеш у ложак, кватэры па вуліцы Кахоўскай, ля парку Дружбы народаў, у самым куточку, дзе гасцінна адчыніў дзверы рэстаран-піўбар «Сябры», нядаўна пабудаваны (гэта яго будавала фірма нябожчыка Славы, бацькі Жэніка).

Мая дачка вечарам дзівілася:

— Што? Вось так: ты цераз парог, а яна — на работу?

— Менавіта так. Пакуль апраналася, адкалькавала пашпарт на ксераксе.

— А што ён рашае, пашпарт? Можа, ён украдзены? Аддаць сваё дзіця невядома каму?

— Ну! Невядома каму! У мяне на твары напісана — прыстойны чалавек.

Дзіна, саракагадовая жанчына — кроў з малаком, кажуць пра такіх: высокая, поўнагабарытная, з бялявымі ад прыроды валаскамі, не надта багатымі, затое дагледжанымі, добра стрыжанымі, укладзенымі ў акуратненькі стажок. Да яе здымкаў абавязкова прыглядаліся б рэжысёры, выбіраючы кандыдатку на ролю рускай царыцы. І ў народзе пра такіх кажуць — Цар-баба! Толькі не клеіліся да царскага вобразу яе міні-сукеначкі і спаднічкі. Яны дужа пасавалі яе гуллівай натуры. Тоўсценькія ножкі Дзіны амаль што не торкаліся падола, які, у свой час, ледзь прыкрываў мажненькую дупку. Ярка-ружовая памада на пульхных вуснах рабіла акцэнт на канапаценькім капрызна-зваблівым твары. Выразна падведзеныя чорнай фарбай бровы, веі абрамлялі не надта вялікія, але зазыўна-томныя паглядам блакітныя вочы.

Дзіна спяшалася на работу — у іх быў тым летам «круты клёў», і яна пакінула мне Кірачку адразу на адзінаццаць гадзін запар, загадаўшы старэйшай дачцэ, васьмігадовай Юлі, збегаць у майстэрню, замовіць для мяне набор запасных ключоў, сышла.

Я аглядалася ў чужой абстаноўцы. Гэта была (дэжавю!) «Алёніна кватэра», напханая чым папала з падлогі да столі, крыху горшая статусам і парадкам. І тут панавала хвароба набытку ў запас.

Прысценная люстраная шафа па перыметры цеснага пакойчыка займала добрую палову квадратаў, але не была анічым карыснай, калі

толькі складовішчам для непатрэбнага транцеўя. На тых паліцах у стосах захоўвалася — бог ведае якой даўніны — вопратка. Мода васьмідзясятых — выцягнутыя ў каленях трэнікі, самавязаныя шапкі, кузлаватыя світарочкі, крымпленавыя сукенкі з гэсткамі і хлясцікамі, панамы з хвальбонамі да плячэй — кінематаграфічнага рэквізіту гардэроб.

Каб вопраткай карысталіся — якаясь эканомія — не, на білах вісела і зусім новае, няношанае адзенне у цэлафанавай пакоўцы, непрыгоднае памерам, бо дзяўчаткі хутка раслі, а маці пacіху страчвала дзявочы стан.

Пры парогу стаяў вялікі акварыум, пагражаў лопнуць ад блізкай дэтанацыі ўваходных дзвярэй, у ім затыхаліся забытыя ўсімі рыбёшкі, некалі залатыя, пярэстыя, прыгожыя, цяпер пабляклыя, прытручаныя абы-якім даглядам.

Не дазваляў бесперашкодна прайсці з пакоя ў пакой дзіцячы батут сярод калідорчыка. Тут месціўся і гаргарай прыткнуты пад небяспечным ракурсам веласіпедны трэнажор, аб яго балюча абабівалі бакі, ногі, а карыстацца па яго непасрэдным назначэнні было абсалютна немагчыма. Побач «расла» ў збаночку сухая навагодняя ялінка з рэшткамі бліскучага серпанціну з даўна страчанай іглiцай — не выканала абяцання гандляроў заставацца ў грунце вечназялёнай.

У ложку-манежыку, у кучы рыззя і адшукала я дзяўчынку. Нібы мышка, зашыўшыся ў глыбокую норку, яна ціхенька ляжала ў паўдрымоце. Рассеяна-няўважлівы позірк падказваў — Кірачку яшчэ «не вызвалі з таго свету», не засяродзілі адмыслова яе ўвагі на з'явах, рэчах. Кірачкі ў гэтым свеце пакуль што не існавала. У дзевяць месяцаў яна не адпавядала ўзроставым тэстам.

Я дастала пухленькае дзіцятка з люлькі, пасадзіла ў вазок, мы з ёй выправіліся падыхаць свежым паветрам у парк. Кватэра месцілася на пятым паверсе, ліфта не было. (Дзіця на прагулку прыходзілася выводзіць тры разы ў дзень, але Кірачка «пабегла» хадзіць, менавіта пабегла, праз пару месяцаў і сваімі ножкамі ўзбіралася аж на пяты паверх.)

Юля хутка знайшла нас у зялёных кушчах вялізнага парку, уручыла ключы, крыху пазабаўлялася з сястрычкай і выправілася да сябровак.

Юля і Кірачка — копіі Дзіны. Такія ж бялявачкі, ружовыя, канапаценькія тварыкі, блакітныя вочкі і бязмежжа прыроднага жаночага ка-

кецтва. Нават у дзевяцімесячнай дзяўчынкі: нахіл галоўкі, павароты шыйкі, рухі маленькіх ручак, манера сядзець і паглядаць, складаць у бутончык пухленькія вусенкі — усё сведчыла аб наяўнасці «гена спакусніцы»…

Кірачка спала па шэсць гадзін удзень. Санлівасць дзяўчынкі занепакоіла. Кінуўся ў вочы незнаёмы прэпарат на дзіцячай палічцы ў вялікай колькасці: анальныя супазіторыі «Вібуркол». Перачытала інструкцыю. Паслужлівая фармацэя прапанавала панацэю: снатворны, супакаіцельны сродак у момант прарэзвання зубоў. Момант год цягнецца. Медыкі дапускаюць магчымасць карміць немаўлят снатворным-супакаіцельным такі доўгі час?

Запыталася ў Дзіны, дзеля чаго «Вібуркол». Хтосьці параіў.

Дзіна прыходзіла стомленая з работы альбо з рэстарана пасля гулянак з сяброўкамі, ёй хацелася адпачыць, а Кірачка сумуе па маме, спаць па загадзе не кладзецца — атрымлівае порцыю «Вібурколу». Наступнай ноччу, выспаўшыся ўдзень шэсць гадзін ад пралангіраванай дзеі прэпарата, малая яшчэ горш не жадае спаць: атрымай новую порцыю супакаіцельнага! Такім чынам, перманентна, дзіця знаходзілася ў неперарыўным медыкаментозным сне.

Я на сабе выпрабоўваю дзіцячыя прэпараты, якія, паслухмяныя дактарам, альбо дарадцам, сяброўкам мамы торкаюць малым. Выпрабавала і «Вібуркол» — «жэсць»! З «Вібурколам» пачала змагацца няшчадна. Вышуквала схаваныя ад мяне пачкі і выкідвала ў сметніцу. Дзіна ў нейкіх момантах да маёй волі ставілася як да мацярынскай, мо рабіла выгляд, што прыслухоўваецца.

— Зато меня бабушка очень любила…

Залежна складзеная фраза вымагала тлумачэння, Юлі яўна карцела пажаліцца на сваё несалодкае жыццё. Быў дзень, калі Дзіна папрасіла заначаваць з дзецьмі, пакуль яна з’ездзіць у Віцебск на гадавіну пахавання сваёй маці.

— Я же у бабушки росла, она меня до школы воспитывала. Меня бабушка очень любила, и я её… Были и такие дни, когда она совсем не обращала на меня внимания. Я плакала, очень хотелось кушать, просила, а бабушка меня не слышала. Она ходила из угла в угол по комнате, падала, всё роняла. Я же тогда была маленькая — страшно.

Бабушка спала, не просыпалась, я звала её. Приходили соседи, звонили дедушке, он жил в отдельной квартире, забирал меня к себе на какое-то время, кормил, купал. Но всё равно у бабушки мне жилось хорошо. Она меня любила. Не била никогда…

Пад гэтыя словы, той жа момант, на кухонным стале само сабой, нікім не кранутае, выбухнула жарастойкае вечка ад каструлі, разлягецелася на дробныя аскалёпкі.

Я ведала, што Юля да школы выхоўвалася бабуляй, якую сягоння паміналі. Дзіна была равесніцай маіх дзяцей — векам у нябожчыцы бабуля не гадзілася.

— Як яна памерла?

— Не знаю. Её дедушка нашёл в квартире уже мёртвую… Меня бабушка очень любила. А мама бьёт и всегда кричит на меня. Я так люблю свою маму, всегда помогаю ей. Не понимаю, почему она меня бьёт?

Дзед не быў для Дзіны родным бацькам. Але трымаў цесную сувязь, прыязджаў у госці, забіраў Юлю на канікулы, святы, на ўсё лета: акрамя гэтых «трёх блондинок на шее» — жартаваў пра Дзіну, Юлю і Кірачку, — у яго родных не было.

Бацькі ў дзяўчынак розныя. Юля — дзіця ад першага шлюбу, усю злосць на нелюбімага мужчыну Дзіна бяздумна вымяшчала на яго дачцэ, якую сама не выхоўвала, таму і не здолела прывіць у сабе пяшчоту і шкадаванне да дзіцяці. Клапацілася шчыра: апранала па «апошнім піску моды», ежу выстрэнчвала як нельга лепш, вазіла за мяжу ў вандроўкі, купляла найдаражэйшыя цацкі і выконвала ўсе патрэбы: выпраўляла ў «круты» лагер, аплачвала прэстыжныя школы, гурткі, спартовыя секцыі, басейн, набывала па першым слове гітару, тэлефон, мальберт, фарбы, канькі, ролікі… Усё гэта гармідарам ляжала па кутах за непатрэбай. Мала дзіця выправіць кудысьці вучыцца, за ім мусе быць дагляд і ўвага, падтрымка, цікаўнасць да поспехаў.

Юля, пры сваім неардынарным розуме, ні ў адным з інтарэсаў не скранулася з адпраўной кропкі: тэатральны гурток кінула, канькі пыліліся на шафе, маляваць не любіла, гітара стаяла без струн, басейн прапускала рэгулярна: мачыла валасы пад кранам да прыходу маці, каб выдаваць на заўзятага плаўца.

— Я так её ненавижу, просто готова убить! Кира совсем не раздражает меня, всё ей готова простить. А Юлю, как увижу, — убила бы на месте за всякую мелочь и без причины, — прызналася Дзіна.

І сапраўды, яна кідалася ад уваходных дзвярэй каршаком, ні слова не мовіўшы, за што дубасіць дзяўчынку, палохала абедзвюх дачок.

— Ды вас трэба пазбавіць бацькоўскіх правоў!

— Я плохая мать? — шчыра плакала, апамятаўшыся, Дзіна ў маё плячо.

Тэндэнцыяй сучаснага грамадства стае страта мацярынскага інстынкту, жаноцкасці, адсутнасць патрэбы любіць, мець паўнацэнную сям'ю, выхаваць дзіця.

Нараджэнне дзіцяці ўжо не з'яўляецца сакральнай з'явай, місіяй, выключна жаночай таямніцай. Дзіця ў наш час прадаецца, купляецца, ствараецца пры дапамозе рэакцыі ў прабірцы.

Чыстая першародная жаноцкасць — пачатак і аснова боскага: углядаешся ў бязладдзе нашага жыцця, прыходзіць бязрадасная думка — чалавек страчвае боскі выток. Жанчына, нарадзіўшы дзіця, не адчувае радасць мацярынства, яна заклапочана спосабам зберагчы прывабныя формы цела, высокія, пругкія грудзі, сексапільны твар. Уласныя жаданні, цікаўнасць бацькоў застаюцца ў актыўным рэжыме: у стасунках з ранейшым колам сяброў, ранейшымі хобі і захапленнямі. Дзіця перашкаджае гэтаму карнавалу, становіцца адмоўным раздражняльнікам, перашкодай, прычынай замаркочанасці. Самай распаўсюджанай, абсалютна не зведанай, затое ўжо актыўна лекаванай псіхатропнымі прэпаратамі хваробай стала дэпрэсія, асабліва пасляродавая.

Маці нараджае дзіця як аўтамат, таму, што так заведзена сярод знаёмых, так адбываецца ў іншых сям'ях, а ўласнага пачуцця і інстынкту бракуе.

Юля часта няньчыла Кірачку да позняй начы, пакуль маці адпачывае ў кафэ з сябрамі. Адным ранкам я знайшла на спінцы Кірачкі праз увесь хрыбецік суцэльны засохлы струп.

— Што гэта? Адкуль? Як так здарылася?

— Только не показывайте маме, пожалуйста. Я вчера вытаскивала Киру из ванны после купания, не смогла удержать — она выскользнула из моих рук и проехалась спинкой по острому ребру.

Сястрычка для Юлі стала найшчаслівым падарункам, самай роднай, блізкай душой. Юлька вадзіла дамоў аднакласніц паказаць малую, пахваліцца сваёй вялікай радасцю — сястрой.

— Как вы думаете — нормально будет отнести соседке коробку конфет и упаковку чая?

— Навошта?

— Она на меня вчера вызвала милицию. Ворвались — ты что, ребёнка в крематории зажарить надумала?!

Напярэдадні Дзіна адпачывала ўсю ноч, дамоў вярнулася на чатырох, я хвалявалася — ці пачуе, як прачнецца Кірачка.

— Усё окей, — завярала Дзіна… І вось табе!

— Я Кирочку вывезла днём спать в коляске на балкон. Было очень жарко. Юля у деда. Сама уснула в дальней комнате, так крепко. Оказывается, Кира проснулась, орала на балконе полдня. Соседи колотили в дверь. Я ничего не слышала…

З татам Юлі Дзіна разышлася даўно. Ён некалі меў сталярны бізнес, мэблю спрабаваў вырабляць, але, як усё ў нашай краіне, пайшло наперакос — раптам навалілася дэнамінацыя: замоўленыя і аплачаныя заяўкі выканаць не ўдалося, бо кошт матэрыялаў недасягальна сігануў уверх. Не было б то бядой пры людскіх умовах, чалавечых законах. Па скаргах кліентаў маладога чалавека арыштавалі, не далі магчымасці разлічыцца, не далі магчымасці апраўдацца — пасадзілі за краты на гады, адкуль сын інтэлігентных бацькоў (настаўніцы і журналіста) вярнуўся інвалідам. З хвастом запазык па судзе і аліментаў. Свякруха, шкадуючы сына, дамовілася з нявесткай разлічвацца часткамі, паступова. Бабуля прыносіла кожны месяц са свайго заробку запазыкі (былы арыштант працаваць не мог з прычыны страчанага здароўя), падарункі ўнучцы, не мінала Кіру, брала Юльку да сябе.

Юля, як і Дзіна, насіла шляхетнае, прыгожае, вядомае ў сталіцы ганаровае прозвішча дзеда-журналіста. У Кірачкі прозвішча было індывідуальнае і зусім не шляхетнае, калі не сказаць горш, яно вельмі стасавалася з вобразам дзецюка, які раз-пораз набежкамі з'яўляўся ў кватэры Дзіны.

Юля не цягнулася да роднага бацькі, саромелася чамусьці яго, хоць той выглядаў прыстойна, сціпла, ветліва. Сяргей жа, мамін сужыцель, тата Кіры, быў ёй да душы: вясёлы, жартаўлівы зух. Успрымала яго за кавалера. Імкнулася пры ім пачуваць сябе дарослай. Прасіла забіраць з трэніровак, чакаць ля школы, хацела пахваліцца перад сябрамі «новым бацькам».

Хоць і чыталіся ў рысах дурнаватага твару Сяргея дабрыня і наіўнасць, усё ж насцярожвала сімпатыя Юлі да новага таты. Але Юліна захапленне не пераходзіла ў здраду сваёй маці, калі раніцай яна скардзілася на чарговую начную бойку Дзіны з Сяргеем, — адважна і пераканана падтрымлівала маці.

— Какое право он имеет такими грубыми словами оскорблять мою маму?

З татам у Кірачкі было не прасцей. Незарэгістраваны шлюб даваў свабоду абодвум «супругам». Дзіну задавальнялі рэдкія візіты мужа, толькі б грошы даваў. Сяргей працаваў у Маскве. Чым ён там займаўся, Дзіна не цікавілася, недасказанасць дэталяў спрашчала жыццё і вольнай Дзіне, і вольнаму мужу. Сяргей грошы на ўтрыманне дзіцяці і на няньку перасылаў. Як пры жаночай мудрасці, то і з такога мужчынкі мог бы цалкам «атрымацца чалавек». Дзе ж нам яе ўзяць, тую мудрасць…

Сяргей трапіў у разборкі, прыйшлося ўцякаць з Масквы. Засеў «глыбока» за камп'ютар на Дзінінай жылплошчы без работы, без грошай — гуляць у карты па відэасувязі. Гуляў бурна, эмацыянальна, з мацюкамі і пагрозамі віртуальным партнёрам. П'яны ці пад дозай дубасіў кулакамі ў стол, сцены, дзверы.

У маленькай кватэры. Як даглядаць дзіця, як пакласці спаць?

Прыйшлося Дзіне выправіць Сяргея на свае хлябы: начаваў на складзе запчастак, куды ўладкаваўся падзарабіць, прыходзіў зрэдку ў сям'ю.

Як бяруся за абавязкі няньки, першае кажу — мой час цяпер належыць вам: мяне можна выклікаць ноччу, засветла, я затрымаюся да познага, калі таго патрабуюць абставіны. Дзіна нярэдка карысталася начным часам: выклікала мне таксоўку туды-назад, выпраўлялася адпачываць. Вярталася «па-пластунску».

— Я хвалююся за Кіру — вы не пачуеце, як дзяўчынка прачнецца.

— Нормально, услышу…

Юля спіць непрабудным сном — гармата страляй — не прачнецца, тут яна не памочнік Дзіне.

Раніцай адкрыўшы дзверы, рынулася ў пакойчык, дзе, «са скуры вылазячы», раўла на ўсю моц Кірачка — дзяўчынка стаяла ўшчэмленая балконнымі дзвярамі за мезенчык. Дзіна размаўляла па тэлефоне на кухні — вырашала чарговую непярэліўку з турыстычнай групай у Егіпце ці Турцыі, нават і не заўважыла, як зашчаміла малой пальчык.

— А мне Серёжа должен десять долларов, — хвалілася Юля. — Когда мы вчера ходили в ресторан, я там Киру смотрела весь вечер.

Дзіна дадае:

— Заходим в зал с детьми, выходит администратор: «Дама, ваше присутствие в нашем заведении нежелательно!»

(Мінулым разам Дзіна справакавала бойку між кавалерамі.)

Наступным разам.

— Мы так хорошо вчера погуляли, — з іроніяй паведаміла Дзіна. — Считайте: такси для вас в обе стороны, ночные часы, плюс: заказали круто — тут они вызывают милицию, обыскивают Сергея — вилки в кармане находят. Его увозят неведомо куда. Я всю ночь на такси по участкам разыскиваю, куда его забрали. Плюс штраф. Всё, что за месяц заработала, — улетело.

Я так і не зразумела, навошта Сяргею спатрэбіліся рэстаранныя відэльцы.

Дзіна марыла аб новай прасторнай кватэры. Грошы меліся: там у Віцебску стаяла на продаж маміна кватэра, бабуліна, дадаць вось гэту на Кахоўскай, дадаць зароблены за лета немалыя грошы — выходзіла панская жылплошча. Яна чамусьці марудзіла, марудзіла, дачакалася новай дэнамінацыі. Грошы яе апалавініліся, кватэры падаражэлі. Потым пандэмія, ад якой зусім турыстычны бізнес ляснуў, а следам — палітычныя падзеі ў краіне…

Дзяўчаткі падраслі, Юля скончыла школу, трэба даваць дачцэ адукацыю. Марыць пра новае жытло Дзіна пакінула.

# АЛІНКА

Алінка нарадзілася пад сузор'ем Рака. Такі факт не даваў мне ніякай надзеі, што гэта «мілае працоўнае месца» свеціць надоўга. Дзеткі-«рачкі» занадта да маці прывязаныя — адарваць нельга, не прымуць яны чужога чалавека, калі маці не праявіць настойлівасці. Алінку маці вельмі шкадавала, між імі сувязь трымалася моцная на адлегласці, кожная слязінка Аліны павісала на шчацэ маці, і тэлефон мой у той жа момант загараўся — як там Аліна?

Вырашыла: пакуль што — будзь як будзе. Так і дамовіліся. Сям'і патрэбна нянька, а я знаходзілася ў пошуку стабільнага працоўнага месца. Паназіраем.

Самым цяжкім у рабоце прыватнай нянькі з'яўляецца перыяд знаёмства і першая пара тыдняў. Спачатку маці збіраецца карыстацца паслугамі нянькі нарэдчас. Потым, адчуўшы забытую вольнасць ад цяжкага пасляродавага перыяду, бесклапотную для сябе дагледжанасць дзіцяці — запрашае няньку кожны дзень. Але ж прыходзіць момант разліку. Грошы шкада. Пачынаецца пошук загрузкі нянькі па самыя вушы. Чаго толькі не прыдумляюць бацькі у гэты постэйфарыйны перыяд!

— На прогулку возмите с собой самокат, коляску и машинку (на якой седзячы катаецца малое).

А сачыць за малюком, які толькі пачаў перасоўвацца на сваіх ножках, калі ў руках тры адзінкі транспарту, — як?

— Разбудите малышку в 15:50.

Гэта каб нянька не заседзелася падчас сну — няхай лепш недаспіць роднае дзіця.

— После каждого кормления обязательно чистите зубы (у колькасці два) не менее пяти минут.

Будзіць дзіця — ход небяспечны. Чыстка зубоў, якія толькі праклюнуліся, — дурная мода, дарунак бізнесменам ад фармацэі. Што адчысціць зубная паста, якую можна есці?

Гэты перыяд называю «жабадушыцельным». Няхай дзіцяці будзе горш, абы нянька не атрымала «дармавы» заробак.

Не знайду мовы з людзьмі, у якіх усё распісана па мінутах і ні кроку ўбок. Яны не разумеюць, што ініцыятыва і самастойны розум,

імгненная рэакцыя нянечкі здольна выратаваць у форсмажорнай сітуацыі жыццё іх дзіцяці.

Пападаліся сем'і, дзе нянька не мела права скарэктаваць вопратку пад надвор'е: раніцай ішоў халодны дождж, удзень распагодзілася пад 30, а дзіця мусіць парыцца па ранішнім загадзе бацькоў у цыратавым плашчыку і гумовых боціках. Ці не абсурд? Дзіця даверылі, а сукенку выбраць — не!

Спачатку я хадзіла ў дзіцячы дом інвалідаў ля Мядзвежынскага ляску, каб прапанаваць якуюсь паслугу — без аплаты, дарма. Мяне папёрлі адтуль як ворага народа, бы злодзея, хворую на галаву. А каму ў наш час патрэбен сведка, лішнія вочы, вушы, развага, не абмежаваныя працоўнымі дамовамі, інструкцыямі? Тым больш цяпер, як дзіцячы дом займеў абаронную шыльду ад усіх на свеце скарг і прэтэнзій: «Псіхіятрычны дыспансер»? Укалолі ін'екцыю і ніякіх клопатаў. У дзяржавы рукі развязаныя, галава не баліць: кватэру даваць сіротам, адукацыю, працаўладкаванне забяспечваць не прыйдзецца. Ушпіліў укол, спі! З дасягненнем паўналецця перавязуць з дыспансера ў псіхушку для дарослых навечна «паўнацэнным», пад той час, чурбаком.

Вырашыла дапамагаць бізнесвумен па даглядзе дзетак.

Аліну колькі месяцаў назад нарадзіла Таня, маленечкая, не піша рука — жанчына, жанчынка. Шчупленькая, дробненькая, ціхая. Характар — крэмень!

Шлюб у Тані другі. Першы скончыўся хутка, добра, што бяздзетным. У новым пашанцавала неверагодна. Муж — золата: пакладзісты, мяккі, вясёлы, добры, клапатлівы. Бацькі — доктар і настаўніца. Кватэра прасторная, нявестку прынялі. Нараджэнню ўнучкі рады. Нават згодныя даглядаць дзяўчынку, калі Таня займаецца справамі. Здавалася б — жыві ды радуйся. Як бы не так! Калі прынцыпы і нораў становяцца галоўнымі рухавікамі жыцця, то ўсе ласкі лёсу ўспрымаюцца за бясспрэчныя даныя, само сабой паложаны факт — няўдзячна, бязрадасна, з прэтэнзіяй на лепшае: пакуль жыццё не скруціць у бараноў рог…

Якім толькі навукам не навучаюць нас у школе! Большасць з нас тыя веды не скарыстае ніколі ў сваім жыцці. Не ўспомняць тэарэмы фізікі-матэматыкі, законы біялогіі, хімічныя формулы, не ўспомняць цытаты-рыфмы, іншым разам, сапраўды, сумнеўнай геніяльнасці,

не звернуцца да вытокаў і высноў ідэалагічных кірункаў, запамятаюць фальшывыя «факты» гістарычных падзей.

Навучыць чалавека на пачатку жыцця знаёміцца з грамадствам, бачыць людзей вакол сябе, цікавіцца імі, разумець, цярпець адно аднаго, спачуваць, цаніць, паважаць, знаходзіць мову стасавання, адшукаць сябе сярод грамады, адчуць у ёй сваё месца, а галоўнае — дапамагчы адцурацца нянавісці да сабе падобнага, замясціць яе любасцю і прыязнасцю… як нам усім не хапае такой навукі!

Таня не жадае бачыць штодня твар свякрухі, яе раздражняе голас і тон гэтай жанчыны, яе звычкі, адчуванне сябе ў кватэры гаспадыняй, крыўдзяць самыя дробязныя заўвагі. Таня не прывыкла слухаць ні парад, ні падказак, бо маці яе (мімаходзь паскардзілася Таня) ніколі дачкой не цікавілася, без намагання прывучыла быць самастойнай: «сам сабе цар, бог і воінскі начальнік».

Дзівы дзівосныя назіраць з космасу за намі, дурнымі людзьмі. Двойчы два: складай і атрымлівай. Не! Чарвяк точыць, халера якаясь грызе, пакуль парадак і спакой не ператворацца ў бязладдзе. Так адным вечарам Таня змусіла мужа збіраць рэчы, вызваніць грузавое таксі, з’язджаць з бацькоўскага дому ноччу. Бедную Алінку пасля купання паднялі са сну, разбудзілі і сяброўку: Таня яе паставіла перад фактам — мусіць у чужой кватэры перакантавацца пару дзён, пакуль знойдзецца жытло…

Здымаюць маладажоны чужую кватэру за чатыры сотні у. е. Шаром пакаці: ні пасудзіны, ні бялізны, ні мэблі… Прыгатаваць немаўляці няма з чаго, няма ў чым. Калі паціху гадаваць дзіця, неяк бы наладзілася, з часам дайшло б і да самой Тані, што сілкавацца «голай» кансерваванай сёмгай (палова слоічка — рыбны тлушч) дзіця не можа: Алінку ванітуе. Але «паціху» не выходзіць — у бізнес рвецца Таніна душа. Яе разрывае процьма ідэй і планаў. Узяла крэдыт велізарны, упраглася ў воз.

Воз: продаж-дастаўка экзатычнай садавіны-гароднiны, у нашых мясцінах і назвы такой не ведаюць.

Заморскія фрукты дужа кволы прадукт, тэрмін вытрымкі невялікі: гніюць, псуюцца, плеснявеюць. Таня арандавала трохпакаёвую кватэру пад магутнае халадзільнае абсталяванне. Арандавала дзесьці саму халадзільную ўстаноўку. Фуры дастаўляюць нябачаныя сакавітыя экзэм-

пляры да пад’езда: грузчыкаў аплаці, дастаўку аплаці, вадзіцеля наймі для развозу па адрасах. Заказаў мала: кошт прадукту высокі, толькі алігарху даступны — а у нас жа іх тут, алігархаў, гаць гаці!

Ёсць жанчыны — горы вернуць, коней на хаду спыняюць, палкаводцы! Таня з такіх, ды мае асаблівасць шкодную для бізнес-лэдзі — моцны мацярынскі інстынкт. Адчувальнасць яе звыштонкая, сувязь з дачушкай неразрыўная. Выйдзе на работу і стаіць пад дзвярмі, услухоўваецца, ці не плача Алінка? Плача, дзеці адчуваюць яшчэ мацней, чым дарослыя, ведаюць: мама — там, за дзвярамі, як грамчэй заплакаць — яна абавязкова вернецца. Таня вяртаецца. Памылка недазваляльная. Паплакала б Аліна адзін дзень і змірылася, цяпер не змірыцца, бо памятае: мінулы раз паплакала — маці вярнулася. Гора яе патроіцца, з кожным разам вывяргацца слязьмі-істэрыкай будзе яшчэ горш.

Заплаканая Таня сыходзіць на работу, заплаканая прыбягае на абед, вяртаецца са слязьмі вечарам да дому: шкадуе пакідаць дачушку.

Бачыла я марнасць трат сваіх і нерваў Тані, яе мужа, Алінкі. У доме дзеда з бабуляй чакалі ўнучку самыя спрыяльныя ўмовы, там сумавалі па ёй. Цёпла, спакойна, радасна было дзіцяці там, у родным доме, сярод прывычнага ладу, у знаёмым асяроддзі з роднымі людзьмі, на дамашнім бабуліным сілкаванні.

Месяц не прайшоў, як Таня ўсвядоміла, за які гуж узялася: на складзе гнілі скрыні з фейхоа, мамеямі, папаямі, тамарыламі. Яна глядзець не магла на прыгожа ўпакаваныя кошыкі і скрыначкі, якімі апошні час прыйшлося заставіць стол, паліцы, падаконнік і нават падлогу. Што пачынала псавацца — несла даядаць. Але ж — колькі з’ясі? Ці не занадта, ва ўбытак, на сняданак, абедам і вячэрамі напіхвацца экзатычнай сырызнай…

Алінка ва ўмовах «адразання лапак па кавалачку» не прывыкла і на кроплю да новай абстаноўкі. Наадварот, адчуўшы пераможныя поспехі капрызаў, яна з кожным днём адваёўвала ў маці больш часу і ўвагі. Кліенты скардзіліся на нясвоечасовую дастаўку экзатычных пладоў: Таня ж магла вярнуцца з рэйсу, гнаная невыносным сумам па дачцэ. Грузчыкі з вадзіцелямі злавалі на частыя адлучкі гаспадыні з офіса, не жадалі за невялікі заробак чакаць ля зачыненых дзвярэй.

Кінула Таня задуму стаць бізнес-лэдзі. Крэдыт грымотнай хмарай павіс над сям’ёй…

# СЯРОГА

Вечар, снегавыя ахлопкі ляцяць з чорнага неба у твар, нянька гуляе з маленькім хлопчыкам. Ён вельмі кранальны, заўсёды глядзіць у неба, заўважае кожную змену: вось месяц з'явіўся, яшчэ адна зорка, самалёт расцягнуў доўгі вэлюм. Хлопчыку яшчэ толькі два гады. Сярожа ўглядаецца ў вочы кожнага мінака з надзеяй адшукаць субяседніка, паведамляе: «Нуна! Нуна! Зида!» — яму хочацца дзяліцца радасцю, але дарослыя не звяртаюць на малога ніякай увагі, яны заклапочаныя, стомленыя, мітусліва спяшаюцца кудысьці. Сярожа настойліва цягне няньку на скрыжаванне дзвюх шырокіх вуліц. Там гараць агні святлафораў, туды, ведае Сяргей, з'ехала раніцай маміна машына. Хлопчык увесь дзень чакае маму, Сярожа вывучыў маркі машын, ён радуецца, калі бачыць маміну марку. «Хутка мама?» — увесь дзень пытаецца Сяргейка. «Хутка», — заўсёды адказвае нянька. Але «хутка» ўсё не наступае. Хлопчык цягне няньку за руку на самы край ходніка да крыжаванкі, падаецца ўсім цельцам уперад: «Ма-ма-а», — гукае ён у цемру. Між шумных гукаў гарадской вуліцы: сігналаў, гулу машын, ветру — голас маленькага хлопчыка губляецца, глухне. «Ма-ама-а», — яшчэ грамчэй кліча Сярожка і ці то ад натугі, ці то ад ветру па яго шчочках бяжыць ручаёк. Сярога мужчына — ён не плача. Мама любіць Сярожу, клапоціцца, каб у яго было шмат цацак, кніг, вопраткі, новая кватэра, машына… Але раніцай, прачнуўшыся, ён горка плача, калі на покліч «мама» да яго зноў ідзе нянька.

— Не любит, — хлопчык захліпаецца ад слёз.

— Хто каго не любіць, маленькі мой?

— Мама не любит Синьгея, — ён трэ далонькай нос і заспаныя вочкі.

— Ну што ты, мілы мой?! Канечне любіць!

— Не-ет, нет, не любит мама Синьгея.

* * *

Сярожку пакуль яшчэ два гады. Ён з тых, каму рай — сяброўства. Калектывіст! Толькі вынырне з пад'езда — давай круціць галавой, аглядае двор, пляцоўкі, закуточкі між дамоў, ці не гуляюць дзесь дзеці. Заўважыў! Устрапянуўся ўсім цельцам. Здаецца, на гэты момант у яго вырастае хвосцік і матляецца ва ўсе бакі, як у шчанючка.

— Дзеці!

Ён мяне не чакае, усёй сваёй істотай Сярожа ўжо там, ля «сябра». Але такіх кампанейскіх дзяцей вельмі мала, і Сярожу сустракае надзьмуты злосны твар. Ніколі не было, каб ён пакрыўдзіўся альбо заплакаў, перадумаў працягваць спробы дыпламатыі. Ён пачынае дзіўную варажбу, быццам у яго генах затрымалася цыганская магія, — зусім незаўважна хлопчык пераймае і паўтарае ўсе рухі і міміку «намечанага аб'екта»: падкідвае савочкам пясок ці снег, калі тое робіць «дзіця-індывідуаліст», выкрыквае тыя ж гукі, ківае галавой, падскоквае, прысядае, бегае, тупае ножкамі так, як «будучы сябар», і — о дзіва! — лёд растаў, яго зразумелі, кантакт наладжаны. Дыпламацкі талент Сярожы я заўважыла не адразу, здзівілася яго бяскрыўднасці. Адкуль у малога гэта рэдкая рыса характару — абсалютная бяскрыўднасць пры даволі высокім пачуцці годнасці? А пачуццё годнасці, нават ганарлівасці ў ім ёсць: ён ніколі, ад паўзунковага ўзросту, не дазваляў садзіць сябе на пеліну і цягнуць за руку ў тым напрамку, куды ён не жадаў: «Аддай мяне!» — вырываў ручку малы. Ён слухаў толькі тыя кніжкі, якія яму падабаліся. Маляваў толькі тымі алоўкамі, якія сам выбіраў, і назвы ў іх таксама меліся адмысловыя: сісен, касен, чосен, гусен, сеі, каі, моі, беі. Патлумачыць застаецца «гусен» — жоўты, ну яшчэ «моі» — гэта зялёны, а «каі» — руды. Сярожа мог «заснавацца» ў любой кампаніі, прапісацца ў любую тусоўку! Вось тут я і здзівілася па-сапраўднаму! Па-дарасламу. Гуляе купка дзяцей шасці-сямі гадоў — той узрост, якім ужо не пакамандуеш, не папросіш пацярпець меншага ўзростам, саступіць. А Сяргейку гэтага зусім і не патрэбна. Ён імгненна прыкідвае: кампанія адразу не прыме, пралічвае сярод дзяцей «асноўнага», пад каго строяцца ўсе, пачынае адлюстроўваць менавіта яго паводзіны. Якім бы ні быў агрэсіўным настрой купкі, Сярожу спатрэбіцца некалькі хвілін, каб займець новых сяброў. Іншым разам спрабавала спыніць яго, угаворвала, каб не атрымаў псіхічнай траўмы. У Сярожы трапяткая душа, кранальная. «Не падыходзь да гэтых дзяцей. Яны не стануць з табой гуляць. (Ім па адзінаццаць-дванаццаць гадоў — Сяргею трох няма.) Яны старэйшыя». Сярдзітыя, грубыя. Мне крыху страшнавата ў такі адчайны момант! Дзеці жорсткія, хамаватыя. Але Сярожу не спыніць. Ён садзіцца на дол альбо снег, траву, пясок… метраў за пяць ад падлеткаў і паціху, незаўважна пачынае падсоўвацца заднім

ходам, спінай да тусоўкі. Пад’язджае да іх са спіны, пад’язджае зусім непрыкметна і вось спыняецца ля лідара. Ледзь-ледзь, быццам выпадкова, прыхінаецца да яго — спіна да спіны. Хлопчыкі азіраюцца — што за малое тут апынулася? Сярожа імгненна ўключаецца ў працэс: гэтак жа рагоча — на манер старэйшых хлопцаў, махае рукамі ў такт ім, заглядае ў вочы, ловіць кожнае слова бязглуздзіцы, якую распавядае хтосьці з кампаніі, уважліва слухае, захапляецца, радасна ківае ім галавой. Перамога! Сяргея залічылі сваім! Чую: пытаюцца, як завуць і колькі яму гадоў, з кім ён? Паглядаюць у мой бок. Вось ужо і мне перападае ад шчодрасці Сярожкавага таленту дыпламатыі — хлопчыкі, якія ўчора, ганяючы ў футбол, у запале крычалі: «Усякія тут цёценькі бадзяюцца пад нагамі!» (гэта я) — сёння са мной вітаюцца і не могуць дачакацца, пакуль мы выйдзем з пад’езда ў двор. Ад іх Сяргей атрымлівае: «Дай пяць!» А я ў поўнай, праз яго, пашане! Нас завуць катацца на санках і бубліках з гары, дамаўляюцца сустрэцца тут заўтра — толькі абавязкова! Сяргей па-даросламу ківае — зразумела, будзем. Стомлена крочыць дадому. Мой геній дыпламатыі дазваляе мне пакласці яго спаць.

* * *

У нас вясна! Прынесены з гаража самакат. На самакаце Сярожа гайсаць навучыўся яшчэ мінулым летам, калі было яму паўтара года. Зараз лёгка абгоніць кожнага, бо худзенькі і юркі, яму лягчэй на паваротах і прыпынках. Да таго ж мама Сярожы не «замарочваецца» наконт вопраткі — ніколі не лае яго за выпацканыя штаны і куртачку. Больш таго! Мама дазваляе летам бегаць босым па пяску і нават па лужынах. Пасля гэтага на пляцоўцы стаіць гвалт і плач — усім дзецям хочацца ТАК! Многія перамаглі недазвол! Яшчэ адзін плюс мае Сярожа — ён не плача, калі ўпадзе з самаката.

У Сярожы шмат сяброў. Касціка можна лічыць першым. Касцік старэйшы, і Сяргейка амаль не спрачаецца з ім. Бывае, Касцік крыўдзіць Сярожу, калі выходзяць у двор старэйшыя дзеці і Касціку хочацца ім паказаць, што гэты малы шпэндзік зусім яму не сябар. Крыўдна, але Сярога не прывучаны доўга сумаваць.

Як толькі выходзяць ў двор, хлопчыкі мяняюцца самакатамі альбо велікамі, машынамі. Чужы заўсёды лепшы. Косця штодня выносіць

у празрыстым, як шкло, заплечніку харошыя машынкі, ды ніколі не дастае іх. Трактар, кран, самазвал! Заплечнік хавае пад лаву, сам гуляе з чужымі цацкамі.

Сёння хлопчыкі наўздагон гайсалі на самакатах. Косця на Сярожавым зялёным, а Сяргей на сінім самакаце Косціка. Ім было весела, класна! На пляцоўку прыйшоў Макс, хлопчык, старэйшы нават за Косцю. У яго не было ніякага транспарту, і Косця паслужліва саступіў Максіму Сярожаў самакат, сам жа падбег да Сяргея і на хаду, каршаком, вырваў з-пад яго свой сіні. Сярожа пакаціўся кулем па асфальтаванай сцежцы. Падскочыў на ногі і збянтэжана паглядзеў услед недасягальнаму сябру з самакатам. Ён ледзь здолеў з трэцяй спробы ўхапіць паветра — штосьці моцна сціснула ў грудках і запякло. Яму так хацелася плакаць! Не плакаць — завыць на ўсю пляцоўку. Але Сярога не заплакаў, ён азірнуўся, быццам шукаючы ратунку, — знайшоў! Куляй сігануў да лавы, выцягнуў прыгожыя машынкі з заплечніка, стаў з імі гуляць.

## МІШАЧКА

За дурной галавой і нагам непакой — любіла паўтараць мая мама. Вось і апынулася я восенню 2019 года на паўночным Кіпры. Дурной галава робіцца, калі чалавек не слухае сваё прадчуванне, плюе на падказкі падсвядомасці, цела, інтуіцыі, сноў, адрываецца ад глебы.

Напярэдадні, калі мой новенькі, спецыяльна выштукаваны для паездкі за мяжу пашпарт афарбавала пячатка візавай адзнакі, я ўбачыла… не сон, відзёжку. На мяжы выхаду са сну пад нос мне торкнулі пажаўцелую ад веку паперу з сатлелымі ражкамі і сургучовай пячаткай на ўсю старонку. Свядомасць зафіксавала: д’ябал пахваляецца — атрымаў супраць мяне якісь дакумент. Зазвінеў тэлефон, мая працадацелька, мама Мішачкі, якога няньчу з пачатка лета, паведаміла, што мне зрабілі візу, трэба забраць пашпарт.

Мне перашкаджала выправіцца ў далёкую вандроўку здароўе. Яно так пярэчыла, давала знак — не едзь! Скруціў жудасны прыступ радыкуліту. Потым ад абязбольваючых пігулак узбунтаваўся ўвесь ар-

ганізм — не едзь! Здаецца, у целе не засталося ніводнай здаровай клетачкі, ніводнага атама — не едзь! Адказнасць, доўг, дадзенае слова для мяне — закон. Згоду паехаць увосень на Кіпр з сям'ёй на два месяцы, прыглядзець за Мішачкам я дала — гэта было адной з умоў майго працаўладкавання. Папярэдзіла: здароўе можа перайначыць гатоўнасць — мяне не пачулі. І перапоўнены пасажырамі, як селядцамі цэбар, «боінг» перанёс нас на паўднёвы востраў.

Першы тыдзень майго знаёмства з Мішам хлопчык паўнацэнна спаў, як і трэба дзецям яго веку. Але маці Мішы ўгледзела ў інтэрнэце рэкламу, дзе найлепшай праявай клопату аб дзецях абвяшчалася наведванне новага салону кансультанта па сне. Кошт візіту ўразіў нават яе, але не адбіў ахвоты адчуць сябе плацежаздольнай жанчынай, сапраўднай маці.

І вось другі тыдзень, як хлопчык зусім перастаў спаць, не толькі ўдзень, нават ноччу. Маці не здаецца, перайначвае малога на рэжым кансультанта, кладзе Мішу на жываток тварам у падушку і трымае яго сілай у такім стане. Малы крычыць, задыхаецца ад страху і вагі свайго цела. Ён поўненькі, яму цяжка ляжаць на жывоціку падчас сну. Ніколі Міша не спаў так па сваёй ахвоце. Калі Міша засынае «па-людску», як прывык, як жадае яго маленькі арганізм — маці будзіць Мішу і пачынае «пераўсыпляць» на замежны манер яшчэ і яшчэ, будзіць і «ўсыпляе». Пасля «сілавой пабудкі» хлопчык зусім адмаўляецца ад сну, ежы, прагулкі, капрызіць: бесперапынны плач мяжуецца з істэрыкай. А я збіраюся пакінуць іх сям'ю назаўсёды. Спыняе жаль да Мішы, без мяне, думаю, яму зусім стане кепска. У Мішачкі самы сапраўдны псіхічны шок. Як толькі пачынаеш укладваць яго гарызантальна, дзіця вылузваецца са скуры ад страху перад сном.

Паспрабавала давесці маці, што веды моднага дарагога кансультанта не могуць прэтэндаваць на панацэю. Наогул, навошта было да яго звяртацца, калі Міша спаў як нельга лепш. Ці мае кансультант сваіх дзяцей, каб даваць парады?

— Мне от вас советы и рекомендации не нужны. Это мой ребёнок — сама решу, как с ним быть! — катэгарычна адпасавала маці.

У малога завялася сапраўдная фобія. Як толькі маці забірала Мішу ў цёмны пакой, бо мне не давярала эксперымент, адтуль нёсся жудасны крык.

Вучыць спаць… Усё адно што вучыць дыхаць ці глытаць ваду: хутчэй задыхнешся, захлынешся.

На шчасце, Іна, так завуць маці Мішы, здалася, пакінула хлопчыка на мяне. Праз дзень-два малы спаў як раней.

Заставаўся яшчэ адзін эксперымент, гэты ад псіхолага… Той параіў кожны раз, адыходзячы на работу, развітвацца з шасцімесячным сынам (пакінутым на чужога чалавека!). Яно, напэўна, было б нядрэнна, каб Іна, зноў жа такі, не «усердствавала». Яна развітвалася за раніцу не менш як пяць разоў, пільна ўглядаючыся ў тварык, што пры тым адчувае яе сын. Што адбываецца з ім?

Істэрыку нянька адзін раз супакоіць, але, як хлопчыку арганізоўваць прэцэдэнт па пяць разоў для забавы маці, — гэта ўжо занадта!

Няма лепшых вытокаў ведаў, як тысячагадовы вопыт народа альбо боскае азарэнне. Найлепшым памагатым у выхаванні дзіцяці можа быць толькі любоў мамы.

Маці Мішы парад не прымае. Гэта чамусьці злуе і прыніжае яе, Іна робіцца надзвычайна ўпартай.

Якаясь таямніца прыхоўваецца ў гэтай сям'і. Упершыню за маю практыку нянькі сустракаюся з такімі паводзінамі немаўляткі… Калі маці вяртаецца з работы, хлопчык сумысна не звяртае на яе ўвагі, быццам баіцца паглядзець у вочы. Прыціскаецца да мяне, хаваецца, адварочваецца ад мамы.

— Он обижается на меня, потому что ухожу от него надолго, — адказала маці на маё здзіўленне.

Не супакоіла мяне такое тлумачэнне — не першае дзіця бачу. Да таго ж ён занадта маленькі, каб хітра разважаць, тым больш трымаць у памяці ўвесь дзень крыўду. Чамусьці ён ніколі не крыўдзіцца на тату, на бабулю, на няньку. Калі я прыходжу раніцай, заўсёды радасна сустракае, цягне ручкі. Чаго Міша баіцца, чаго не жадае ўбачыць у маміных вачах?

Раніцай маці Мішачкі паведаміла мне, што хлопчык зваліўся з канапы на падлогу. Але Міша яшчэ не ўмее сядзець, не ўмее поўзаць, стаяць… як ён сам мог зваліцца з канапы? Яна паказала «сіняк». Гэта быў укус васьмі зубоў дарослага чалавека! Я не змоўчала…

— Яго хтосьці ўкусіў!

— Он упал с дивана!

— Але гэта ўкус, не трэба быць медыкам-крыміналістам, каб упэўніцца — вось знакі ад васьмі зубоў падкоўкамі, чатыры зверху — чатыры знізу.

— Я вам сказала — это синяк! Он упал с ди-ва-на!

Усе немаўляткі балюча кусаюць мамак за смочкі грудзей, калі ў іх точацца зубікі. Выходзіць, не ўсе мамы здольны гэта трываць.

Якое дзіўнае месца паўночны Кіпр! Чытала ў інтэрнэце, што тут танны адпачынак. Уваход на пляж каштуе 10 еўра на аднаго! (Дорага абыходжуся я сваім работадацелям.) Чаго чакаць ад іншых мясцін? Горад Кірынея брудны, пыльны, непрыгожы, затое ў ім жывыя прыгожыя людзі, цёплыя, чулыя, якіх у свеце мала засталося.

Калі яны бачаць дзіця, дзе б то ні было: у рэстаране, на пляжы, на вуліцы, у двары — усе двары адкрытыя, любы мінак можа зазірнуць — хэлло! Хапаюць без дазволу дзіця на рукі, радуюцца, абдымаюць, цалуюць, падкідваюць угору. Нязвычна мне бачыць, як чорныя, рудыя, жоўтыя рукі гладзяць галоўку, спінку, ручкі дзіцяці, дакранаюцца да шчочак, вушак, казычуць пад бародкай. Але тут так прынята, і ніхто не пярэчыць. Гэта ад любасці.

Ні правілаў, ні знакаў дарожнага руху на паўночным Кіпры не існуе, ніхто не запытае ў вас правы, каб выдаць аўто напракат, ходзіць анекдот сярод прыезджых: «Бачыць адно вока, сядай за руль і — наперад!» Рух левабаковы, прывыкнуць цяжка. Аднак ланцугі машын двухбаковага напрамку спыняцца адразу, каб прапусціць пешахода, толькі той падыме руку.

Больш за ўсё здзіўляе пляж Кірынеі. На лежаках адкрыта пакінуты грошы, гаманцы, дакументы, айфоны. Дзверы дамоў тут, на Кіпры, не зачыняюць на ключ. «Гэта асаблівасць мусульманскіх краін», — кнапіруе мне праз тэлефон сын, ён аб'ехаў свет у камандзіроўках, знаёмы з культурай краін ісламу.

На Кіпры ля кожнага дома па тры-чатыры, а то і шэсць катоў. Яны тут прапісаныя вольнымі жыхарамі. Зусім не падобныя на нашых Васек, Мурак. Худыя ад спякоты, даўганогія і загадкавыя, як егіпецкія муміі. Пераходзяць межы двароў, частуюцца ў суседніх, лена спяць на дарогах. Ніхто жывёлу не пасмее прагнаць ці пакрыўдзіць.

Павялося так, кажуць, з часоў, калі Кіпр аж кішэў гадамі і вужакамі. Жыць на востраве не здавалася магчымым. Калі на востраў прывезлі

ката і заўважылі, як спрытна той нішчыць паўзучых, кот на Кіпры стаў жывёлай недакранальнай.

У двары дома да нашага прыезду было чацвёра асобін. Маці Мішачкі хутка з імі разабралася: «Мы вас не любим!» — паведаміла яна хвастатым, у мяне аж пахаладзела ў грудзях ад той нелюбові, якую нёс голас жанчыны.

Бацькі прывезлі для заняткаў з паўгадовым хлопчыкам дзве каляровыя скрыні-метадычкі па кошце, роўным маёй пенсіі. Праўда, скрыні аказаліся падманкамі — у сярэдзіне амаль пустыя: складзены ў рулоны расфарбаваны кардон займаў усю прастору знутры. Два «тамы» пакрокавых інструкцый таксама займалі нямала аплачанай прасторы, некалькі маленечкіх кніжачак дрэннай якасці, зместу і малюнкаў, таннага выгляду карткі і ваўчок з фланелі на палец. Ваўчок — адзінае, што ацаніў Міша, згроб яго ў кулачок, угрызціся смачна ў карак драпежніка; абслінявіўшы да непазнавальнасці, задаволена торкнуў і ў мой рот — паспрабуй, частую! Дзякую богу, што так не багата «каштоўнасцяў» ва ўпакоўцы. Бо тое, што знайшла ў метадычным матэрыяле, мяне не на жарт занепакоіла.

Асаблівай хваробай не толькі кніжных ілюстрацый, але і выгляду дзіцячых цацак стала абыякавасць да анатамічнай падобнасці жывёл на іх прыродных прататыпаў. Я не маю на ўвазе фантастычных чабурашак, ніндзяў, пакемонаў і бонсцікаў. Натуралы! Іх у кожнай сям'і знойдзеш сярод дзіцячых цацак.

Трымаю ў руках звера: закруцілася ў галаве. Падалося, трачу прытомнасць: не магу ідэнтыфікаваць ні з якой жывёлай са сваёй памяці. Штосьці ў гэтым ёсць вельмі небяспечнае, трэба вольным часам паразважаць! Пытаюся — кот? Дзіця пярэчыць — сабака. Гэта воўк, прапануе варыянт маці. Ды гэта ж янот, аспрэчвае ўсіх бацька. Але ні адна з пералічаных жывёл не набірае мінімуму неабходных анатамічных даных. Замест мядзведзя — руды парсюк, падобны на сабаку. Зайчыка амаль не адрозніць ад козачкі. Тое з чалавечым целам вытварае сёння ўжыванне геннамадыфікаваных прадуктаў. Яшчэ паўвека назад такой праблемы, як немагчымасць адрозніць жанчыну ад мужчыны, — не існавала. Цяпер паўсюдна — людзі неабазнанага полу.

Так і зараз якаясь вельмі сакрэтная (не знайшла вытокаў) кампанія па «выданні дзіцячай метадычнай літаратуры і цацак» прапанавала

мне вучыць немаўля біць ладкі, варыць кашу з сарокай і бадацца з казой па амерыканскай методзе. Больш таго! Даслоўна: «Предлагаем начать занятия с прогулки по скай-парку, где Рони и Джеки ищут себе друзей». Гэта прапанова для дзіцяці ад трох месяцаў!

Калі выбрала больш-менш годныя для Мішы карткі з кепскімі, але троху падобнымі на рэальных выявамі жывёл, маці катэгарычна запярэчыла, яна запатрабавала ад мяне следаваць кожнаму пункту метадычкі. Замест таго каб навучыць Мішу пазнаваць катка, сабачку, ваўка, паказаць на простых гуках «мяў, гаў, му, ме» — як яны «размаўляюць» — мушу пры маме паказваць паўгадоваму хлопчыку на картцы «стадион-он-он», «зоопарк-арк-арк» — так інструкцыя прапануе «лепетать с малышом», але не падказвае, як патлумачыць яму такія для яго складаныя сістэмы паняццяў.

Магчыма, маці будзе пільна сачыць за выкананнем методыкі? Прыйдзецца ўсё ж мне развітацца з Мішачкам, а я ўжо палюбіла яго і ён мяне. Маці, відаць, сумняваецца, што я без амерыканскіх педагогаў здольна навучыць Мішу біць нашы ладкі? Запрашала няньку з вышэйшай адукацыяй выконваць вось гэту бязглуздзіцу?

Калі ў першай тэлефоннай размове з будучай сям'ёй чую голас працадаўцы, шмат чаго ён здольны мне распавесці. Прэзентацыя сябе на тым баку сувязі важнай персонай з высокімі этычнымі запытамі «эліты» пры вульгарным вымаўленні добра вядомых фраз, памылкамі націску ў распаўсюджаных словах адбівае жаданне супрацоўнічаць. Не памылкі палохаюць, а ханжаства, хваравітае жаданне здавацца, уяўляць сябе не тым, кім ты ёсць на справе.

А ўжо як пачую пытанне, ці валодаю методыкай выхавання Мантэсоры ды Ньюфелда, ідэямі «прасвятлення» Хелінгера — выбачаюся і адлучаю тэлефон.

Працавала ў такіх сям'ях: дзіця шкада, а нічым не дапаможаш, калі бацькі замяняюць любоў амбіцыямі, моднымі паветрыямі і грашамі.

Хваля папулярнасці замежных тэарэтыкаў ад выхавання становіцца небяспечнай. Садкі імя Мантэсоры, цацкі Мантэсоры, кнігі па выхаванні немаўлят па методзе Мантэсоры і Ньюфелда. Кнігі-пераказы тэорыі Ньюфелда «навукоўцамі» ў галіне выхавання дзіцяці. Навошта пераказы? Няўжо сам цікаўца не здольны чытаць? Пераказамі прасцей і хутчэй распаўсюдзіць «патрэбную» ідэю ў лянівым, прагным да моды

грамадстве. Што лепшага ў выхаванні дзіцяці мне можа падказаць жанчына-лесбіянка, якая свайго адзінага сыночка аддала ў чужую сям'ю і наведвала яго раз-пораз па выхадных днях толькі дзеля таго, каб на практыцы праверыць сваю тэорыю выхавання? Мантэсоры.

А Ньюфелд: раўняць усіх дзяцей ад з'яўлення на свет меркай выхаваўцы пазбаўленых волі падлеткаў? Ньюфелд меў адносіны з небяспечнымі сям'ямі, з асуджанымі за злачынства юнакамі, з крымінальнымі біяграфіямі, на прыкладах іх лёсаў ствараў сваю тэорыю. Нельга яго спецыфічны вопыт безаглядна пераносіць на ўсіх немаўлят, яму не хапала станоўчага, нармальнага вопыту, каб абагульняць высновы ў адзіную тэорыю выхавання.

А пра ідэі «прасвятлення» Хелінгера трэба крычаць гвалту і біць у набат. Чалавек, які заяўляе, што «інцэст — ёсць праява любові ў сям'ях, сродак балансавання адносін», — мусіць быць аб'яўлены злачынцам, сатаністам. Яго ж чакаюць сотні тысяч апантаных паслядоўнікаў-псіхапатаў у розных краінах свету, пад яго трэнінгі прадстаўляюць лепшыя аўдыторыі.

Сучасныя маладыя маці не жадаюць разумець, што лепш за нашых мудрых прапрабабуль, якія выгадавалі здаровых, разумных дзетак вякамі праверанай методай, няма лепшых дарадцаў, іх вопыт нашмат багацейшы і карыснейшы за цяперашніх модных навукоўцаў і замежных тэарэтыкаў.

Тыя самыя гулі-забаўлялкі: «козачка», «сарока-варона», «кую, кую ножку», «ладкі», «кошыкі-лукошыкі», «ехалі мы, ехалі за спелымі арэхамі» — што гэта, як не найлепшы «активный массаж жизненно-важных зон», толькі без слёз, стрэсу, істэрыкі — гуляючы, з пяшчотай і абярэжнасцю да псіхікі дзіцяці. Масаж, дзеля якога цяпер запрашаюць спецыялістаў за высокія ганарары.

— Что это за дремучие побасенки? Двадцать первый век за окном, а мы будем «ладушки» бить и агукать! Ни в коем случае не сюсюкайте с ребёнком! Только правильное, чёткое произношение слов!

Вось і «данеагукаліся», «данесюсюкаліся», палохаючая колькасць дзяцей трох гадоў і вышэй зусім адмаўляецца стасавацца і размаўляць. А як дзіцяці з пялюшак папросіць: есці, спаць, хадзіць?

«Ам-ам, бай-бай, топ-топ, а-а» — не сюсюканне — гэта самая сапраўдная мова дзіцяці, якой здольны авалодаць яшчэ недасканалы артыкулятыўны апарат немаўляці. Гэта адзіны даступны для дзіцяці сродак, які дае яму разуменне і практычнае ўяўленне гукавых стасункаў з незнаёмым светам, азначэнне бачных рэчаў, істот, з'яў: «му, мяў, гаў-гаў, бе, кап-кап, тук-тук, бі-бі…»

— Нет! Это не биби — это машина!

— Это не ав-ав — это собачка!

Вось дзіця і страчвае жаданне разумець дарослых, бо не мае здольнасці ўсе гукі слова нават улавіць вухам, не тое што паўтарыць.

Трэба ж было Мішавай маме менавіта тут, у непрывычным яму асяроддзі, у саракаградуснай спякоце ўспомніць навуку кансультанта па сне! Два разы мне ўдалося прыспаіць Мішу раніцай, а ёй — два разы бязжаласна разбудзіць! Праз колькі хвілін яго вочкі зноў заплюснуліся пад ціхі матыў маёй песні, але маму калыханка раздражняе.

— Не надо никаких укачиваний и колыбельных!

Яна выхапіла з маіх рук вазок, стала ўпарта перакладаць Мішу жыватом уніз. Гэта экзекуцыя працягвалася хвілін сорак. Міша роў, быццам з яго здзіралі скуру. Мне рабілася млосна, уявіла, як адчувае сябе дзіця ў новых кліматычных умовах, жорсткай спякоце: мокрае, салёнае ад поту ў «цыратавай будцы», нібы ў крэматорыі. Ад такой напругі ў малога можа здарыцца інсульт!

Не магу зразумець, чым атручваецца дзіця! Цэлы дзень Мішачку ванітуе. Ён не хоча гуляць, яго не цікавяць цацкі, кніжкі. І позірк нейкі затуманены. Шкада Мішу. Чацвёрты раз такое моцнае атручванне.

Раніцай хацела нацягнуць Мішу лёгкія штонікі. Ён не ўмее хадзіць, увесь дзень поўзае па салёным пяску і цэментаваных плітках двара. Маці забараніла. Яна везла сына на Кіпр «загорать, а не ползать в колготах». Капялюшыка ад сонца таксама на мора не ўзялі. Пад вечар у малога паднялася тэмпература, ножкі ад каленяў да ступачкоў здзёр да крыві.

Адкрылася прычына атручвання Мішы. Маці кожны вечар п'е алкаголь, а ноччу корміць дзіця сваім малаком. Міша проста нецвярозы… Не магу з павагай глядзець на тату Мішачкі. Пакінуў былую жонку

з дачушкай дзеля новага кахання, а цяпер дазваляе здзекавацца з маленькага сыночка.

Да маёй фізічнай хваробы тут дадаліся Мішавы пакуты. Я сапраўдны эмпат, гэта зусім не тое, што цяпер разумеюць пад модным словам. Эмпат — чалавек, які фізічна адчувае чужы боль. Не эмацыйна ці вобразна — фізічна. Мішавы пакуты сталі маімі.

Адным днём бацькі Мішы сабраліся ў марскую вандроўку, былі куплены квіткі на цеплаход. Развітвацца з Мішам Іна пачала ад васьмі гадзін раніцы. Яна падыходзіла са спінкі, хлопала сына па плечуку і вымаўляла, махаючы рукой:

— Пока, пока, Мишенька, мы уезжаем сегодня!

Хлопчык заходзіўся ў істэрыцы, а яна задаволена адбягала. Як толькі Міша супакойваўся, пачынаў гуляць з цацкамі ля басейна, маці зноў падыходзіла «развітацца» — наталялася адмоўнай энергіяй і круценька збягала.

Мой фізічны стан стаў віной таго зрыву. Калі Мішава маці падбегла ў чарговы раз «развітацца», я запыталася ў яе:

— Вам не шкада сына?

Здаецца, менавіта таго і чакала маладая жанчына, груба спыніла мяне.

— Это мой сын! Что хочу то и делаю. А вы закройте рот и не поучайте!

Ніколі раней Іна не дазваляла сабе хамства. Яна была заўсёды ветлівай і папераджальнай. Відаць, напярэдадні вечарам яна перабрала сваю норму.

— Я тры разы ледзь сцішыла яго істэрыку. Навошта хлопчыка непакоіць?

— Няня, рот закрыла — и в свою комнату!

Не застаюся ў сем'ях, дзе бацькі ў нянькі жадаюць атрымаць падначаленую прыслугу. Нянька мусіць быць апорай, выхавацелькай, памочніцай, дарадцай, сябрам… Каго здолен выхаваць прыгонны чалавек, прыслуга?

— Не! Вы — зараз жа купіце мне білет на самалёт і я вяртаюся дамоў! Глядзець, як пакутуе дзіця, я не здольна. Тым больш — цярпець хамства.

На тым бы і скончыліся нашы стасункі з гэтай сям'ёй, якія меліся працягвацца яшчэ паўтара месяца на Кіпры і абавязкова, як марыла Іна, яшчэ гадоў пяць. Іна вельмі баялася, што мяне хтосьці перахопіць, пераманіць у другую сям'ю. Але…

Самалёт адлятаў раніцай, напярэдадзе была ноч. Вандроўка на цеплаходзе адмянілася. Маці сама мусіла няньчыць Мішу, бацька займаўся пакупкай білета на самалёт. Я збірала чамадан. Вечарам Іна напілася да непрытомнасці.

Мой пакой меў дзве шкляныя сцяны, адна з іх выходзіла на балкон-тэрасу. Дзверы на тэрасу з майго пакоя заўсёды заставаліся адчыненымі: невыносная духата. На той жа балкон (там мы вывешвалі бялізну) быў яшчэ адзін уваход, з калідора. Калі я ноччу пабачыла Іну на гэтай тэрасе, падумала: прыйшла па піжамку для Мішы. У гэты момант Іну асвяціў поўны месяц. Як панначка з кінастужкі «Вій», з невідушчымі вачамі, зданню яна рухалася па шкляной сцяне навобмацак. Выгляд жанчыны мяне напалохаў, я запыталася:

— Вы штосьці шукаеце?

Іна ўстрапянулася. Павярнула галаву ў мой бок, пачала сутаргава шукаць ручку шкляных дзвярэй, не разумеючы — дзверы перад ёй адкрытыя. Заблыталася ў шыбінах, якія соўгаліся па рэйках. Я імгненна зразумела: магу вярнуцца дамоў з пабітым тварам, гэта ў лепшым выпадку. Пакуль Іна білася ў шкляных рамах, я падбегла да ўваходных дзвярэй свайго пакойчыка, яны таксама заставаліся незамкнутымі. Іна была да такой меры беспрытомнай, што не здагадалася ўвайсці праз іх. Магчыма, у яе і не было ніякага плана, проста маё пытанне спрацавала раздражняльнікам, як чырвоная ануча на быка. Я істэрычна закрычала. Муж Іны адразу пачуў, прачнуўся, іх пакой быў паблізу. Моўчкі зграб жонку ў ахопку звычным прыёмам, быццам не першы раз выконваў падобныя маніпуляцыі. Пацягнуў Іну ў свой пакой.

Першы раз у жыцці я засталася ўдзячнай сваёй бяссонніцы. На гадзінніку — палова трэцяй ночы. Нармальныя людзі спяць глыбокім сном. Была б я такой жа нармальнай — магла б і не прачнуцца, назаўсёды застацца тут, на Кіпры…

Мускулістая жанчына, спартыўнага целаскладу ў ачмурэлым стане розуму, урэзала б адчувальна па маёй галаве.

Я доўга сумавала па Мішу. Іну было шкада. Яна была рознай. Іна заўсёды выбачалася, як вучань, спазніўшыся пасля работы на чвэрць гадзіны, хоць я папярэджвала, што магу затрымлівацца пры патрэбе на любы час.

Непрыкаянасць Іны выдавала якуюсь траўму дзяцінства: нездарма ж яна не ўзяла на Кіпр сваю маці, пенсіянерку. Між імі не было паразумення, не было павагі. Жаданне Іны вырвацца з таго асяродку, дзе расла, сфармавалася ў мару мець статус, хаця б пры дапамозе грошай.

# СПАСЦІГАЮЧЫ КАФКУ

## НА СУВЯЗІ

Можна выйсці на гаўбец, пераважыцца праз парэнчы, абаперціся на локці, удыхнуць свежага паветра і лавіць у далонь кроплі надаедлівага восеньскага дажджу ці лёгкія сняжынкі прыспелай зімы, мо проста назіраць знаёмае наваколле: кавалачак неба, што толькі і пакінулі дамы. Насупраць, з бакоў і спрэс-спрэс — шматпавярховыя будынкі, у незанавешаных вокнах якіх ты заўсёды міжволі здольны стаць бессаромным сведкам сямейнага ладу чужых табе жыхароў. І зусім ты не пакутуеш бяссоннем — ды што яно такое? Усяго — бадзёрасць думак. І цябе не палохае твая адзінота. І не сварышся ты з вечна змрочным суседам з прычыны яго брыдкай звычкі кідаць апалкі з верхняга гаўбца ледзь не табе ў твар. А як можа раздражняць нармальнага чалавека дзіцячы смех? Вось хлопчыкі з вудамі ў руках спыніліся зусім побач, пад балконам, падурэць, штурхаючы адзін аднаго з зялёнага пагорка, улавілі твой позірк, усмешку.

— Ідзем на рыбу…

— А ці тут паблізу ёсць вада, рыба водзіцца?

— Вунь, у тым баку, праз колькі прыпынкаў, трэба пад’ехаць.

— І вам не страшна выпраўляцца ў вандроўку адным, без дарослых?

— Не! Там шмат харошых людзей.

— О! Гэта вялікая радасць — сустрэць харошых людзей! А вы ўзялі з сабой піць? Спякота.

Хлопчыкі разгублена пераглядаюцца.

— Я напоўню для вас біклагі.

Тоненькія, не надта спрытныя ручкі ловяць пачастункі, упускаюць цяжкія бутэлькі з вадой долу. Ласункі не жадаюць роўна дзяліцца

між імі, і тройца з дураслівай сваркай, штурханнем і рогатам збягае на прыпынак.

Звяглівы шчанюк, адмаўляючыся слухаць каманды, хаваецца ў куст шыпшыны, накалоў пысу, злосна енчыць. Гаспадыня бярэ сваволькніка на рукі, выцягвае калючку, той не мірыцца з няволяй: брэша і брэша, пакуль не сыходзяць абое ў абдымкі за рог дома, пакуль звяглівае рэха канчаткова не паглынаецца наступам з-за дальняй агароджы больш настойлівага, рэзкага гуку газонакасілкі. Гэты непрыемны дысананс хутка кампенсуе пах свежаскошанай травы. Насычаны, пругкі, ён запаўзае праз нос, рот, вочы, скуру ў тваё нутро, ва ўсю нават псіхічную істоту. Ён ператварае і без таго лёгкі, прыемны настрой у святочную ўрачыстасць, сакраментальны момант. Табе адкрываецца вялікая значнасць, невыпадковасць твайго жыцця, якое дзень за днём, год за годам, крок за крокам, кропля за кропляй набірае сілу, моц, яснасць, сэнс.

Там, у далёкай вышыні неба, і там, на процілеглым баку электрычнай хвалі далькажыка, маленькім прастакутнічкам прыстаўленага да твайго вуха тэлефона лагодзіць усведамленне патрэбы ў табе, любасці, кахання…

## АМАЛЬ ШЭКСПІР

Прыкметы ёсць, нібы вясна зноў набірае моц…

— Пустыя плёткі! Не могуць поры года следаваць упоперак заведзенаму руху. Усё адпаведна графіку.

— Але ж увечары разносіліся яўна спевы шматгалосся?

— То рэха сыходлай дзеяй адгукаецца прастора і пакідае вострае ўражанне жывой, яшчэ зусім не сумнай пустаты…

— Чаму тады ў лажку вадзілі карагоды? Вянкамі красак упрыгожвалі галоўкі кучаравыя маладзенькіх дзяўчат?

— Заезджы балаганчык спыніўся на начлег.

— Там чуўся гучны смех вясёлы…

— Вандроўныя артысты да арэны заклікалі гледачоў.

— А шэпт таемны закаханых? Ціха-ціха… пяшчотна вуха ў вуха.

— Ілюзія. Нягожа вуснам лгаць, калі сівыя скроні… Прыкра, горка.

— Ці ж можна зблытаць звонкі грай птушыны веснавы з галюцынацыямі зыкаў?

— Не трэба забываць: сучасныя спецыялісты навучыліся выдатна падрабляць сігналам гаджэтаў любыя гукі.

— Дык жа пупышкі на галінках абяцалі абсыпаць пышна коцікамі вербы: вось-вось — і луснуць мяккімі, пухнатымі бачкамі.

— Не-е, то зіма напамінае пра сябе ахлопкамі сняжынак, гэта яны залеглі ў парожнія каўчэжкі й сёдлачкі з-пад ападаючай лістоты.

— І бэзы дэкларуюць явіць свае пахучыя суквецці.

— Падман! Ды і наогул: бэз — сімвал несапраўдных, саромных, таямнічых закаханняў.

— Але як свежа й хораша! Насычанае пахамі паветра…

— Густыя туманы заўсёды патыхаюць бадзёрай сырасцю…

— Зірні, танюткія карункі павуцінак у дыяментах ранішняй расы развесіла…

— Вось… Павута́ — забава восені, прынада ведзьмакоў і сведчанне лянівых, неахайных гаспадынек… Вядома: цудаў не бывае.

— Дальбог, ці стану я сцвярджаць хлусню?!

— Няўжо вясна?! І цуды?! Лістота зжоўкла…

— Як столькі цеплыні і сонца — якой жа быць ёй?

— Амаль не засталося кветак на лугу…

— Так узрастае іх каштоўнасць.

— Тады чаму ж не верыцца ў вясну?

— Бо ўсумніцца дазваляеш свету ў чысціні сваіх намераў і памкненняў. Калі ў жыццё так радасна і шчодра знянацку хлыне сонца — растратна, неразумна, крадучыся грэцца ля не табой, не для цябе распаленых цяпельцаў.

## МІМАЛЁТНАСЦЬ

Пакручастыя кучаравыя лозы на ўзбоччы вясковай дарогі, самлеўшы паўдзённай спякотай, палеглі на спачын. Хлапчук-пастушок зусім не пастаральнага выгляду (заезджы ўнук-гараджанін) адбывае сваю павіннасць: з доўгім дубцом і айфонам у руцэ, ні на хвілю не пакідаючы ўвагай мабільны экранчык, нехаця выпраўляецца раз-пораз па-

дагнаць адбеглых авечак у статак. Тыя бесталкова казеляць вочы на незнаёмага пастуха, незадаволена мэкаюць, лена паскубваюць муражок. За спінай хлопчыка па шашы праносяцца грузавікі і габарытныя «дальнабойныя» фуры. Ён уяўляе, як садзіцца ў крэсла кіроўцы, кладзе далоні на цёплае ад сонца, выгібістае пад кожны палец кола стырна і коціць, коціць насустрач далягляду, які няспынна падманвае зрок новымі вакаёмамі. Хлопчык ведае: на павароце, як парадзее зараснік алешніку, з левага боку раптам адкрыецца прасторнае ўлонне возера, яно зусім не здзівіць хлопчыка, як здзівіць кіроўцу вялікай цяжкой машыны жоўценькімі пясчанымі водмелямі сярод густога шчаціння аеру і трыснягу. Вадзіцель на хуткасці паспее заўважыць на паверхні срэбранага люстра фігуру юнака з шырока раскінутымі рукамі, ён ледзь пагойдваецца ў гарэзлівых хвалях, нагнаных візглівымі купальшчыкамі. Юнак прыкмеціў у лазурным небе кропку паветранага лайнера, які толькі набірае вышыню і, здаецца, завіс нерухома. Там, думае юнак, сядзяць прыгожыя людзі, яны ў імклівым чаканні сустрэчы з невядомымі экзатычнымі краявідамі. Магчыма, сярод іх — вельмі прыгожая дзяўчына. Зусім верагодна: некалі нумары іх квіткоў на паветраную вандроўку супадуць і яны будуць сядзець побач, амаль датыкаючыся каленямі адно аднаго. У дзяўчыны на шчоках маленькія ямачкі, а пры ўсмешцы крыльцы носа не тапыршчацца, шляхетна захоўваюць паранейшаму вузкія шчылінкі. Дзяўчына паклікала сцюарда і запытала шклянку ахаладжанай вады. Сцюард занадта пранікнёна для службовай ветлівасці зазірнуў у ейныя вочы, занадта пяшчотна, як падалося юнаку, папрасіў крышачку пачакаць, і нават буйны локан бялявых валасоў, што суцяшальна саскочыў з яе пляча, каб паказытаць руку юнака, не здолеў вярнуць святочны настрой балючай надзеі. Дзяўчына ўважліва ўглядалася ў ілюмінатар, там яшчэ выразна віднеліся рознакаляровыя дахі дамкоў, што ўрачыста ўскінулі свае «пілоткі» над буйнай зелянінай вершалін нізкарослых дрэў. Асабліва вабіў прыглушанай чырванню дашка дом з гародчыкам і садам. Як мусіць там радасна і светла чыніцца жыццё… У зацемненым пакоі, на акуратна засцеленым ложку ляжыць старая. У яе сухенькім, дробным целе кроў запавольвае бег, пакідае многія схроны і лакацыі, ледзяны холад ахоплівае ногі, спрацаваныя рукі ляжаць на немачных грудзях, кончык носа завастрыўся, выцягнуўся і павіс над змярцвелымі вуснамі. Нечаканы сонечны зай-

чык зусім недарэчна забавіўся ў пасме сівых валасоў на скроні, слізгануў па твары, сустрэўся з далёкім-далёкім позіркам выцвілых вачэй, засведчыў знікаючую прысутнасць.

«Шча-сце…» — выгукнулі вусны, застылыя ў вечнай усмешцы.

## ЗБІРАЛЬНІКІ КВЕТАК

Спякотнае марава празрыстай лінзай завісла над травеньскім лажком. І тут і там зацененыя высокімі дрэвамі куточкі хавалі купкі аматараў паласавацца шашлыком, цягнула падсмажаным мясам. З усіх бакоў чуліся галасы: перагукваючыся міжсобку, разрозненыя водгаласы плылі ў паркавай прасторы — долам вяло іх прыглушанае рэха, лучачы ў суцэльны гоман адзінай святочнай застольнай бяседы.

У густой траве на рассцеленых дыванках раскінулі свае прагныя да сонечных праменяў целы ненасытныя загаральцы.

Радасна вішчэлі дзеці. Гіцавалі ў зарасніку, грызліся гуляючы сабакі, тут жа назіралі за хвастатымі пітомцамі, перамаўляліся іх гаспадары. На вузкіх сцежках, саступаючы мінакам месца, чпокалі ракеткамі нягеглыя гульцы ў бадмінтон.

У ідылію ранішняга відарыса сюррэалістычна ўпісаўся адзінокі збіральнік кветак. Малады мужчына даволі працяглы час складаў у букет палявыя краскі. Засяроджана і старанна ён абшукваў кожны кусток, абыходзіў валун, нахіляўся, прысядаў, углядаўся. Жыдзенькі пучок у яго руках прытым ані не багацеў ад шчодрасці яшчэ някошанага лугу. Мабыць, паляваў на якіясь вельмі рэдкія, адмысловыя экзэмпляры, ці то і лекі. Мужчына — збіральнік кветак, рэдкая з’ява, шнураваў досыць доўга ўдоўж і папярок невялікага лапіка вольнага ад дрэваў сонечнага луга. І незаўважна неяк кудысьці знік. Але другі з’явіўся раптам, таксама дарослы чалавек, і з той жа клапатлівасцю заняўся пошукам кветак. Яшчэ з большай стараннасцю нагінаўся і ўглядаўся ў кожную пядзю пожні, расхінаў бадылле дзядоўніку, корпаўся ў мяцёлах сардэчніку і палыну, падкопваў з розных бакоў той самы валун…

Машына, у якую нервова заскочыў з гучным гакам зачыняных дзверцаў і гэты, другі збіральнік кветак, сарвалася з месца, нецярпліва склыгатнула тармазамі на скрыжаванні, панеслася па шашы.

Яшчэ з тыдзень, недалёка, крокаў за дзесяць ад таго каменя, на вузкай сцежцы сабачнікі незнарок чаплялі і перакідвалі нагамі невялікі, але досыць важкі скрутак чорнага поліэтылену, шчыльна аперазанага крыж-накрыж бічаёй. Белы парашок… лавец чалавечых душ і мянялец лёсаў.

## СНЫ

Аддалена здагадваўся я, чым могуць быць тыя шырокія, драўляныя вароты пры агароджаным месцы ў пустым полі: куды прапускалі яны, што падзялялі. Туташняе ў агароджы не мела працягу прасторы і часу.

Хтосьці неварожы сцебануў упрэжанага ў калёсы каня. На іх надзейна мяне ўтрымлівалі мае ногі. Конь маланкай сігануў у вароты.

Ад каго я мушу ўцякаць? Што пагражае мне ў агароджаным месцы? Сюды вядуць сотні дарог, выхад адсюль знае толькі Асобны з ключамі.

Ля самых варот з-пад зямлі чыясьці рука таемна-паспешліва торкнула ў мае рукі старадаўнюю, літую з золата чашу, чарнёны арнамент апавіваў яе вонкавыя берагі. Чырвонае змесціва ў чашы пералівіста зіхацела залатымі блікамі. Хто, калі прыгубляў яе? Хто напоўніў яе для мяне ізноў, чым?

Імгненна выпіў я пададзенае пітво, адшпурнуў непатрэбны сасуд.

Конь вынес мяне ў небяспечнае месца.

Стаў я выкрадальцам чагосьці невядомага.

* * *

Хмара шызых галубоў згортвалася, разгортвалася ў неасветленым небе. Па ёй з канца ў канец прабягалі, перакачваліся хвалі, нібы моцныя чыесьці рукі ў рачной вадзе паласкалі мярэжкавае пакрывала; трымаючы за ражкі, не давалі вырвацца, сплыць па цячэнні.

Галубы як па камандзе спыняліся, нерухома завісалі ў паветры, выпрасталіся, ды раптам, устрапянуўшыся, праплывалі павольна доўгай стужкай туды-сюды. Зноў і зноў развіваліся, скручваліся, сігалі серпантынам у піке.

Пад гэтым палётам, долу панавала ціш, у вечаровай маўклівай слоце сядзела тройца. То не было кампаніяй — кожны сам па сабе ў сваім задуменні, тры жанчыны з аднолькавымі імёнамі.

У дзюбках птушыных, прыгледзеўшыся, можна было заўважыць светлыя плямкі дробных папяровых скруткаў. Галубы скідалі цыдулкі пад ногі жанчын. Першая ўлавіла сваю, другая разгарнула ўзятую з прыполу. Трэцяя, трымаючы ў руках цыдулку, з долу падняла яшчэ адзін скрутачак. Два імя насіла гэта жанчына.

Маліцеся за нас пайменна…

* * *

Гэты сон мне сніўся даўно. Мама яшчэ была жывая. Больш як дваццаць гадоў таму. Я гляджу ў змрочнае неба, зацягнутае наглуха шэрымі аблокамі, чую мамін голас. Тая фраза незразумелая і зусім бессэнсоўная для чытача, а мяне аб нечым важным прасіла: «Прапішы Анечку» — а вось абсалютна не адпаведны словам сэнс, дакладна пераклаў для мяне мой мозг: «Прасі ў Бога што жадаеш. Ён цябе зараз чуе». І з той шэрай нябеснай прасторы раптам хлынула на мяне бязмежная любоў, пяшчота. мілосць, «вечная женственность», пра якую пісалі філасафы Фларэнскі, Салаўёў і Данііл Андрэеў. Мая душа «лікавала» , а прамовіць пасмела я толькі вось гэтыя словы: «Госпадзі, за ўсё на свеце дзякую табе…» Калі прачнулася, любасць яшчэ перапаўняла маю душу. І радасць, што нічога не прасіла. Жыццё і без таго ШЧАСЦЕ.

* * *

Калі споўніўся год па смерці маёй мамы, на адно імгненне яна мільганула ў маёй свядомасці. Я толькі паспела запытацца: «Ці бачыла ты святых?» — «Няма тут ніякай жызні», — адказала мама. А я ёй упэўнена: «Не, гэта для кожнага сваё». Прайшлі гады, і ўжо мая мама ў сне мне наказвае: «Маліся толькі Хрысту і Багародзіцы» — прадбачаючы здалёк, якія тут у нас пойдуць страшныя часы падмены багоў…

# АПАВЯДАННІ

## ШАПЭН. ЧЫЖОЎКА. COVID

Дзясятая бальніца, гінекалагічнае аддзяленне, часова аддадзенае, як і многія з іншых, пад наплыў хворых на COVID. Адзінаццаць палат, набітых да адказу, дзве з іх пераабсталяваныя ў рэанімацыю: бясконца гудуць апараты штучнай вентыляцыі лёгкіх — піў, піў, піў, пляўмб, піў, піў піў, пляўмб. Адна з палат мае тры жыццядайныя крыніцы кіслароду: дзве паасобку і адна беражліва падзеленая на два ложкі — так атрымліваецца выратаваць ужо чатыры душы… Кісларод тут — жыццё. Яго не хапае, яго вымяраюць кожныя паўгадзіны спецыяльным прыборчыкам, насадзіўшы на палец (раней пра такія ніхто не чуў, а зараз інтэрнэт-крамы прапануюць на любы густ і кошт): шчоўк — 97! Ты шчаслівчык, твой арганізм кіслароданезалежны нават пры вірусе. Не — ты хворы, ты не здольны нармальна дыхаць, але твой арганізм выпрацоўвае неабходную колькасць кіслароду, нягледзячы на перашкоды. Шчоўк — 90, 89, 76… Катастрофа! Чалавечы мозг не здолен працаваць у такім жорсткім кіслародным голадзе. Трэба даць падыхаць — а крыніц такога кіслароду ў аддзяленні няма. Бываюць яшчэ кіслародныя міні-балонікі, як у аўтамабілях хуткай дапамогі. Чамусьці ў стацыянары такіх не прадугледжана.

Кіслародныя крыніцы, створаныя па гейзерным прынцыпе, таксама гудуць, булькаюць, пчыхаюць, усё гэта з пастаяннымі рэанімаапаратамі і айчынным апаратам па зніжэнні цукру ў крыві, які чамусьці падключаюць па начах і ён (чамусьці) бясконца выдае гучны піянерскі горн: тру-ту-ру-ру! Тру-туру-ру! Ствараюць у аддзяленні бальніцы цалкам адзіную містычную какафонію гукаў: моцных, страшных, навязлівых, агрэсіўных, палохаючых. На фоне высокай тэмпературы,

ціску, у забыцці кавіднага брэду гукі перараджаюцца, складаюцца ў шматгалосныя хары, жудасныя каманды «ваенных робатаў», невыносны плач дзяцей і енк бабуль…

* * *

Сёмая палата. Якраз тая — кіслародная. За поўнач. На трох ложках ляжаць непрытомныя пацыенты. Тут амаль усе ляжаць у беспрытомнасці, нават тыя, каму пашчасціла выздараўліваць: вочы не раскрываюцца, мозг адпачывае ад самых простых рашэнняў і задач.

Бабуля з чацвёртага ложка, як сабака Паўлава, прывязаная за галаву да кіслароднай крыніцы, топчацца ля сваёй тумбачкі і штосьці есць. Яна не здольна адхіліцца больш як на крок улева ці крок управа, бо кароткі провад адразу адарве яе ад кіслароднай маскі. На ёй пачэплены мачавы катэтар, і сумка з жоўта-бурай вадкасцю цягаецца па падлозе. У палаце, на фоне усіх раней пералічаных гукаў, раптам раздаецца тэлефонны званок. Гэта якісь асобы, невыносна электронна-металічны, надрыўны сігнал, заведзены пад здзеклівае, робата-камп’ютарнае «выкананне» вальса Фрэдэрыка Шапэна. Ён перабівае ўсе раней пералічаныя гукі бальніцы, і хворыя ўскідваюць галовы над падушкамі.

— Што тут робіцца?!

— Зараз жа адключыцця!

— Што за грамафон?

— Які дурань тут радыё ўрубіў?!

Бабуля са старанным паклонам пачынае тлумачыць:

— Даражэнькія мае, я вельмі выбачаюся. Ва ўсім свеце я адна-аднюсенька, і ў мяне ёсць адзін у свеце сын. Я яго вельмі люблю, і ён мяне любіць. Дазвольце мне з ім пагаварыць па тэлефоне.

— Дык гавары! Чаго гэты тэлефон раве на ўсю моц!

Бабуля пачынае дацягвацца да свайго апарата, які мусіць увесь час стаяць у стацыянарным сядле для падзарадкі, падключаны да разеткі, але не дацягваецца, яе маска не дазваляе наблізіцца. Пакуль яна караскалася на ложак, каб нагой падчапіць апарат, — той змоўк.

У палату купкай уляцелі санітаркі, медсёстры, дактары. Яны праварочваюць чарговую аперацыю — як, каго і куды перасяліць з ложка на ложак, каб даць падыхаць кіслародам камусьці вельмі небяспечна хвораму. Санітаркі, да зубоў апранутыя ў белыя камбінезоны, такія ж

медсёстры, такія ж дактары — толькі вочы. Малодшы персанал жангліруе бялізнай, асабістымі рэчамі перасе, ленных хворых, медсёстры перавозяць з рэанімацыі пацыента. Адлучанага ж ад крыніцы — альбо коцяць у палату без кіслароду, альбо зноў у рэанімацыю.

— Што гэта бабуля трушчыць? — мімаходзь і зусім безудзельна пытаецца «маленькі доктар», аброслы пад маджахеда, у круглых акулярах і з празмерна эмацыйным візглівым голасам. Ён тут не іграе асобай ролі — ці інтэрн, ці студэнт на дзяжурствах у ноч. Ад яго тут мала што залежыць, акрамя настрою, ды настрой для хворых — самае важнае.

— Таблеткі тут ёй ссыпалі днём у каробачку — есць, — адзываецца спрасонку хтосьці з пацыентаў.

Купка медперсаналу збягае. Бабуля стаіць ля тумбачкі. Зноў раздаецца званок тэлефона. Зноў абураюцца сярдзітыя на беспакойства хворыя.

— Адключы зараз жа!

— Даражэнькія мае, мілыя людзі. Я адна ў цэлым свеце. Акрамя майго любага сына ў мяне няма з кім слова сказаць. Дазвольце мне пагаварыць з маім любімым сынам…

— Дык гавары! Чаго трашчыць тэлефон?!

Бабуля спрабуе дацягнуцца да апарата, «бедны Шапэн» ганяе чацвёрты квадрат, але ў самы адказны момант апарат адключаецца.

* * *

І вось глыбокай ноччу пачынае сыходзіць вірус. Ён зліваецца з кожнай поры хворага цела смяротна-ледзяным потам. Усё, што пад табой, — лужына, усё, што на табе, — хоць выкручвай. Набрынялая халоднай вільгаццю падушка, коўдра, прасціна, кашуля… Ні аднаго сухога рубчыка-шоўчыка. І ў свеце, здаецца, няма сухой лісцінаечкі схавацца ад гэтай сцюдзёнай макраядзі. Але так з цябе выходзіць вірус.

* * *

Падселеная дыябетычка Бандзік відавочна ў крытычным стане. На яе напхнулі маску, яна задыхаецца. Побач прыстаўлены апарат для зніжэння цукру ў крыві. Жанчына распавядае сама сабе сваю «праблему». Яе гаворку абсалютна ніхто не чуе, бо хворыя таксама ў цяжкім стане, але яна не спыняецца ні на хвілінку, задыхаючыся вядзе аповед:

— Я мусіла ўсё золата кінуць у гардэробе. У мяне і пярсцёнак быў, і ланцужок, і завушніцы такія вялікія, харошыя. Яшчэ тэй раз, як у Польшчу ездзіла, купіла сабе. І на правую руку пячатку ўзяла і такі харошы брандзалецік на запясце. Я і ўнуку пячатку такую з «чорным памазаную» падарыла — няхай будзе. Я яго гадавала. У мяне шмат золата…

— Адчапіцеся, калі ласка. Мяне золата з роду не цікавіла. Навошта вы яго ў бальніцу чаплялі?!

— А я заўсягда з золатам хаджу — і ў гарод, і ў поле, і па дому. Я люблю. Мне наравіцца. Я яшчэ тэй раз узяла сабе ў Польшчы, як ездзіла па тавар. І пярсцёнак, і такі доўганькі ланцужок.

Гучыць «Шапэн». Бабуля хацела распачаць тлумачэнне пра адзінага сына, ёй пачалі крычаць.

— Хапай трубку!

— Што ты гняздо трымаеш у нагах? Пастаў пад самае вуха ля падушкі і адразу хапай!

Яна паслухалася, перацягнула зараднае гняздо пад падушку, але тэлефон змоўк, і бабуля засталася без навін ад сына.

У палату зноў убегла купка медперсаналу.

— Дзе ўзяць кіслароднае месца?! Трэба яшчэ адну дыябетычку падсілкаваць! А што гэта бабуля трушчыць увесь час? — безудзельна пытаецца хтосьці з персаналу.

— Дык пігулкі. У яе з сабой яшчэ прынесена торбачка…

Цяжкую хворую пераводзяць назад у рэанімацыю, новую засяляюць у куточак палаты. Жанчына ні на што не рэагуе. У яе дзве нагі відавочна скурочаныя і пад рукамі заўсёды глыбокай пасадкі кавёлкі, якія увесь час валяцца на падлогу, ствараючы вялікую небяспеку і нязручнасці.

Адчыняюцца дзверы, завозяць перадачы.

— Маруга! — граком выкрыквае санітарка.

— Вунь яна, з кавёламі у кутку. Але яна нічога не чуе, бо «псіхічэская» зламала яе слыхавы апарат.

Перадачы тут амаль заўсёды аднолькавыя — некалькі бутэлек вады. Ваду ставяць на ложак да Маругі, жанчына не рэагуе.

## Праходка галоўнага ўрача бальніцы

Уся сістэма вымуштравана пад паказны абход дактароў, які адбываецца раніцай пад гадзін дзесяць. Санітаркі шаруюць тумбачкі, падаконнікі, падлогу, выносяць мачу з суднаў, перасцілаюць свежую бялізну. Зусім аўрал, калі па бальніцы надумае прайсці галоўны ўрач. Шчупленькі, лёганькі, з яснымі ўзірыстымі вачамі доктар, апрануты ў супер-амуніцыю, з маскай на твары, у абаронным камуфляжы ціха ступае па калідоры. За ім цягнецца хвост світы. Галоўны доктар падыходзіць да абранага пацыента, дапытваецца, чым той незадаволены. Да хворага падбягае дзяжурная ўрачыха, заціскае на твары шчыльна кіслародную маску, бясконца паўтарае хвораму ў твар:

— Не здымайце маскі! Не адкрывайце рот! Нічога не кажыце — вам нельга.

Пацыент мімічна круціць вачамі, галавой, рукамі. Галоўнага доктара адводзяць. Дактарыха раздражнёна запытваецца ў «міма»:

— Што вам трэба?! Чаго не хапае?!

— Мне б кіпяточку. Горла дзярэ. Нідзе не знайсці гарачага…

Урачыха безудзельна збягае за світай.

— Звольняць! — пальцам тыкае галоўны доктар у выпадковага хворага, які без маскі прakрадаецца ў прыбіральню. — Вас звольняць! — звяртаецца ён да загадчыка аддзялення, сіняга колерам твару, як баклажан, ад пастаянна павышанага ціску і ўзбуджаных нерваў мужчыны гадоў пяцідзесяці.

— Дык ясны пень — мяне… Толькі хто ж працаваць будзе… — ціха прамаўляе той сам сабе пад нос.

* * *

— Г-га! Ратуйце! Людзі! Забіваюць! Рэжуць! Я заслужаная. Ветэран працы! У мяне граматы! Я вас тут выведу на чыстую ваду! Пра ўсіх! Куды трэба! А-а-а! — звярыны рык пачынае раздавацца пад ноч. Жанчына з яўным азначаным дыягназам выбягае, развязаўшыся, на калідор.

— О! Гэты паўпадвальчык я сама прыватызую!

— Гэта восьмы паверх.

— А як я сюды трапіла?

— Па хуткай.
— Адпусціце мяне! Адыдзіцеся! Пакалечу! Гады! Я вас першы раз бачу! Забіваю-у-у-уць!!! Гра-а-а-р-р-р!!!
— Паклічце псіхіятра!
— Прыходзіў.
— Чаму не забраў?
— Дык яе ж спачатку трэба вылечыць ад кавіду.

* * *

Ля сёмай палаты з кіслародам спыняецца санітарка, разносчыца перадач ад родных. Яна ўносіць у палату новы тэлефонны апарат. Такі ж вялізны, у стацыянарным зарадным гняздзе і з такім жа, хутчэй яшчэ грамчэйшым, электронна-металічным сігналам. Раздаецца «Шапэн». Хтосці з хворых не вытрымлівае, націскае кнопку, апавяшчае ў сувязную прастору:
— Бабуля спіць!
Заходзяць дактары і медсёстры з паўсядзённай праблемай — каго адлучыць ад кіслароду, каб даць падыхаць цяжкому пацыенту. Яны нанізваюць на палец спячай бабулі аксіметр і заўважаюць, што пры скінутай у сне масцы ў яе не бракуе сатурацыі.
— Хуценька! Бабулю ў чацвёртую. Сюды — з рэанімацыі.
Разбудзіць бабулю не ўдалося. Яна ўзнімала галаву, тарашчыла вочы і нічога не разумела. З чацвёртай палаты раз-пораз даносіўся гучны «Шапэн» і раздражнёны голас «маленькага доктарчыка», ад якога мала што залежыць у бальніцы.
— Я вам дзясяты раз тлумачу — вас перавялі ў бескіслародную палату! Прачынайцеся! Як вас завуць? Як ваша прозвішча?!

## Другая праходка галоўнага ўрача бальніцы

Тая самая світа. Той самы закамуфляжыраваны доктар з разумным учэпістым позіркам жоўтых, як у рысі, вачэй. Той самы абраны пацыент, якому дзяжурная дактарыха не дае зняць кіслародную маску, каб адказаць на пастаўленае пытанне.
— Ці ёсць якая незадаволенасць?

— Не здымайце маскі ні на хвілінку! Не разявайце рот. Маўчыце! Вам небяспечна без кіслароду!

Хворы круціць мімічна вачамі, галавой, рукамі, паціскае плячамі… І тут галоўны ўрач за яго спінай заўважае! На тумбачцы міні-кіпяцільнічак грэе ваду. Яна ў кружцы амаль выпарылася, і на вачах ствараецца жудасная пажарная небяспека.

— Звольняць! — тыкае ў кіпяцільнік пальцам галоўны ўрач бальніцы. — Вас звольняць! — удакладняе ён, гледзячы ў твар загадчыка аддзялення.

— Дык ясны пень — мяне… Толькі хто ж працаваць застанецца?

— Што вам трэба? — раздражнёна дапытваецца адсталая ад світы дактарыха.

— Дык у горле дзярэ. Мне б кіпяточку.

* * *

Наташку, якую перавялі на месца бабулі з рэанімацыі, ахапіў драпежны жор. Яна, апратаўшы вельмі немаленькі рацыён дзённага бальнічнага сілкавання, пад ноч наелася з дзвюх пяцісотграмовых біг-магаў бульбянога пюрэ, яшчэ тры салодкія конаўкі па трыста грамаў узбітага тварагу, яшчэ цэлую стаграмовую шакаладку з арэхамі, яшчэ каробку «Рафаэла»… Выпіла тэтрапак салодкага гранатавага соку… Яе насіла ўсю ноч ў прыбіральню, яна ўзняла сабе ціск да недапушчальнай мяжы, яна крычала — ратуйце! І ёй моцна не хапала вады і кіслароду…

* * *

«Шапэн» з чацвёртай палаты ганяў квадраты. Бабуля не прачыналася на працягу тыдня. Лёгкая медсястрычка падскоквала зрабіць ёй укол, пытала безудзельна ў прастору:

— Ну як здароўе, бабулечка? Сынок дазваніўся? — і збягала, не чакаючы адказу.

* * *

— Маруга! — граком выкрыквае прозвішча санітарка — разносчыца перадач, спыняе позірк на сёмай палаце.

— Вунь яна, у тым кутку. Але яна нічога не чуе і не бачыць. Ёй «псіхічэская» патаўкла акуляры.

На ложак ускладаецца чарговая партыя бутэлек з вадой. Зусім не зацікаўленая падзеямі Маруга сядзіць пад кіслароднай маскай.

* * *

У спячай бабулі зусім выпадкова заўважаюць жудасную гематому на ўвесь правы бок са спіны і на грудзях. Яе абстаўляюць каштоўнымі кропельніцамі крыві і плазмы, літрамі моцных прэпаратаў. Возяць беспрытомную на гукавое даследаванне і рэнтген… Хірург чакае да аперацыі. «Шапэн» гучыць. Пацыенты паведамляюць у прастору:

— Бабуля спіць.

Як раптам грамавержцам на ўсё аддзяленне раздаецца ясны голас спячай бабулі:

— Я ўсё зразумела!

У праёме палаты адразу гронкамі навешваюцца вочы, вушы, галовы хворых, санітарак, медсясцёр, дактароў…

— Кажы!

— Ну?

— Што?

— Мы ж чакаем!

— Хутчэй!

— Ай! Трызніць яна. Беспрытомная. Што яна там зразумела?!

— Я ўсё зразумела! Нас абдураць! — не адплюшчваючы вачэй, ясна прамаўляе «спячая прарочыца».

— Г-га-а!

— Ха-ха-ха!

— Нас даўна надурылі.

— Во дык адкрыццё…

Незадаволеныя прароцтвам разбрыдаюцца па сваіх месцах. Гучыць «Шапэн». Хтосьці націскае вялізную кнопку і апавяшчае ў прастору.

— Бабуля спіць.

Прабягае замяніць кропельніцу маладзенькая сястрычка. Яна бездзельна бадзёра звяртаецца ў нікуды:

— Як здароўе, бабулечка? Ці дазваніўся сынок? — збягае, не чакаючы адказу.

## Трэцяя праходка галоўнага ўрача бальніцы

На гэты раз галоўны доктар перахоплівае пэўнага пацыента ў калідоры і даводзіць:

— Вы справіліся з хваробай! Віншую вас! У вас выдатныя аналізы і здымкі!

— Дзякую! Гэта праз добры дагляд.

— Нягледзячы на лячэнне, пацыент папраўляецца… — жартуе Баклажан, загадчык аддзялення. — Напішыце падзяку на сайт.

* * *

Шляхетнага выгляду Маруга з індпашытымі артапедычнымі аксамітнымі чурбачкамі на ступаках і глыбокімі кавенькамі — пад самы локаць — уяўляе сабой якуюсь вельмі пікантную, кволую жаноцкасць. Выходзіць з палаты.

— Як адсюль выйсці?

— Вельмі проста — па калідоры і ўніз ліфтам.

* * *

У чацвёртую палату заносяць новы тэлефонны апарат. Ён такі ж вялізны, у стацыянарным зарадным гняздзе, ён так, як і ранейшыя, выдае «Шапэна» электронна-металічным гукам на ўсю бальніцу. І — о, ЦУДЫ! Раптам прарываецца сувязь, спячай бабулі пад вуха торкаюць тэлефон і яна крычыць свайму сыну:

— Сынок! Малю напрамілы бог — не харані! Ніякіх пахаванняў! Такія шалёныя расходы. Вось як ёсць — так няхай і будзе. Без застолляў, без вянкоў. Малю цябе, сынок. Не харані! Расейскай радні — ні на шаг! Каб і паваду тут іх не было! Такія расходы! Дзетачка, мілы мой, я табе проста загад апошні даю — без усялякіх пахаванняў і працэсій…

— Мама, вы жывая!

## «КОГДА Б ВЫ ЗНАЛИ, ИЗ КАКОГО СОРА...»

Тэлефанавалі з рэдакцыі: «Чаму цураецеся нашага органа? Не жадаеце пазнаёміць чытачоў роднага горада са сваёй творчасцю? Дайце падборку — надрукуем».

Я люблю чытачоў. Творы падабрала, выслала. Надрукавалі ў двух нумарах з прыемнай прадмовай. Дзякую!

Прыходжу ў бібліятэку, вітаюся — на мяне з-пад ілба хітрым вокам паглядае бібліятэкарка.

— Ой, пакрыўдзіцца Віцька…

— Які Віцька?

— Быццам не ведаеце!

— Нават і не здагадваюся.

— Апавяданні вашы ў газеце надрукавалі. Чыталі людзі — яму давядуць…

— Каму?

Я шчыра не разумела, пра што гаворка.

— Не прыкідвайцеся. Там жа пра Віцьку вы пісалі. Усе адразу здагадаліся.

— Пра якога Віцьку?

— «Шалёны», — бібліятэкарка па-змоўніцку хіхікнула і падціснула вусны. Толькі цяпер да мяне дайшло, што сапраўды ёсць у пасёлку чалавек з такой мянушкай. І ён мой сусед! Мінаючы мяне штодзён, Віктар Пятровіч радасна вітаўся і, называючы чамусьці Аляксандраўнай (Фёдараўна я), узнагароджваў пяшчотнымі словамі.

— Прыгажуня! Аляксандраўна, здрасці! Як жызня, красачка мая? Артыстка!

Зразумела: папалася як пац у пастку. Не ўдасца мне апраўдацца перад ім і чытачамі, калі бібліятэкарка, адукаваная жанчына, не разумее, як узнікаюць і нараджаюцца літаратурныя героі. Нават той, што сілкуецца сапраўдным прататыпам, з першых радкоў вышмыгвае з-пад пяра, вядзе сваё самастойнае жыццё. А ў маім названым апавяданні, дык і конь не валяўся! Дарэчы, конь! Па дарозе дамоў я ўспомніла, што і конь «ягоны», Віцькаў! (Бл-ля-ха-му-ха! Не лаючыся.) Я вярта-

лася з бібліятэкі пыльным мяхом агрэтая. Параўнала факты і ўбачыла — Віцька выходзіць! А пачынала свае радкі зусім не ад «той печы».

Героем і яго прататыпам быў мой бацька. Ва ўсім! Сёстры пацвердзяць без сумневу. Асоба ярка выяўляўся яго характар падчас якойсьці важнай справы: абмяшаць соткі, пасадзіць бульбу, акучыць лехі, забаранаваць поле. Ён не быў конюхам, але сам спраўляўся з гаспадарчымі работамі. Маё апавяданне напісана з яго вобразу: выразы, словы, паводзіны. Да падсвядомага вобразу, яшчэ не перанесенага на паперу, з часам дамаляваліся рысы знешняга выгляду: твар, постаць, вопратка, абутак, звычкі, постава іншага чалавека, конюха з вёскі Галубічы, які дапамагаў абараць ужо наш, маёй сям'і, надзел зямлі за льнозаводам. Галубіцкі конюх прыганяў на поле каня, спрытна перапрагаў, яго яшчэ чакала шмат гаспадароў. Ашчадна ганяў коніка, размаўляў з ім бы з чалавекам, шкадаваў, ведаў, як цяжка жывёле вясновай парой. Назіранне за гэтым чалавекам стала штуршком для напісання, задумалася апавяданне ўпершыню і аформілася ў канчатковы літаратурны твор толькі пасля сустрэчы з сапраўдным конюхам, але галоўным героем усё ж па-ранейшаму заставаўся мой бацька.

Як трапіў у твор Шалёны?

У старой музычнай школе, дзе я працавала дырэктарам, патрабавалася кожны год чысціць коміны. Горкая забота. Многія віды работ у савецкай сістэме працоўных стасункаў былі не прадугледжаны: не абдуманы пакрокава, не даведзена да толку папяровае афармленне найму-разліку самых неабходных спраў у бюджэтных арганізацыях.

Пажарны інспектар па праве патрабуе чысціць коміны кожнай восенню. Хто палезе на стары стромкі дах? У калектыве дванаццаць выкладчыкаў-дзяўчат і дырэктар-жанчына з прыбіральшчыцай зусім не маладога веку (маладая на бюджэтны заробак тэхнічкі не пойдзе), якую гвалтам (!) на зімовы перыяд змушаюць амаль дарма (бо ў школе дзевяць печак, а на стаўку назначана дзесяць, вось і даюць за цяжкую работу паўзарплаты — капейкі) працаваць апальшчыкам. Дзе знайсці грошы, каб заплаціць чалавеку, калі нават такога знойдзеш, які палезе на стары, кволы, стромкі дах закапанскага стылю будоўлі — рызыкаваць жыццём? Не цікавіла ў дзяржаве гэта нікога. Чысці, іначай — штраф. Так было не толькі з комінамі.

Прыходзілася купляць са свайго заробку паўлітры, прасіць абкасіць траву вакол школы, абрэзаць кустоўе, зашкліць вокны, адрамантаваць плот. Самі павінны былі разгрузіць «Калхіду» з прычэпам брыкету, бутэлькай задобрыўшы вадзіцеля, каб той зменшыў у пуцявым дакуменце час прастою машыны, якую інструкцыя, напісаная разумнымі галовамі чыноўнікаў, патрабавала разгрузіць за чвэрць гадзіны. Штраф плаціла, пакуль не падказалі ход з паўлітэркам.

Пасля выпадку ў краіне снегавога абвалу з дахаў са смяротным вынікам чыноўнікі паспяшаліся адмазацца ад адказнасці і грамадскай увагі паўсямеснымі лістамі з загадам ачышчаць дахі ад снегу. Хто кінецца на экстрым, да таго ж зусім не аплачваемы, іх не хвалявала, як не хваляваў і вынік іх загаду: ад небяспечных мерапрыемстваў без страхоўкі, без прафесійнай падрыхтоўкі ахвяр пабольшала, з даху пачаў падаць не толькі снег, але і тыя, хто чысціў дах.

Наша школьная прыбіральшчыца дамовілася са сваім знаёмым конюхам, каб той прыйшоў у выхадны, пачысціў за пяцёрку коміны. Так вось рашаліся праблемы дзяржаўных бюджэтных устаноў.

Я бачыла, як мужчына чаўнаком снаваў туды-сюды вакол школы, быццам не адзін — нанятая брыгада працуе. Пытаю прыбіральшчыцу:

— Хто гэта так рупліва дзелаваў, аж віхур насіўся?

— Шалёны, — паведаміла жанчына.

Перапытваць, хто такі Шалёны, не мела сэнсу — па маладосці веку я мала каго ведала ў той час у пасёлку, прыезджая была. Але мне надта спадабаўся і той рух, які ўсчыніў чалавек, і яго дапамога, і прозвішча (так думалася мне). З тым чалавекам пасля па збегу абставін мы сталі суседзямі. Віктар Пятровіч жыў праз плот, і была у яго між намі, суседкамі, свая мянушка — Унук. Вось маё алібі — Шалёны заставаўся дзесьці далёка, толькі ў маёй памяці, і зусім не вязаўся з гэтым вось канкрэтным чалавекам, маім суседам.

А вось і яшчэ адно алібі…

Мяне мой бацька змалку называў Васільком. Я дваццаць гадоў была Васільком і любіла гэта, другое, імя. Мне хацелася дзесьці яго ўвекавечыць. Вось для назвы коніка і ўзяла, але маніць буду, калі скажу, што ніколі не чула, як праз плот мой сусед-конюх клікаў свайго каня Васільком. Тут хто як жадае, так і разважай! Адно апраўданне ў мяне ёсць: калі пішацца твор, зусім не думаеш на той момант, дзе і калі ты

чуў якіясь прыдбаныя жыццём словы, рэплікі, успаміны, эпізоды, як у калейдаскопе — круцяцца шкельцы памяці, складаюцца ў самастойнае жыццё.

Абышоўся мне той выпадак. Сусед, Пятровіч, са мной пра літаратуру не гаварыў. Вітаўся па-ранейшаму прыязна, радасна, хоць «добразычлііўцы» і парупіліся ўвесці яму ў вушы «крыўду», і нават мне далажылі — хто і як увёў.

— Галубка мая! Аляксандраўна, здрасці! Ну ж красівая! Ну ж царыца!

Я хутка забылася пра размову ў бібліятэцы. Менавіта таму, што «ні вухам, ні рылам», сябе не лічыла вінаватай. Проста начыста выпаў эпізод з маёй галавы.

І вось яно, маё трэцяе, алібі. Каб я сапраўды пісала з суседа — пашкадавала б чалавека, больш не кранула б тое апавяданне. Дык жа запамятала, як белы ліст! Таму што не было падставы хавацца.

Мне прапанавалі выдаць кнігу. Усё лета я працавала над рукапісам і па парадзе рэдактара выдавецтва — «маляваць» менавіта гэты самы твор — я яго і размалявала яшчэ шырэй. І вось поштай прыходзяць бандэролі з першай маёй кнігай.

Сустракаю суседа.

— Чаго вы да мяне дачапіліся? — пытаецца.

— Не разумею, — у мяне ж зноў начыста выпала з памяці падабенства.

— Пішаце і пішаце пра мяне, то ў газеты, то ў кніжкі!

— ???

— Адчапіцеся ад мяне!

Гэта красамоўная заява ацвярозіла і дадала мне памяці. Нарэшце дайшло.

— Я ніколі пра вас нічога не пісала.

— Там усё пра мяне — точ у точ, слова ў слова!

— Ну! Калі так, якая можа быць крыўда за праўду?

— Я ў суд падам!

— Гэта разумны ход! Можа, там растлумачаць вам, як пішуцца кнігі і як іх чытаюць.

Больш мы з суседам не віталіся. Чула: яго скруціла паралюшом, ён жа іншы раз браў лішняе на грудзі. Праходзіць нядоўгі час. Я лена кор-

паюся на сваіх градах. Бачу праз плот бакавым зрокам: мой мілы сусе-дзе выйшаў на двор. Дзякую Богу — ачуняў мужчынка. Набліжаецца да плота. Я рэціруюся, крок за крокам даю задні ход — навошта муліць вочы хвораму чалавеку без патрэбы.

— Аляксандраўна. Слухайце сюды.

Віктар Пятровіч стаў неяк бокам да плота, махнуў рукой у мой бок і цішэй загаварыў.

— Давайце мы з вамі будзем мірыцца і жыць як людзі. Забудземся пра ўсё. Вы мне даруйця — я вам.

— Дык я і не маю ніякай крыўды. Заўсёды рада вас бачыць і чуць…

Так і разышліся мірна. Зноў ён мяне вітае са сваёй прысценнай лавачкі:

— Красачка мая! Здрасці, Аляксандраўна! Калі ўжо вы пастарэеце?

## «ЗАМЕЖЖА НАМ ДАПАМОЖА»

Еду ў агульнаграмадскім транспарце, маю ўвагу палоніць купка смуглявых іншаземцаў: не тое каб выглядам (да гастарбайтэраў наша вока ўжо звыклася) і не паводзінамі — людзі трымаюцца даволі пры-стойна. Вуха ўвесь час ловіць настойлівыя і незразумелыя, але чым-сьці знаёмыя гукаспалучэнні: «Каляляська, каляляська, дабыдзень, тапапацена…» І тут нарэшце да мяне даходзіць, што чую я родную мову, толькі з моцным акцэнтам. Аж вочы акругліліся! Разумею: но-вых работнікаў бывалы праваднік, які, па ўсім відаць, ужо і «зубы тут з'еў» — так добра арыентуецца ў геаграфічнай прасторы, і нават у ку-льтурным асяроддзі, навучае, як трэба сябе паводзіць у чужой краіне, а тыя старанна слухаюць і паўтараюць за ім новыя словы.

— Куды ні зойдзеце, — кажа настаўнік-кіраўнік, — кафэ, магазін, цырульня — паўсюль абавязкова кажыце перш за ўсё: «Вітаю, да-брыдзень, калі ласка, выбачайце, да пабачэння…»

Такая міласць ахапіла мяне да гэтага чалавека — дзе ж гэта ён чуў, каб у Мінску ў кафэ, магазінах ці цырульнях так размаўлялі гаспада-ры і наведвальнікі?

Яшчэ выпадак: летам на Нямізе сучасны, модна апрануты з тэле-камерай у руках негр (няхай прабачаюць мяне носьбіты цёмнай ску-

ры — я не здзекліва, ад няведання яго грамадзянства і нацыянальнасці, кажу — негр) браў кароткія інтэрв'ю ў мінакоў на чысцюткай беларускай мове. Магчыма, ён тут нарадзіўся, але… з якім спрытам, гонарам, годнасцю ён карыстаўся нашай мовай.

У шараговай школцы Маскоўскага раёна сталіцы ўзяліся адкрыць першы беларускамоўны клас. Якраз у гэту школу наважалася ісці першакласніцай мая ўнучка. Настаўнікі папярэджвалі: толькі калі набярэцца спіс з пятнаццаці прозвішчаў — клас будзе працаваць на беларускай мове. Чакаем верасня. Ідзём з букетамі і спадзяваннямі. Ажно набралася аж дваццаць пяць вучняў! Радасці няма мяжы! Узіраюся ў спіс, многія ж дзеткі мне знаёмыя яшчэ ад садка, чытаю: Шай і Флорэнс — бразільянцы, Эмір Бюкер — яго бацька з Турцыі, маленькі мулат Іртыза Мухамед, Арнольд Хардтман… Мае вы беларусікі! Нізкі вам паклон і шчырая ўдзячнасць! Даю волю цікаўнасці, па-суседску пытаюся, бо ведаю, як няпроста кіравацца дзецям пры такім шматмоўі ў сям'і. Напрыклад, партугаламоўная бразільянка-мама размаўляе з рускамоўным беларусам-татам (інтэрнэт-знаёмства) на ангельскай мове. Ды яшчэ беларускі клас!

— Навошта вы аддалі дзяцей у беларускамоўны клас?

На мяне глядзяць з непадробным здзіўленнем.

— А як іначай? Гэта ж краіна будзе для нашых дзяцей радзімай. Хіба можна не ведаць роднай мовы?!

## З ІНТЫМНАГА ЖЫЦЦЯ СТАРЭЧЫ

Тэлефонны званок разбудзіў рана, ноч зноў выдалася бяссоннай, сабраўся даспаць, крыху палепшыць самаадчуванне, толькі задрамаў — так лёгка, лагодна, у нейкім маладым флёры, і — на табе, як у сэрца нажом, бы кіпнем абдало, нават ціск, адчуваецца, падскочыў. Званок, рэзкі — гук забыўся адключыць з вечара: на летніку столькі занятку — ламаюцца гарадскія побытавыя звычкі, парушаецца рэжым. Зірнуў у экранчык.

Жанчына! Лежачы размаўляць нязручна, задушліва, трэба было б падняцца з ложка. Мужчына пачаў хапацца рукамі за тумбачку, уставаць — ды нялоўка, выкруціў руку (пасля пераломаў абедзве тры-

маюцца на тытанавых прэнтах), слізгануўся босай нагой па падлозе, шмаргануў мезенцам аб рог металічнага брыжа да крыві, востра забалела. Тумбачка праехала ўздоўж падаконніка, з яе пасыпалася дробязь, якую прыходзіцца выкладаць кожным «вечаровым цыклам» на ўсялякі выпадак: сардэчнае, акуляры, пігулка ад высокага ціску, вада ў кубачку пад накрыўкай, насоўка, слоўнікі: нямецкі, старагрэцкі, ідыш, іўрыт, — тое-сёе з папер, аловак — зафіксаваць думкі, намёткі будучага артыкула, які раптам — дасць бог — прыйдзе ў галаву. Каб не ўставаць лішні раз, не напружваць балючыя суставы, мусіш сістэмна размяркоўваць, старанна абіходжваць усе свае «рэдуты, плацдармы і стаўкі».

Апошнія гады пачала круціцца галава, нарушыўся вестыбулярны апарат: пакуль звыкнешся з палажэннем непаслухмянага «цялеснага корпуса ў прасторы», ды пакуль давядзеш рух-хаду да рытмічнай аўтаматыкі — бяда! Не раз і стоць галавой здаралася кульнуцца ў сваімі ж рукамі пульхна ўскапаную глебу добрасумленна аздобленай грады. На чатырох падпаўзаць, хапацца за штось даючае супраціў, аб што можна аперціся, ускараскацца. Вялікая сіла — апора! Фізічная, духоўная, маральная…

Памятка: «Апорай здольна быць толькі тое, што супраціўляецца». Пад крокі ўрачыстыя дзявятага дзясятка жыцця нехаця становішся філосафам.

Гарод? Навошта ён, грады… Каб самаму сабе даказаць: маеш сілы! Каб не залежацца, не заснуць на хаду.

Жанчына! А ўстаўныя сківіцы кудысьці прапалі. Добра памятаў, выняў іх з рота і паклаў у чысты раствор з адмысловай пігулкай для ачышчэння. (Дзялі яе напалову: выдатна спраўляецца з задачай, навошта дарэмныя траты.) Вось прывычнае месца для слоічка — аказалася занятым: учора шмат чаго давялося перарабіць па гаспадарцы на летніку: выдзер з ляхі агурэчнік, засеяў рэдзьку масляністую (абагачае грунт), сабраў гарбузы з усяго поля: абяцалі замаразкі, шкада трудоў — мусіў зарана адсячы іх ад жывога, яшчэ зялёнага былля. Яно шнурамі распаўзлося, прарасло аўтаномным карэннем пад кожным лістом па ўсім гародзе. О, думка! Трэба артыкул пісаць асацыятыўны: гарбузы на полі як сімвал грамадскага ўкладу. Не! Лепш так: гарбузы як алегорыя аднаго з галоўных складнікаў грамадзянскай супольнасці. Аловак — замацаваць…

Гэта ж да якой ступені прырода сябе абараняе і забяспечвае, прадугледжвае выбрыкі надвор'я. Расло б гарбузінне, сілкуючыся толькі адным цэнтральным коранем, што вырасце падчас анамальнай засухі? А калі пакласці адказнасць на ўсю сістэму, пры кожным атожылку — сваё карэнне, ніякімі катаклізмамі гэтакую сістэму не знішчыш.

Гарбузы і занялі палову пакойчыка, арганізавалася часовае бязладдзе: што стаяла, ляжала, вісела на звычных месцах, давалася ў рукі аўтаматычна, як па-навучнаму, — дзякуючы дынамічнаму стэрэатыпу, раптам згубілася. Дык дзе ж скіўіцы?!

Жанчына! Тут не адкажаш бяззубым шамканнем спрасоння. Перазваніць? Наўздагон потым выбачацца: спаў, не пачуў — зусім не той імпэт! Выйдзе — бытта глухі. Гэта ўжо не той козыр, непрэзентабельна, якіясь недамолвачкі, эківокі. Куды паставіў ёмістасць?! На стале, на паліцы — няма, не ў тумбачку ж! Хоць апошні час па слабасці ўвагі, засяроджанасці і не такое мог зрабіць. На днях паклаў туалетную паперу ў халадзільнік, ключы ад кватэры гадзіну шукаў, а яны навідавоку ляжалі, ля краніка ў мыльніцы.

Жанчына! Яна звычайна тэлефануе па невялікіх справах: мода такая завялася, кожны ранак перакідвацца жартамі, новы дзень адзначаць прыветам, пасмяяцца, падзыгнуць адно аднаго «бадзёрым станам маладых арганізмаў». Пераказаць, што вычытаў, што напісаў, да чаго дадумаўся. І не нагаварыцца! І ўжо хочацца, радасна ўставаць, пачынаць новы дзень. Жыццё далей вядзе свой рэй. Прыступаеш з аптымізмам да «ранішняга цыклу»: саскрэбціся з ложка, намацаць шлэпкі, усцягнуць на непаслухмяныя пальцы ног кампрэсійныя панчохі, ускінуць на плечы «стаясёрачку», схадзіць агледзець грады, вымыць твар, уставіць зубы, кроплі ў вочы, кроплі ў нос… спіс лекаў па крузе, па парадку: ад сэрца, ад ціску, ад тромбаў, «ад галавы».

Потым настае час кавы, міжнародных навін: Украіна, Беларусь, Германія… Нямеччына — абавязкова, настальгічны напамін пасольскай службы. Даніна і ўдзячнасць насычаным удалымі намаганнямі гадам яшчэ маладой сталасці… Украіна апошнім часам устойліва заняла першае месца ў цікаўнасці да навін, пачынаючы з гарачага, шалёнага лютага, калі перакуліліся астатнія надзеі і спадзяванні на здаровы, разумны ход падзей. Расчалавечванне грамадства перайшло ў фінальную стадыю.

Перакусіць, каб сілы не пакінулі? Facebook — своеасаблівы дэсерт, ілюзорная вітрына сяброўства, віртуальнага флірту, віртуальнай пашаны, самазначнасці.

Жанчына! Не будзь яе ў жыцці… Яны, бывае, між сабой сур’ёзна сварацца, з крыўдай, папрокамі, абразамі. Можа, нават дзень-два пад злосць пройдуць паасобку. Ці злосць у чым памагатая? У разбурэнні.

Абмежаванні старасці выкрываюць рэзервовыя магчымасці чалавечай фізіялогіі, форс-мажорныя абставіны штурхаюць на выкарыстанне прыхаваных актываў. Усё like! Усё ok! Загартоўваецца цярплівасць, выхоўваецца гуманнасць, прывіваецца абярэжнасць да блізкіх. У інтымных стасунках увядаючых асобін нечакана адкрываецца нязведаны пласт метафізічнай прасторы, закаханасць душ раптам вынаходзіць і штосьці для задранцвелых целаў: эксклюзіўныя заначкі, крэатыўныя знаходкі, вытанчаныя абертоны зыкаў і адценні колераў. Прыглядзіся толькі, як загадкава калыша фіранку, якую яна пачапіла, ранішні халадок, як дзіўна адсвечвае сонца: незамыславаты малюнак ператвараецца ў таемнае мілаванне інь і янь. А той заплечнік, у якім яна прышыла адмысловы кішэнь, нават палягчэў, магчыма груз пачаў размяркоўвацца больш рацыянальна. А як утульна ў спартовым касцюме, што перакроіла!

Жанчына! Падскокваеш сярод ночы: дзе яна? Шаленства рэўнасці! Сон сніў мярзотны! Пайду заб’ю!

— Што за мужчыны ля цябе круцяцца?!

— Божа мой, які адзюльтэр?! Не блытай сон з явай. Ты паглядзі на мяне! Каму я патрэбна?!

Рэўнасць, гнюснае пачуцце ўласнасці…

— Здраднік подлы! Што за «падмётнае» ліставанне?! Прыстроіўся пад чужымі постамі ў фэйсбуку хвастом перад жанчынамі віляць! Як гэта разумець? «Ich war glücklich, Elen, Sie am Silwesterabend kennenzulernen». Цяпер мне ўсё раз’яснілася, усё тваё крывадушша!

— Што ты кажаш? Ты паглядзі, які я ёсць! Старая павесма, я ўжо гляджу на папоўы сані… Было ў вашых мясцінах такое выслоўе?

— Не загаворвай мне зубкі! Здраднік! Двайное жыццё вядзеш. Забіла б! Ніколі не дарую!

Мірыліся зноў і зноў. Адходзіць сэрца, наплывае сум, смутак, адчай, як без чалавека: роднага, блізкага душой, думкамі, словамі, розу-

мам, вачамі, целам, жартамі, навінамі, ведамі, дзіравымі шкарпэткамі, залапленымі як папала тут жа, побач седзячы плячо ў плячо перад экранам старога, пузатага тэлевізара, завезенага на летнік толькі ад шкадавання выкінуць на сметніцу. Шкарпэтак новых сотні пар: фірмовых, экалагічных, модных, з этыкеткамі, куплены пад усе адмыслова пашытыя пасольскім краўцом гарнітуры — чорныя, шэрыя, і лёгкія летнія, той, у якім трымалі ў парламенце галадоўку. Амаль ні разу не апранутыя пары, тройкі — шафа ломіцца ад гэтай акадэмічнай калекцыі, якую ўжо нікуды не апранеш, калі толькі на пахаванне былых сваіх паплечнікаў. Шкарпэткі цёплыя, шкарпэткі баваўняныя, шкарпэткі ядвабныя і віскозныя ва ўпакоўках і ў спадчыну прэзентаваныя ўнукамі, ляжаць у «калітачкі» складзеныя: «Я іх не буру!» Але толькі гэтыя, залапленыя абы-як, халера ведае навошта, абы рукі чымсьці заняць, каб не ляжаць без толку, не толькі ступакі грэюць, балючыя, выкручаныя косткі, грэюць сэрца.

На экране — нічога людскага, ніводнай душэўнай, разумнай думкі з экрана не пачуць, але як разам, усё — рай: цікава, смешна, весела, нібы існуе ў свеце справядлівасць, нібы ёсць дзесьці свабода, і канечне ж, перамагае розум, бярэ верх дабро…

Вайна!!! Вайна абавязкова скончыцца… Людзі за кратамі!!! Ну ёсць жа ў свеце праўда і яна калісьці адкрыецца ўсім і паўстане.

(Ды вось жа яны, зубы.)

— Алё, гэта ты?

## ЛЮБОЎ БРЭД, АЛЬБО ЭФЕКТ ПЛАЦЭБА

*(накід сцэнарыя кароткаметражнага фільма)*

Восень. Правінцыйны горад. На вуліцы маладая сучасная жанчына развітваецца з дачушкай, дзяўчынкай гадоў дзесяці-дванаццаці, выпраўляе ў школу. Пяшчотна папраўляе вопратку, усміхаецца, чакае лоб — «бадаюцца», цалуе дзіця ў нос, шчокі.

— Ну ўсё, мая харошая. Будзь уважлівай на ўроках. Не звяртай увагі — няхай абзываюцца. Ва ўсіх былі мянушкі ў маленстве. А хочаш, пайду з табой у клас — галовы паадкручваю?

— Мам! Ну ты ўжо зусім.

— Можа, мне з класнай пагаварыць, каб прыструніла?

— Сама разбяруся. Не трэба ніякіх «мерапрыемстваў». Табе раскажы што, адразу ў паніку…

Іх мінае сумная дзяўчынка, яўна недагледжанага выгляду. Неахайная, непрычасаная, на ёй расшпіленая куртачка. Рукзак трымае на адным плячы. Яна хоча прашмыгнуць незаўважанай. Жанчына заўважае, углядаецца.

— Ірачка? Ты не захварэла?

Дзяўчынка спыняецца. Роблена бадзёрым тонам адказвае на пытанні.

— Добрай раніцы! Не, цёця Лена, не захварэла. Усё нармальна.

— Мама дома?

— Дома, цёця Лена, у нас усё добра.

Жанчына падыходзіць да дзяўчынкі, папраўляе штосьці на ёй, спрабуе зашпільваць вопратку. Дзяўчынка староніцца.

— Холадна, Ірачка, не хадзі так.

— Цёця Лена, не трэба. Маланка не працуе. Мы пойдзем.

— Мам, пойдзем мы, — дачка махае рукой.

Жанчына разгублена праважае дзяўчынак. Збіраецца тут жа перайсці вуліцу, глядзіць на гадзіннік, на святлафор, вагаецца, рэзка мяняе кірунак, бяжыць.

Двор, пад’езд шматпавярховага дома, падымаецца па лесвіцы, націскае кнопку званка. Адчыняюць не адразу. Чуецца шоргат дамашняга абутку.

У кватэры тым часам гаспадыня спешна скідае з сябе шалік, якім была абгорнута яе шыя, чапляе на біла вешалкі яго і кепку, якую трымала ў руках. (Адметныя, запамінальныя, напрыклад: ADIDAS — потым гэты элемент будзе сустракацца. Патрэбен акцэнт.) Адчыняе дзверы, вітаецца бязрадасна з сяброўкай.

— Ну што? Ты схадзіла ў паліклініку? Што сказалі?

Гаспадыня кватэры моўчкі махае рукой. Паварочваецца, выходзіць у другі пакой, зноў сядае — на канапу, ногі пад сябе, укручваецца ў плед.

Госця здымае абутак, распранаецца, аглядае кватэру — паўсюль непарадак. Чапляе на вешалку верхнюю вопратку, заўважае шалік і мужчынскую кепку. Разглядае з агідай — гукае ў прастору пакоя з гаспадыняй:

— Беражэш… шмаццё. Чакаеш — вернецца? Выкінь! З дому і з галавы!

Яна праходзіць у пакой да гаспадыні (без імя), механічна па дарозе штосьці парадкуе, прыбірае: папраўляе шторы, ставіць на месца рэчы, падымае з падлогі шкарпэткі…

— Што сказалі ў паліклініцы?

— Што тут казаць, — жанчына зноў махае рукой. — Адна нырка зусім не працуе, другая ледзь клевае.

Госця спынілася сярод пакоя, з абурэннем глядзіць на сяброўку, кідае рэч, якую збіралася ўпарадкаваць, на канапу.

— Лухта якаясь… Ты здаровы чалавек! З галавой у цябе праблемы… Ну нельга так! — Узяла з палічкі люстэрка, доўга працірала яго шкло, падставіла да твару гаспадыні. — Ты сябе ў інваліда ператвараеш, да чаго сябе давяла, паглядзі.

Зазірнула ў невялічкі стосік папер, што ляжалі на століку, чакаючы ўвагі. (Гаспадыня — журналіст.)

— О! Аж дзве фразы напісала. Паўтараешся. У першым абзацы тое самае было амаль слова ў слова.

Жанчына на канапе махае рукой, адварочваецца ў акно.

— Паеду ў абласны дыспансер.

— Ірачку тваю сустрэла — як сірата. Недагледжаная, схуднелая. Беднае дзіця. Падумай пра дачку… Кныром гэтым жыццё забаранавала!

Жанчына не адказвае, яна сама ўсё пра сябе ведае і моўчкі згаджаецца. Падала паперку. Госця чытае медыцынскае накіраванне ў дыспансер.

— Едзь. Абследаванне нікому не пашкодзіць — адкінеш дурныя думкі. Гарантыю даю — здаровая. Псіхасаматыка ўсё… Каханне — гэта калі спакойна, светла, радасна, калі цябе і тваё дзіця шануюць, аберагаюць. У цябе залежнасць, хвароба, душэўны рак — разумееш? Пройдзе час, табе сорамна будзе за такую слабасць. Зірні на яго цвярозым розумам. Гэта мужчына? Ды ён нават не гома сапіенс… Тугамясае стварэнне.

Зноў пачынае прыбірацца.

Дарога цягніком. Сумная жанчына ўвесь час звяртае ўвагу на пары. Яе позірк спыняецца на мускулістых дзецюках з жанчынамі не першай маладосці.

Паліклініка. Чэргі ля кабінетаў. Па калідоры паліклінікі туды-сюды са швабрай сноўдае невялікага росту дзябёлая санітарка, істота невызначальнага веку, з яўным дыягназам алігафрэніі на твары. На галаве — кепка і шалік яркага колеру (акцэнт роўны таму, што ў кватэры гераіні). Санітарка занадта старанна трэ падлогу ля гераіні, топчацца на адным месцы. Гераіня чакае пад кабінетам доктара, звяртае ўвагу на кепку з шалікам на санітарцы, пазнае, адварочваецца. Санітарка раз-пораз спыняецца, спадцішка хварабліва паглядае на пацыентку.

У доктара. Ён уважліва гартае медыцынскую картку, вывучае здымак ультрагукавога даследавання, чытае заключэнне. Смяецца.

— Не хвалюйцеся — усё ў вас нармальна.

Заўважае разгубленасць «хворай».

— Ведаеце, ультрагукавое даследаванне — такая з'ява, як вам сказаць… Што хачу — тое і бачу. Спецыялістам трэба быць, каб чытаць карцінку. А тут і без здымка ўсё ясна. Ні аднаго дрэннага аналізу… Паглядзіце, — ён тыцкае пальцам у квіткі з лабараторыі. — Вы былі цяжарнай, радзілі, гэта вялікая нагрузка: у вас нават на той час норма ў лабараторных даследаваннях. І зараз тое ж самае… (Хітае галавой. Паціскае плячамі.) Як можна было зрабіць такое заключэнне? (Гэту фразу ён праказвае нібы сам сабе, маючы на ўвазе доктара з правінцыйнай бальніцы.)

— Не верыце? Ідзіце за мной.

Ён вядзе жанчыну ў кабінет ультрагукавога даследавання. Перад дзвярамі — чарга. Доктар праводзіць жанчыну ў кабінет. Звяртаецца да калегі:

— Скажыце чалавеку, што з ныркамі.

Тым часам апранаецца і выходзіць папярэдні пацыент.

Спецыяліст паказвае рукой у напрамку канапкі, водзіць прыборам па баках, жываце, спіне.

— Норма.

— Што я вам казаў? Не згодны — шукайце іншыя хваробы, — гаворка вядзецца па дарозе з кабінета ў кабінет, вяртаючца, доктар сядае.

— Раю вам добра абследавацца, раз ужо праехалі такую далячынь. Заўтра раніцай здайце кроў з вены. Трэба нашча.

Першы раз пры стасунках з доктарам гераіня нарэшце прамаўляе. Голас глухі, неэмацыянальны. Нібы ў сне.

— Магу сёння здаць.

— Трэба нашча, а сёння (ён глядзіць на гадзіннік) ужо голад. Ды і позна, бяруць яны толькі да адзінаццаці.

— Не магу. Няма знаёмых у гэтым горадзе.

— Тут пераначуеце. У нас ёсць некалькі ложкаў для прыезджых, так званы гасцінічны пакойчык — плаціць не трэба. (Словы прамаўляе, той час сам запісвае ў картку.)

— А хто яшчэ будзе заставацца на ноч?

— Не зразумеў… Я магу пра гэта ведаць? Дыспансер — тры паверхі, паўсотні работнікаў — абыдзіце ўсіх, апытайце. Вам якая розніца?

Вечар. Тая ж паліклініка, бязлюдна. Гераіня ля акенца дзяжурнага пакоя. Малодзенькая вахцёрка выглядае прыветліва, радасна.

— Вось ключы, там чыстая бялізна, ёсць стол, шафа, вада.

— А колькі чалавек начуе? (Разгубленая і затарможаная. Усе яе словы і дзеі размінаюцца ў часе з мімікай і жэстамі: яна не ўпэўнена, што будзе рабіць у наступную хвіліну. Магчыма застанецца, магчыма пойдзе на вакзал. Вагаецца.)

— Не хвалюйцеся, вы адна.

— Таму і хвалююся… (Размаўляе як у сне.)

— Няма нікога, — углядаецца ўважліва ў твар, здаецца, усё разумее, кажа са шкадаваннем, спачуваючы. — Няма… Звычайна чатыры-пяць чалавек начуюць. Сёння вось толькі вы… пуста ў будынку. Баіцеся адна заставацца?

— А вы. (Не пытанне, без эмоцый, без цікаўнасці.)

— Я цяжарная, мне тут начаваць на тапчане нязручна, хутка пайду дамоў. (Паказвае з задавальненнем, крыху прыўстаўшы з-за стала, вялікі жывот.) Муж да начы падзяжурыць за мяне. Потым зачыніць вас звонку. Яму начаваць тут і зусім… немагчыма. Туалет у канцы калідора, справа, святло вунь там уключаецца.

Стары будынак дыспансера яшчэ дарэвалюцыйнага часу: таўшчэзныя мураваныя сцены, доўгія неасветленыя калідоры, мноства таемных каморак і закануркаў, высачэзная столь, вокны — вышэй чалаве-

чага росту. Пакой: восем металічных ложкаў у два рады, шафа, чатыры тумбачкі, два акны без фіранак. У другім пакоі стол, чатыры крэслы, ракавіна і таксама два вялікія акны, амаль ва ўсю сцяну. Жанчына аглядае пакой, глядзіць на гадзіннік, вяртаецца да вахцёркі, павольна праходзіць паўз акенца, нібы жадае штосьці сказаць… Выходзіць з будынка моўчкі.

Прагульваецца па восеньскім скверы ля амбулаторнага будынка. Старыя дуплаватыя таполі, пакручастыя, чорныя ў апошніх рудых лісточках пад восеньскім пранізлівым ветрам. Мінакі хуценька прабягаюць, тулячыся ў настаўленыя каўняры. Яе вочы зноў выхопліваюць сярод прахожых — пары, пары, пары. Вочы спыняюцца на маладым кавалеру пры сталай жанчыне.

Цямнее, засвяцілася акно дзяжуркі. У шчыліне між шторак відаць — там сядзіць малады чалавек, чытае газету.

Непадалёку ад ганка топчацца знаёмая санітарка, назірае, падкрадаецца да жанчыны, у самых дзвярах шэпча:

— Тут праз два прыпынкі інтэрнат, можна тэлевізар пaглядзець. Ён тут да поўначы сядзіць, — санітарка ківае ў бок асветленага акна дзяжуркі, — а-а?

Жанчына пытальна ўглядаецца ў твар санітаркі, аднак яе позірк няўважлівы, нібы праз яе, як у сне…

— Паедзем, там мая знаёмая дзяжурыць? Серыял пaглядзім… — ліслівым, нейкім хваравітым голасам угаворвае санітарка.

— Што? — не разумее жанчына, але не спынілася, каб даслухаць, нібы ў забыцці заходзіць у будынак.

— Добры вечар! — мужчына-вахцёр выцягвае шыю ў акенца дзяжуркі, усміхаецца.

Жанчына замест адказу ківае галавой.

— Вам далі ключ ад пакоя?

Жанчына паказвае ключы.

— Куды гэта вас Брэд зазывала?

— Што… брэд… — не пытаецца, механічна прамаўляе.

— Люба Брэд, санітарачка наша… — ён шматсэнсоўна кашляе ў кулак.

Жанчына ўключыла святло ў абодвух пакоях, прайшлася: заглянула пад стол, у праёмы пад ложкамі, расчыніла дзвёркі шафы, дзверы з

пакоя ў пакой пакінула незакрытымі. (Відавочна баіцца чагось містычнага.) Прысела на ложак, на другі: выбрала самы далёкі ад вокнаў, бліжэй да дзвярэй з выключальнікам, святло гасіць не стала. Пачала распранацца — глянула ў вакно, там вуліца, першы паверх, фіранак няма. Зашпіліла гузік блузкі. Аглядаецца. Выглядае ў калідор, каб упэўніцца, што не адна. Прыслухоўваецца, ці пайшоў вахцёр. Мые твар, скідае абутак, прылягла ў вопратцы. З галавой укруцілася ў коўдру. Яна раз за разам выбаўляецца з-пад коўдры, падымае галаву, каб яшчэ і яшчэ раз агледзецца, прыслухоўваецца — напружана ловіць кожны шорах: пайшоў вахцёр, ці яшчэ не? Падымаецца з ложка, на дыбачках падыходзіць да дзвярэй, прыадчыняе, услухоўваецца… Думае пра зачыненыя звонку дзверы, доўгія калідоры, цёмныя каморы, гулкія лесвіцы, пустыя паверхі, шэрыя сцены, напітаныя людской хваробай, болем, горам… Глядзіць на гадзіннік — яшчэ не ноч. Шоргат, стук: вецер б’е галінамі аб шыбы. Пайшоў? Можа — не? Цёмна там у вахцёрскай? Заснуць бы да яго адыходу… Зноў правярае святло ў калідоры — цёмна! Кладзецца асцярожна ў ложак. Вочы не закрываюцца. Жанчына глыбей хутаецца ў коўдру, пакідае шчыліну вачам. Ад доўгай напружанасці цела зацякло, павярнулася на другі бок… І-і! Імгненна падскочыла з ложка, выбягае ў суседні пакой. Там, звонку, на падаконніку стаіць чалавек. На імгненне падалося, што бачыць свой адбітак у шкле, нават твар у ценю падаўся падобным на свой. Але жанчына ўпэўнена, за акном, і гэта ёй не падалося, і гэта не «брэд», менавіта Брэд, там — санітарка, якая зусім нядаўна запрашала яе на тэлевізар, яна ўглядалася нездаровым позіркам у глыбіню пакоя, трымаючыся з усіх сіл за слізкія набрынялыя рамы… Жанчына хуценька выключыла святло ў пакоі, схавалася за шафу, на падлозе ў слаба асветленым з вуліцы адбітку акна караскаўся няўклюдны цень хворага чалавека…

Жанчына выбягае ў цёмны калідор. Паўсюль зеўраць вокны: у тамбуры, на лесвічнай пляцоўцы — не схавацца. Села ў куток на падлогу, у трызненні, хвараблівым забыцці прайшло невядома колькі часу. Глядзіць на гадзіннік, ён абнуліў лічбы. Жанчына заплюшчвае вочы, у галаве малюецца вобраз ценю з акна, але ў ценю твар яе самой.

У калідоры паціху пачынае шарэць: святлеюць сцены, падлога. Раптам у фае перад вахцёрскай ярка загараецца святло. Жанчына ра-

зумее, што начавала ў будынку не адна, вахцёр заставаўся ноччу ў сваёй каморы.

Жанчына вяртаецца ў гасцявы пакой. Стаіць ля люстэрка, доўга ўглядаецца ў сваё адлюстраванне, на якім дамалёўвае ўсё той жа шалік і кепку, яна, нібы ўчарашняя хворая санітарачка, хапаецца за раму «акна-люстэрка», паступова яе твар прымае рысы хворай санітаркі… Жанчына бяжыць да ўмывальніка, старанна змывае з сябе навязлівы вобраз. Прыводзіць сябе да ладу. (Непазнавальна мяняецца вобраз гераіні. Яна нібы прачынаецца ад сну. Яснеюць вочы.)

Здае ключы.

— Рана. Лабараторыя адчыняецца ў восем.

— Дзякую. Спяшаюся — цягнік хутка, не спазніцца б на вакзал, — яе голас страціў хваравлівыя адценні, гучыць жыва, бадзёра.

Мужчына цяжка падымаецца, корпаецца, яму трэба адчыніць закрытыя на ноч дзверы паліклінікі. Жанчына чакае. Нарэшце ён выходзіць — у праёме з вясёлай усмешкай стаіць бязногі інвалід на мыліцах.

— Перадумалі?

— Выздаравела.

— Вось гэта па-нашаму!

На вуліцы сонечны ранак. Паводдаль за першымі дрэвамі сквера хаваецца санітарка. Жанчына нейкую хвіліну глядзіць у той бок, нібы штосьці разумее, паблажліва ўсміхаецца, спяшаецца на вакзал.

Зваротная дарога. Жанчына размаўляе з суседкай па купэ, паказвае новую куртачку — падарунак дачцэ, штосьці расказвае…

— Ой, і ў мяне дачушка такога ж узросту… Ну трэба ж! Я роўна такую куртачку ёй учора купіла.

Суседка дастае з сумкі куртку, параўноўваюць — разам смяюцца.

# «ПАЧОТНЫ МУЛ»

Землякі прыслалі відэаролік: юбілей прыватнага стаматолага. З першых у краіне пакінуў дзяржаўную паліклініку, закупіў кабінет, стаў прадпрымальнікам. Гнаны высокімі творчымі парывамі, пад караоке спявае «аффтарскія» песні, прагне сяброўства з Саладухам…

Ролік вяртае ў былыя дзевяностыя: ланцугі пудовыя з крыжамі да пупа, хракі ў чорных акулярах «важно толкают речи» ў мікрафон, распальцоўка, пляцканне сківіц. Не згінула пантовая традыцыя запрашаць на ўрачыстасць каго-небудзь з райвыканкама. Нібы нічога ў свеце і не мянялася.

Заўсягдаты такіх мерапрыемстваў, «пачотны мул» з былых. Той жа выраз моцна пастарэлага твару, тыя ж словы… Віншаваў юбіляра з прафесійным святам, дзякаваў за адданую працу, выказаў крамольную заклапочанасць жабрацкім заробкам медработнікаў.

Не арыентуецца! Бізнесмен сабраў публіку заможнасцю пахваліцца.

* * *

Ён заўсёды знешне нагадваў ішака пенсійнага ўзросту. Нават у маладосці, калі ў арсенале меўся поўны набор прывабнасцяў: і высокі рост, і ладная постаць, і шапка кучаравых валасоў, і блакітныя вочы — а разам чамусьці складаўся нейкі адрэчны вобраз усімі пакінутага і забытага на прыпынку грамадскага транспарту асла.

Яго пасада была неакрэсленай, невыразнай, на падхопе — канечне, як добра пастарацца, знойдзеш ў рэестрах штата райвыканкама адзінку з назвай, адпаведную тым абавязкам, якія мусіў выконваць ён на працягу ўсяго свайго жыцця.

Служыў.

Малады служыў пры камсамоле, потым завіхаўся ў прафсаюзах, нават, было, кінуўся ў вольныя, але хутка здаў назад — лавіць там дужа няма чаго: самога злавіць могуць. Вяртаўся у дзяржаўныя. Бегаў

пры ідэалагічным аддзеле, пры культуры, спорце ў ДАСААФ. Хто б ні плаціў, сябе ён прылічваў да работнікаў райкама.

Яго твар пры ўсіх пасадах, якія значыліся прыблізна: «другі намеснік другога…» — прэзентаваў глыбока пакрыўджаную, злосна патрабавальную пляму.

Ніякае мерапрыемства ў раёне не адбывалася без яго ўдзелу: госці, камісіі, праверкі… Гэтат круціцца на падхопе. Прымаў падарункі кімсьці камусьці ўручаныя, збіраў выпадковыя ўнёскі на складчыну, настойваў па-змоўніцку спансіраваць штосьці важнае таемнае. Мо за тое і быў нярэдка падстаўлены «хлопчыкам для біцця».

У тыя моманты яго твар яшчэ больш выцягваўся, плечы падымаліся, упарта завісала падбароддзе, насупліваліся светла-бухматыя бровы, вочы тупелі, а ў ражках павек макрэлі дзве слязіны, невыносна жаласным стаяў ён перад тым, хто «возвысил голос». Затое праз міну пакрыўджанасці пачынаў праступаць пакутніцкі выраз, дзеля якога менавіта, здавалася, і нёс сваю службу гэты чалавек. Пад пенсію яго твар намертва прыняў маску сапраўднага пакутніка, які і памрэ вартуючы «абшчэсцвенны парадак».

Самае высокае начальства раёна мянялася: не паспееш азірнуцца — чалавек строга пакараны. Узначальвае суседні раён альбо гнеўна сасланы ў вобласць «адбываць тэрмін павышэння». Сюды кіраўніком перасунуты праштрафлены дырэктар дальняга абанкручанага камбіната.

Карты тасуе і кладзе рука лёсу, а Гэтат як служыў, так і служыць пры ўсіх настроях і паветрыях.

Ранейшага кіраўніка ўсхваляў за строгасць, цяперашняга — за лаяльнасць, таго — за кансерватызм, гэтага — за наватарства… Ранейшую ўладу славіў за дэмакратызм і ліберальнасць — цяперашнюю за дысцыпліну і строгасць. Без службы «пачотнага мула» ніякая ўлада не ўтрымаецца.

# ГУГЕЛЬ-НОС

Усё ж талковы Чэсік бацька. Што — не? Кожны дачку забяспечыць жытлом? Лёгка казаць, як пры грашах, а як грошы ў кішэні кукіш — паспрабуй каторы. Чэсік звярнуўся. Як удалося, як сумеў — так дачцэ і падмог.

Тады ў пасёлку дэфіцыт жытла стварыўся. Чарга якая стаяла! Будаваць ужо перасталі, не пры тых табе саветах. Калі гахнуў Чарнобыль, дзяцей не ўсе рупіліся нараджаць. Пазней пасёлак змяльчаў разы ў тры, гадоў праз дзясяткі два. Ды гэта ўсё высветлілася не адразу. Пасля аварыі першыя гады моладзі яшчэ тут было — ого! Не хапала жытла многім сем'ям. Кватэры надта выраслі коштам — недакупіцца. Грошы мяняюць, з нулямі фокусы кідаюць, а чалавеку простаму — разбярыся? Як ты з начальства: сабраў працоўны калектыў у залі: «Уважаемые рабочие, директор льнозавода обращается к трудовому коллективу — разрешить ему для строительства дома взять беспроцентную ссуду». Хтосьці супраць? Адзінагалосна. Пляц без бяды раённы архітэктар выдаў на добра ўгноеных людскіх сотках. Трохпавярховы палац за лета пастаўлены. А грошы праз год дэнаміналіся, абнуліліся і сталі адпавядаць роўненька аднаму месячнаму акладу начальніка, — «долг получите "взад", уважаемые товарищи рабочие».

Дачка Чэсікава нарадзіла малое, ды з кавалерам тым не зжылася. Жалеў дачку Чэсік: не з прыгожых, яшчэ з «давескам». Ці ж хто паквапіцца?

Чэсік гаспадар. Кватэра ў павярхоўцы, а соткі ўдала перахапіў пад самым носам, праз дарогу. Кантраляваць можа — пассякае ж гультаўё качаны, бульбу павыбіраюць, моркву павыцягваюць з бураком! А ён і буданок на ўчастку зляпіў, парсюка паставіў, дзясятак курэй завёў. Сабаку на ланцуг. Падыдзі, паспрабуй. Ну і што — пад «электрасецямі»! Высакавольтка там праходзіць, а праз агароджу прадпрыемства падстанцыі. Затое ніхто зямлю ўжо не адбярэ, дакладна. Як у многіх: угнаілі, урабілі, а соткі пад будоўлю аддалі блатным.

Сам Чэсік — курдупель курдупелем, з паўшабэлак ростам, кульгае задужа. А жонка — як мае быць: што паставай, што тварам, хадой —

баба спраўная… Дачка не па ёй. Па бацьку. Крэпкая, цабэркам галава. Той табе, не той нос: на траіх рос. Характарам удалая. Нічога да галавы не бярэ! Вясёлая, круценькая, жывая, рот ад усмешкі не сцінаецца, самастойная, нязлосная, плётак слухаць не будзе. З зайздрасці, відаць, мянушку крыўдную прыляпілі: Гугель-нос. Ну няхай сабе і нос, няхай і гугель… А чаму вы злыя і зайздросныя?

У Чэсіка на рабоце ў металацэху бедалага «чысліўся» з чарнобыльцаў — ім тут ад улады дом чатырохпавярховы пабудавалі. Пяты паверх хтосьці разумны з начальства здагадаўся адным ходам дарабіць для мясцовых, тутэйшых. Падправілі праект, дадалі панэляў, даварылі труб, тое-сёе — куды як танней абышлося, выгадней.

Валодзька, чарнобылец, жыў у аднапакаёўцы. Па ім адразу было відаць — не жылец. Увесь у сабе, галаву занурыўшы соўгаецца, няма цікавасці да жыцця. Высветлілася: анкалогія ў чалавека, апошняй стадыі. Дажывае свае гады. Тут Чэсік і знайшоўся. Так і так, папросту, без хітрасці, не прападаць дабру, маўляў: дачка з унучкай беспрытульныя, і табе ва ўсім дапаможам, дагледзім, не пакрыўдзім, спарадкуем…

Распісалася Чэсікава маладая дачка з хворым дахадзягам Валодзькам. Есці яму строілі, прыбіралі ў кватэры, чыстым хадзіў і на чыстым спаў, прыйшла пара — пахавалі. Тады і пераехала гаспадыня ў кватэру па спадчыне.

Вось праўду кажуць: «Не родись красивой…» Столькі дзяўчат прыгожых! Артыстка каторая — глядзець балюча — ружа, кветачка, зорка, ды няма яе долі, замуж не выходзіцца. Круціць яе халера невядомая.

У Чэсікавай Гугельносіхі мужчын вяткамі! Адзін перад адным замуж бралі б. Перабірае, абы з кім не знаецца — адкідвае.

Ужо дзве дачкі ў яе, і, праўда, дагледжаныя, прыбраныя, смелыя, радасныя.

А вакол жанчын — адзінокіх, зайздросных!

Валька мужа пахавала. Ён то і пры жыцці не надта памагатым лічыўся — піў моцна. Але ж… Тут вяртаўся дамоў і кульнуўся ў канаву. Заўважыла адна ў акно глядзеўшы — не ўстае чалавек, накінула паліто, выбегла, прыгледзелася: сіні тварам, хуткую вызваніла. Тая хоць і прыехала, ды ў той бок не зірнулі — не наш «кліент». Паехалі.

Злая Валька зрабілася, цяжка адной дачку гадаваць, заробкі зусім ніякія, гарод без мужыка не выцягнеш, скаціны трымаць не схопішся, яна ад злосці на пахаванні ўсю крыўду на тую жанчыну, што хуткую клікала, і павярнула.

— Калі ж яна ўбачыла: чалавек упаў, чаго адразу не выйшла, не падняла. Хутчэй трэба было дактароў клікаць.

Застолле жалобнае, каб Вальцы хоць як дагадзіць, ківае галовамі — ага, ага. Чаму не пацікавілася раней, чаму не падбегла хутчэй, раптам бы і выжыў?

Адна Гугель-нос не баіцца папярок устаць.

— Дзе яна вас усіх нападнімаецца? Колькі на дарозе куляецца ад гарэлкі, за кожным выбягаць: ці жывы, ці так прылёг адпачыць — інтэрв’юіраваць? На той завулак і вашы вокны глядзяць. Два пяціпавярховікі на гэтым завулку: хто падбег, хто падняў? Мёртвага, каб і раней прыйшоў, не ажывіш. Хоць бы вы галовамі не ківалі, калі языкі праглынулі.

Валька, памёр твой мужык не па чыёйсьці віне — піў — сэрца не вытрымала. Які снег паваліў пасля абеда, засыпала ўсё падчыстую… Ляжаў бы твой Сашка да самай вясны ў канаве: шукала б — не знайшла. Нераўнадушнага чалавека, аднаго, які выйшаў дапамагчы, зрабілі вінаватым.

От табе і Гугель-нос! Умее. Кожны хацеў бы вось так, у вочы, без злосці, ды не выйдзе ў кожнага. Тут закругліць мудра трэба, дадумацца, што да чаго.

Не хавалася Гугель-нос і з мужчынамі, па кустах не тулялася, пад манашку не «мініравалася», адкрытая ў сімпатыях хадзіла, адкрытая ў антыпатыях.

— Толькі во адзін быў: высокі, чарнявы, модны: прагнала, другі — на табе!

— Мусіць дала адстаўку.

— З новым пад руку!

— А і гэты не горшы за ранейшага.

— Чым ты іх прываджваеш?

— Тут хоць бы аднаго якога знайсці. Соткі не араныя, дроў неяк прывезці.

— Соткі не араныя… Дык табе ж не мужык, табе конь трэба. Каня шукай.

# АКТЫВІСТКА

Здалі новабудоўлю, дом пад сем'і работнікаў лягаса, на акраіне пасёлка, якраз недалёка ад канторы. Апошняя вуліца мястэчка, далей — палі наўсцяж. Двухпавярховы, на чатыры кватэры, да кожнай — асобна свой ганак. Тры адразу занялі пастаянныя гаспадары, чацвёртая задалася транзітнай. Спачатку ў яе заехала сям'я інжынера. Не тутэйшыя, адукаваныя, прыстойныя людзі з характарам, з планамі, перспектывамі, з дзіцём. Перспектывы пазвалі ў дарогу. З'ехалі ў горад. Заняў кватэру вясковы кранаўшчык. Самабытны малец, яму за сорак, жонка ад парты, крымінальна маладая, дзіця яшчэ прыкладаецца да мамчыных грудзей, а мамка ўжо да бутэлькі. Нядоўга займалі квадраты яны.

Нарэшце засяліліся свае, наскія. Абое з лягаса. Жанчына — калектывістка, ва ўсіх мерапрыемствах застрэльшчыца, завадатар, заўзяты удзельнік, як там яшчэ: аматар, актывіст! Такая па сваёй прыродзе, з яе энергія проста свішча, выхаду просіць, вонку прэ. Магчыма, не ўсім па душы. А вось запатрабуе з раёну начальства крос арганізаваць, спартакіяду, эстафету, спаборніцтва па лыжах, агляд санітарных груп, пажарнай бяспекі, мастацкай самадзейнасці; зноў жа, свята пад дзень работнікаў лясной гаспадаркі, урачысты канцэрт — у такі момант і ўспамінаюць пра актывістаў. У іншых работнікаў дзеці, муж раўнівы, хваробы… А ў яе — усё пад кантролем.

Дом пачаў абжывацца. Размеркавалі па лапіку зямлі пры хлеўчуках пад грады: на скорую руку ўторкнуць радок морквы, цыбулі, кропу… Кожнай сям'і пароўну. Адна гаспадыня адмовілася — яшчэ лепш — раздзялілі на траіх, большыя гародчыкі атрымаліся.

Праз гады два «беззямельныя» перайшлі ў ранг мнагадзетных. Рашыліся і яны завесці гаспадарку, зямлі хапае. Нагледзелі месца на пустцы, адчысцілі ад смецця, якое засталося яшчэ ад будоўлі дома: бітая цэгла, шыфер, жалеззе. Выкарчавалі дзікае кустоўе, — атрымаўся невялікі «пляцак». Вось табе гарод.

У актывісткі загарэлася. Зайздрасць. Скрабло, трудзіла, новы лапік зямлі выглядаў прывабней і, магчыма, шырэйшы за яе грады. Не спіцца. Спрабавала цкаваць суседак — падтаквалі, на адкрытую вайну не рашаліся. Няма спакою актывістцы, не жывецца. Яна да начальства.

Арганізавала камісію. Прывяла на агляд. Начальнік — чалавек ціхі, спакойны, памяркоўны, неканфліктны. Не хацелася яму спрэчак-сварак: камісія, вядома, паглядае за настроем кіраўніка.

Абышлі дом, глянулі на гародчыкі.

— Што тут дрэннага? — не зразумеў начальнік, — Расчысцілі месца, смецце прыбралі, культурна ўсё — нікому няма з таго перашкоды.

— Як?! — абурылася актывістка. — Тут абшчэсцвеннае месца, не іхнае! Так кожны мог раскапаць!

— Дык раскопвайце. Зямлі ўсім хапае, вунь — пусташ.

Актывістку заняло полымем. Настрой начальніка ёй зусім не імпанаваў. Кіраўнік павінен быць такім, каб на работу ішлі глытаючы валяр'янку, вось тады будзе парадак у грамадстве.

— Тут месца для гульняў нашых дзяцей, — не суцяшалася жанчына. — Дзе малым гуляць?!

— Вакол — гуляй-поле, дзе душа жадае. Тут жа звалка смецця была.

— Гэта не адказ начальніка! — заўпарцілася актывістка. — Вам трэба больш клапаціцца пра сваіх падапечных! Патрэбна дзіцячая пляцоўка, а не разгуляй-поле. Дзе стадыён? Дзе спартыўныя снарады паставіць?

— Ну і не тут жа. Пад хлявом… — падтрымала начальніка камісія.

— Тады давайце зараз жа рашым, дзе будзе стадыён!

— Дзе пажадаеце, там і будзе, — хутчэй скончыць размову хацеў кіраўнік.

Актывістка пакруціла галавой, паўглядалася ў наваколле.

— Во! — тыцнула пальцам у бок ляска, пасаджанага ад пачатку арганізацыі лясной гаспадаркі: дубкі, бярозы і клёны, ліпы, таполі, сосны ў ім пачыналі набіраць самую моц. А пад імі рассявалася рукамі навуковых работнікаў вопытнай станцыі лясгаса грыбніца: увосень, вяртаючыся праз парк з работы, жартам можна было прыхапіць у скручаны на хаду з газеты кулёк крэпкіх, як яечкі, баравічкоў. На падкормленых соладам таполевых пнях, паторканых шнурам уздоўж алеі, з вясны па самыя марозы гронкамі пёрлі шызыя, бы галубы, вешанкі. Захацелася чаго пікантна-экзатычнага — зрэж колькі сямеек, абмый халоднай вадой, нашаткуй, павары хвілін пяць з лаўровым лістом, дай перцу, солі, цукру, воцату па смаку, спецыяў з цыбуляй на свой густ — да любой стравы фірмовая закуска, як ахалодзяцца! У чэрвені радаваў

лясок пазёмкамі, па краях у ліпені ружавела маліна. Усе гульні дзеці вось тут і вадзілі.

— Добра, — згадзіўся мяккацелы начальнік.

Праз тыдзень у прыродзе зеўрала язва — значную частку лесу скарожылі гусенічным трактарам. Бульдозер вывернуў дрэвы з карэннем, пасцягваў у бурты — на тым задуму пакінулі. У актывісткі згас запал…

Зусім жа недалёка ад гэтага ляска месціўся пасялковы стадыён.

Гаспадар новага гародчыка навазіў кампосту, абвясціў: бяры хто жадае на свой участак. Вазілі не толькі суседзі, палова пасёлка разжылася на дэфіцытнае ўгнаенне. Вазіла тачкамі і сям'я актывісткі — дружна, раднёй, пашырылі свой гародчык, урыліся ў цаліну на столькі, каб крышачку перабольшыць суседні па маштабу. Хапіла ўсім.

Ляску шкада.

## ІЗОЛЬДА

Казалі: у той жа дзень і «свіснула» за тысячы кіламетраў у Мурманск, ці Нарыльск, а можа і на саму Калыму, карацей, далёка-далёка на Поўнач, куды год таму выправіла свайго мужа ў заробкі.

Гэта ж якой лёгкай на пад'ём трэба быць, скорай на нагу! Які мець адчай, смеласць, упэўненасць у сілах! Не насустрач жа палкаму маладому каханню ляцела, не ў абдымкі-пацалункі нецярплівага жаніха… У халодную пасцелю мужа, якую ўжо саграваць узялася другая. Казалі так, як ёсць, бо ад самой жа Ізольды чулі.

Яна мела звычку агучваць тэатральна, артыстычна, выразным пастаўленым голасам кожны свой крок, думкі: «За мной в три часа ночи машину прислали. Я даже трусы не успела надеть… Роженица в тяжёлом состоянии поступила в отделение. До самого утра я в нашей бесштанной команде и просуетилась. А к восьми на приём!» Ізольда доктар, акушэр-гінеколаг, на ёй два аддзяленні ў раённай бальніцы: гінекалогія і радзільня. Словы прамаўляе гучна, выразна, у паветра, каб пачулі аж на галёрцы, як жартуюць, каб даляцела ва ўсе палаты і ардынатарскую.

«И речи не может быть!» — па ўсім калідоры несліся яе словы ў адказ ціхенькай, дробненькай «будучай мамцы», якая вылавіла докта-

рку, як мага далей ад люднага месца, ля кадушкі з магутным фікусам, запытала, каб ніхто не пачуў, ці не адпусцяць яе дамоў хуткім часам. «И речи быть не может! Молодая пара! Вы сегодня же половую жизнь станете практиковать, а у тебя матка в тонусе!» Жанчынёшка з чырвонымі плямамі па твары бачком-бачком збягае ва ўборную хавацца ад чужых вушэй-вачэй.

Ізольду праз пошту папярэдзіла наўмысна нанятая жанчына, прадавачка з тамашняй крамы, куды муж вечарамі пасля вахты забягае па прадукты. Пісала ў лісце: «Круціцца, падазрона, вакол яго тут адна шустрая, застаецца з ім адзін на адзін падоўгу, разам атаварваюцца, начуе, парай бывалі ў грамадскіх месцах…» У той жа дзень Ізольда і вылецела ў паўночным напрамку. Праз тыдні два вярнулася, настрой станоўчы, бадзёры — перамагла: «Одной левой! Она уже, оказывается, и вещи свои к нему в квартиру перенесла. Бесхозного мужика приметила! Как бы не так, милочка! Не для тебя каравай печён…»

«Каравай» якраз з тых, каго з нараджэння да жаніцьбы, калі такое адхіленне дапусцяць, за руку водзіць мамка, потым суправаджае жанчына, каторай руку яго ўдасца перахапіць. Ізольда выхапіць што заўгодна.

Ёсць пасады на прадпрыемствах і заводах, ва ўстановах і арганізацыях, ад якіх залежыць чалавечае здароўе, нават само жыццё. Гэта пасада называецца «інжынер па тэхніцы бяспекі». Важная пасада. Толькі пасада тая часта дастаецца блатным. Тэхнік бяспекі пры сістэме падобных стасункаў павінен толькі забяспечыць сабе «алібі», узброіцца подпісамі пад словам «ознакомлен». Калі ж на галаву якомусь разяваку зваліцца цагліна, дык якім жа бокам інжынер бяспекі да той цагліны? Азнаёміць — азнаёміў! Праінструктаваць — праінструктаваў! Правілы зачытаў, подпісы сабраў, паперы ў належным выглядзе ў папачку склаў, іх жа трымае і захоўвае ў акураце.

Муж Ізольды, дзе ні працаваў, менавіта вось такія пасады і займаў.

Праз раённую газету скардзілася жанчына, што Ізольда, маўляў, пазычыла ў яе вялікую «сумму денег» і не аддае. Не ўсё праўда, што пішуць у раёнках. Сама жанчына і паднесла тую «сумму» Ізольдзе за таемнае лекаванне нейкай таемнай хваробы. А як хвароба не паддалася — вяртай грошы? А што вяртаць, калі яны даўна ўсе да капейкі спушчаныя па патрэбе. Хто вінаваты? Яшчэ ж і другая знайшлася: футра натуральнае падарункам уручыла, хацела нарадзіць пры бяз-

дзетнасці дзіця. Потым плёткі вяла, што занадта дарага ёй абышлася дачушка, якую без дапамогі лёгка нарадзіла б. Тут абывацель мусіць улічыць менталітэт і сацыяльна-эканамічныя абставіны ў дзяржаўнай сістэме аховы здароўя.

«Вы со своим пришли?» — перахапіўшы ў танцы з рук галоўнага ўрача бальніцы прыгожую дзяўчыну, зусім нядаўна, лічы — ад парты прынятую ў калектыў, падчас застолля, прымеркаванага да дня медработніка, Ізольда агаломшвае яе простым пытаннем у лоб. А тая не «ўрубаецца» — з кім гэта, сваім: мужам, кавалерам, ці што? «Со своим…» — на ўсякі выпадак ківае модна прычасанай галоўкай у адказ пад хвалі музыкі і міла ўсміхаецца нафарбаванымі вуснамі. «А где поставили, в лаборатории? Поднимись-ка, детка, наверх, перенеси всё в кабинет гинекологии. Закрой там пакет в шкафчике». О гэта назіральнасць! Прыкмеціць, хто што прынёс у складчыну, куды паставіў, чыйго не хапае на святочным стале. Так тонка, непрыметна для староннягa вока, выфланіраваць свой план-задуму пад рухі танца, што дурніца наіўная, загіпнатызаваная ўсё пералічанае выканала… Ювелірная работа!

Быў у практыцы Ізольды жудасны пракол. Не пракол, смяротная памылка, выпадак, калі ўзялася за не свае абавязкі. У старэйшай медыцынскай сястры-гаспадыні, якая адказвала за ўсю матэрыяльную базу ўстановы і магла стаць патрэбнай у розных жыццёвых варунках, дачушка хворая на алергію расла. Першы клас скончыла. Лета, а яна занемагла. Лячыць дзіця з такой вострай рэакцыяй на ўсе віды алергенаў — высокае майстэрства, высокі прафесіяналізм патрабуецца. Дзяўчынка акрамя рысавага адвару і вады ў роце з нараджэння нічога не трымала. Маці прывяла дачушку да Ізольды паставіць кропельніцу. Іншыя дактары адмовіліся па прычыне некампетэнтнасці ў педыятрыі. Чаму не звярнулася маці непасрэдна да дзіцячага доктара — застаецца загадкай…

Ізольда самаруч падключыла малую да апарата. Дзяўчынку адразу пачало трэсці, яна скардзілася на ледзяны холад у ножках, ручках, на трымценне ва ўсім целе, на жудасны страх і аняменне языка і рота… Дзіця заспакойвалі — пройдзе. Не прайшло… Сваімі ножкамі дзяўчынку выводзілі з роднага дому поўднем, вечарам прывезлі ў труне. Пры такой цяжкай хранічнай хваробе, цалкам магчыма, беднае дзіця не сёння — заўтра і без той кропельніцы магло загінуць. А магло

і выжыць, перарасці, выкарабкацца, ачуняць. Маці сабе не даравала, як самадумам натварыла такога гора-бяды. Хацела ж як лепш…

Ізольдзе абышлося. Яна яшчэ потым, у цяжкія часы перабудовы і разрухі, па ўсіх спецыялізацыях вяла прыём: за хірурга, за тэрапеўта, па скурвенхваробах кансультавала… Прыязджала на працу за дальні свет з хутара, на якім хтосьці з удзячных пацыентаў, нібы старшыня тамашняга калгаса за лекаванне жонкі, дом збудаваў Ізольдзе. Сваю кватэру Ізольда пакінула адзінаму сынку, такому дагледжанаму і выпешчанаму мужчыну, якім калісьці выглядаў, цяпер нябожчык, муж Ізольды. Забяспечыла «дзіця» ўсім магчымым. У кватэру, да яго, парога не пераступала, каб не парушыць клімат сям'і і адносіны з нявесткай. Любімы хлопчык, шанаваны сынок ездзіў на іншаземным аўто той час і тымі ж дарогамі, калі Ізольда папуткамі дабіралася на працу, зарабляючы грошы цяпер ужо для пястушкі-ўнучачкі. Даставалася ў бальніцу штодзённа на пракладных, акольнымі рэйсавымі аўтобусамі, якія паўтары гадзіны ледзь цягнуцца дрыготкай грунтовай дарогай, узнімаючы пыл густымі клубамі, па глухіх вёсках. Пасля прыёму, сівавалосую, старую, ужо неахайную бясхацьку, яе часта бачылі на прыступках прыватнай крамкі, куды заглядала купіць сабе марозіва. Там жа, на халодных прыступках, сядзела непрытомная — казалі — з галавой у яе ўжо не зусім добра, загаворваецца, не пазнае людзей, а па рабоце кеміць, як мае быць! Часта бачылі яе ў царкве: што ж, замольвае грахі — шмат абортаў рабіла, такая прафесія…

Ізольду многія жанчыны ўспамінаюць цёплым, удзячным словам. Рэдка, толькі па блаце, у якога доктара па ранейшых парадках удавалася выпрасіць накіраванне ў вобласць, сталіцу на абследаванне, дазвол на прыём да доктара спецыялізаванай клінікі: не паложана! Нібы мелася негалосная забарона. Яна ж, Ізольда, па першым сумневе настойліва гнала жанчын на кансультацыю да вузкага спецыяліста, патрабавала рабіць аналізы, не звяртала ўвагі на вымовы і лаянку.

Парадак пры ёй у аддзяленні быў ідэальны, ідэальны дагляд за радзіхамі.

# ВЯЧЭРА НА БАЛОЦЕ

Аднаногі Юзік лішняга казаць не будзе… Ён і наогул — не гаваркі. Сам да людзей дужа не хінецца: падыдзе каторы з суседзяў, знаёмых — кіўне моўчкі на прывет і павернецца сваёй магутнай спінай да цікаўнага, нібы па справе спяшаецца. Калі ж па якой патрэбе зачэпіць хто — угледзіцца пільна ў вочы, нібы вывучае, памаўчыць, закурыць нетаропка ўбок, думку выкажа, а то і махне рукой — не варта яно ўвагі.

Нагу на вайне страціў. Адарвала.

З ганаровымі ветэранамі, якіх любілі на ўсе святы запрашаць на плошчу, да помніка, у клуб; садзілі на першыя, стужкай адасобленыя рады крэслаў, іх жа гучна потым выклікалі ў прэзідыум за кумачом засцелены стол з графінам — не хадзіў, не ўдзельнічаў. У школу на патрыятычныя ўрокі — ні нагой! Яго ўжо і не выклікалі — усё адно не пойдзе. Прыязджалі карэспандэнты з мікрафонамі, угаворвалі ўвекавечыць успаміны пра вайну — не адклікаўся. І жонцы загадаў: не пускай!

Сыну распавядаў папросту, калі паказвалі якую ваенную кінастужку, — не глядзі, хлусня адна!

— На вайне ўсё не так, вошы-гразь на вайне, дым, гул, свіст, смурод. Ляжыш, у зямлю ўліпшы, а над табой смерць і вакол — смерць. Нічога людскага ў ёй няма, у вайне, ніякага таго пафасу, патэтыкі. Ні жаласці да каго. Гэта ў першыя дні шкадуеш чалавека, што побач ішоў, сядзеў, ляжаў, а потым звыкаешся, нібы так і трэба — заўтра гэты, потым той. Чарсцвее душа хутка, зелязее неяк, адмірае штосьці чалавечае. А як інакш? Інакш неяк жыць далей, каб усё ў сябе ўбіраць. Толькі курылі разам, перакідваліся словамі, глядзіш — ляжыць кішкамі навыварат чалавек… Горш за ўсё, там акрамя ворага «сваё г..но» вылазіць. Такія падлюгі праяўляюцца, ніколі і не падумаў бы ў мірны час, што сярод людзей паскуда гэтакая жыве. А было — сустракаліся людзі геройскія, рэдкія, душэўныя, дзіўныя.

Юзік расказваў адзін выпадак, што здарыўся падчас разведкі.

— Ішло нас пяцёра па «языка» восеньскім лесам, па балотах на хутар, дзе немцы стаялі. Далёка, мясцовасць незнаёмая, цямнее рана. Далі нам у праважатага тутэйшага старога. Якісь нелюдзімы, ваўка-

ваты, у вочы не глядзіць, як штосьці кажа, толькі з-пад брыва зыркае. Кружлялі мы трое сутак, змакрэлі, стаміліся, ні каліва ў роце. Вогнішча не распаліш — дым выдасць, цыгарку не скруціш, перамаўляцца — толькі шэптам, па слове. Хлопцы зусім падупалі: ці не водзіць стары кругамі наўмысна, каб збіць з напрамку, сярод балот пакінуць. Вусцішна, цемрадзь, ногі не слухаюцца. Спыніліся раптам па камандзе. Прыслухаемся, тут стары і кажа нейкім ласкавым, пявучым голасам, кожнаму ў твар угледаецца, як на іспыт бярэ. А вочы касыя ў яго, аказалася, уедлівыя, адно бы ў нутро залазіць, левае ж — так і паплыло асобкам, нібы ім хтосьці іншы кіруе: «Ну што, мальцы, есці хочацца? Зараз павячэраем». Ажно шорах па скуры пайшоў. Гэта здзікацца надумаў з нас? А ён тут жа дастае з-пад крыса казаяткі гарачую патэльню, скідае анучку, а там — мы аж анямелі, духмяная яешня! Скварчыць, пара валіць з яе, падымаецца, на белых кружочках па краях карункі шкарубачак засмажыліся, ззяе ў начной чарнаце выразнымі, як восеньская поўня, бурштынавымі жаўткамі… «Ешце, рабяты, сілкуйцеся. Сілы ого як спатрэбяцца заўтра. Вяртацца вам усім яшчэ трэба, дзень будзе цяжкім».

Ноч спалі як пшаніцу прадаўшы, а раніцай аказалася, хутар той зусім блізка, праз кусты відзён. Выстаялі мы тады гарачую перастрэлку, ну і ўзялі «языка». Вярталіся без старога — ён толькі вывеў на дарогу. Туды тры дні ішлі, назад за дзень вярнуліся…

Пра той выпадак неяк адразу і запамяталі. Чаму ніхто з нас не падзівіўся: дзе ж мы і на якую трасцу трое сутак цягаліся вакол хутара, чаго вычэквалі? А чаму не ўспаміналі тую яешню? А можа, кожны дзіўнай той вячэрай сваё пабачыў і смакаваў? І адкуль стары даведаўся, што мы ўсе назад жывымі вернемся? Мы ж тады на верную смерць ішлі. Вось каб успомнілі, загаварылі, ці мы паверылі б самі сабе? Засумняваліся б, адзін аднаго высмейваць пачалі б, як такое яно магло адбыцца?

Я табе кажу, вось як гэту тваю кашулю, як блакітныя, чырвоныя ды шэрыя клеткі на ёй бачу, так тую яешню бачыў на свае вочы і пах яе адчуваў, але, праўда, пах зусім не ў паветры стаяў, а ў мазгах, і смаку такога ніколі больш не зведаў. Смак таксама не ў роце — у галаве быў.

Як хочаш, так і прымай мае словы.

# РАСПАШУЛЛЕ

## ГЛАВЫ ДА КНІГІ «ГЭТА ТЫ»

*(дапісаныя пазней, без храналагічнага парадку)*

* * *

Белы ліст паперы на мяне ўплывае магічна, перапаўняе жаданнем і прадчуваннем. І ўсё роўна, з чым падступаю да яго: пэндзлем і фарбамі, ці з алоўкам, ці з самапіскай. Гэта як першае знаёмства, як вера ў новага чалавека — белы ліст паперы. Пакуль не пазнаў расчаравання, не паспеў пакінуць за сабою памылак — спыніся. Ці варта парушаць свята? Можа, няхай застаецца чыстым белы ліст, чысты прастор? О не! Гэта трапяткое пачуцце ўжо не задавальняе, і, поўны спакусы, ствараеш, а мо разбураеш, але ўсё ж пакідаеш сляды на чыстым белым лісце.

У мяне ёсць апраўданне: белай прасторы ў прыродзе не існуе, ва ўсякім разе, вядомай нам. Магчыма, рай і ёсць абсалют белай прасторы, але нас з яго турнулі. І ўсё, што па-за выспачкай Зямля, — чорная, няведамая нам матэрыя. Восемдзесят пяць адсоткаў таямніцы!

Адзін святар казаў, што не ўсе таленты трэба развіваць. У яго словах ёсць сэнс. І ўсё ж святар і БОГ не маюць знака роўнасці. І ў святароў, як у ва ўсіх іншых людзей, — які ў каго талент! Адзін нясе талент веры, другі мае талент грошы зарабляць.

### Раніца

Не памятаю, каб прачнулася з дрэнным настроем, толькі поўная свядомасць радасці і цуду — сёння адбудзецца важнае канструктарскае вынаходніцтва! Напэўна я, калі дапусціць — жыла раней, была канструктарам. Колькі рэчаў і знаходак я прыдумала ў пражэктах

сваёй фантазіі! Нечакана сустракала іх у матэрыяльным свеце пасля, вынайдзенымі чужой галавой і рукамі.

Кожны ранак трывала я мукі творчай тэхнічнай ідэі. Здзейсніць якую не было ніякай магчымасці. Павінна нарадзіцца на свет якаясь машына! Ішла ў хлеў на пошукі падручнага матэрыялу і нічога не знаходзіла. Зараз у дзяцей столькі магчымасцяў для творчасці: будаўнічыя кубікі, канструктар, лега. Ці наталілася б мая творчая канструктарская смага, каб цяперашнія цацкі — ды ў маё дзяцінства?

Але нашы цацкі былі нашмат цікавейшымі. Пра машынкі-трактары з драўляных брусочкаў, зробленыя дзядзькам Мінькам для сваіх сыноў, потым спадчынна ахвяраваныя мне, не буду распавядаць. Шэдэўру патрэбны асобыя ўспаміны. У мяне цвік, яшчэ бляшаная накрыўка для слоіка, малаток, невялікі «апілак» з дрывотні, паўметра алюмініевага, ён лёгка гнецца нават дзіцячымі рукамі, дроту (можна ніткай замяніць). Кожны малы быў здольны змайстраваць сабе з такога набору тэлефонны апарат. Бляшаны круг прыбіваецца да драўлянай чурачкі, папярэдне на ім выбіваліся дзіркі пад лічбы, як на дыску сапраўднага тэлефона, мацаваўся «провад» са слухаўкай, для яе гадзілася што заўгодна: аловак, абрэзаны прут альбо цвік-двухсотка.

Яшчэ «карова»: вялікі цвік чаплялі на нітку і «наважвалі карову пасвіць» у мурагу, загнаўшы калочак з ніткай у зямлю, каб не збегла далёка. Але кожны дзень не будзеш тэлефонныя апараты майстраваць ды наважваць кароў. Прыходзілася здавольвацца філасофіяй. А што? Ні больш ні менш: на гары хаваліся ў футляры ад майго першага баяна «Лісты да патомкаў» — але гэта яшчэ не цяпер, у дзесяцігадовым узросце.

У чатырох-пяцігадовым узросце я сядзела сонная на цэментаваным ганку, ужо нагрэтым ранішнім сонцам, і адкрывала для сябе словы. Самае простае, звычайнае, сотні разоў чутае слова, калі яго прамаўляць, прамаўляць на свежую ранішнюю галаву, раптам ператвараецца ў жывую субстанцыю, пачынае варушыцца ў свядомасці, гукі адкрываюцца невядомымі формамі, спалучаюцца дзіўна, загадкава, нібы дазваляюць пранікнуць у свой першародны сэнс. Так для мяне пачыналася магія слова, сапраўдная містыка. Там я адкрыла для сябе відэарад для слова рай: распашулле.

Па радыё ў тыя гады часта перадавалі рускую песню «В тёмном лесе… распашу ль я пашенку». На маё беларускае вуха словы з другога радка, два з якіх аказаліся невядомымі, склаліся ў дзіўны вобраз раю. Гэтым раем была не бачаная мной ніколі, але шмат разоў апісаная мамай сядзіба таксама не бачанага, але чамусьці любімага, вылучанага з такіх жа мне невядомых бабуль-дзядоў, дзеда Юстына Брылёнка. Чалавека сціплага, ціхмянага, добрага, як усе мужчыны з роду Брылёнкаў, у якім жанчыны нараджаліся вельмі прыгожымі, але наравістымі, з — крэмень — характарам, а мужчыны наіўнымі і лагоднымі. (Выключэнні толькі пацвярджаюць правілы.)

Гэту сядзібу з поўным дадаткам гаспадарчых забудоў пры хаце: хлеў, клець, вараўня, паветка, свіран — выбудавалі на грошы Юстынавага роднага брата Лаўрэна, які, як той Джэк Васьмёркін, адважыўся шукаць шчасця ў далёкай Аргенціне, пра шчасце — не ведаю, бо, вярнуцца з-за мора-акіяна Лаўрэну не выпала. На радзіме змяніліся палітычныя абставіны. Але тады, пакуль ён мог прыязджаць на радзіму, дапамагаў Юстыну гадаваць сямёра дзяцей. Адна, з якіх, першая дачушка Зоська, засталася з нараджэння сіратой ад першай жонкі Юстына. Яна ў Лаўрэна была любімай пляменніцай. Мама казала: «Ніхто ў Прыперным (ды што тое Прыпернае!), ніхто ў наваколлі такога вяселля не бачыў. Калі прыязджаў Лаўрэн — прыпернянцы строіліся ў шнурок — ён усіх адзяляў: каму адрэз, каму хустка, дзеўкам — пацеркі, завушніцы, рабятам — цукеркі.

Зоську выдавалі з нявіданым пасагам. У яе нават парцалянавы посуд быў. Тады акрамя міскі блішанай ды гліняных збанкоў — ні ў кога іншага посуду на стале не стаяла».

Факт асабістай прыхільнасці да сіраты ў мяне выклікае сапраўдны гонар за мужчын Брылёнкаў. Мама казала — Зоська пры тату гадавалася роўная ўсім меншым дзецям ад другой жонкі.

Мяне злуюць казкі, дзе родны «харошы» бацька пры злой мачысе выпраўляе сваю дачушку-сіротку на смерць, так дагаджае жонцы. Нашы «кроткие» мужчыны мелі «зялезныя» ўстановы.

Лаўрэн займеў у Аргентыне невялікую шпалерную фабрыку; сям’і, здаецца, ў яго не было. Больш ніхто з радні нічога не ведаў пра Лаўрэна, бо нельга было падтрымліваць сувязь з «іншаземцам».

Сядзіба стаяла на дванаццаці актарах зямлі, меўся лес, рэчка, імшара. Я так і не запыталася ў мамы — дзе ўсё потым падзелася?

Брылёнкі яшчэ тым славіліся, што ўмелі спяваць і не толькі граць на музычных інструментах — самі рабілі цымбалы, балалайкі, скрыпкі. У іх была мянушка Папкі. Магчыма, ад таго, што ў аднаго на ўсю акругу дзеда Юстына мелася поўная скрыня «святых» кніжак. А магчыма, хтосьці служыў пры царкве? Кнігі разбэйдасалі ў сям'і старэйшага Юстынавага сына Пётры.

## Калейдаскоп

У памяці невядома чаму застаюцца нейкія асобныя кадрыкі, нібы шкельцы калейдаскопа: чаму менавіта вось гэты, а не якісь іншы кадрык? Загадка…

Быццам карпускулы святла рэдкімі ўспышкамі фіксуюць тваё жыццё — альбо не асвятляюць: тут ты існуеш, а тут цябе няма.

Чаму запомніліся некалькі маміных сукенак? Ярка, колерна. Я іх любіла, маміны сукенкі. Часцей у блакітна-сінім тоне. Назіраю за мамай збоку, здаля, яна прыгожая. Мама невысокая. Валасы ў яе доўгія, цьмяна-рудога колеру, вочы карыя, нос невялікі, акуратненькі, вусны, рот — мініяцюрныя.

Потым гляджу на яе адбітак у люстэрку: «Мама, чаму ў цябе крывы рот?» — «Чаму ён крывы?» — «Ну паглядзі сама — крывы». Мама глядзіць і не бачыць, а рот у люстэрку, калі пазіраць з майго боку, заўсёды быў відавочна крывым.

Запомнілася бацькава скуранoе паліто амаль да пят. Дабротнае, нават у гэты час магло быць залічаным у брэндавае адзенне. Праз колькі гадоў яно згубна пацерпіць ад бацькавай творчай фантазіі і бацькавых жа рук: яно страціць палову даўжыні, ператворыцца ў не дужа эфектнае паўпаліто. Мой бацька мог шыць.

Памятаю мамін абутак, які называўся румынкамі. Гэта былі чорныя гумовыя паўбоцікі з пустымі абцасамі, у іх устаўляліся адмысловыя, па форме боцікаў туфлі, і можна было хадзіць па гразі, а потым скінуць гумовы верх і застацца ў чыстым абутку.

У мамы мала было адзення, як, дарэчы, амаль ува ўсіх тым часам — людзі жылі без лішняга. Абыходзіліся самым неабходным на ўсе поры

года. Сёння, маючы набітыя шафы трантаў, сама здзіўляюся, як перад нечаканым надвор'ем, у роспачы выдыхаю — няма чаго апрануць. Тады прыпамінаю маму з яе (у раннім маім дзяцінстве) адзінай чорнай плюшавай ватовачкай на ўсе выпадкі.

Помняцца стравы: цётчыны аладкі (што надавала ім такі асаблівы смак?). «Ну дык гэта ж з петляванай мукі! Дзе ж яе ўзяць?» — казала мама.

Любіла маміны наліснікі, бульбянікі, яешню са скваркамі, аж праз край патэльні, велізарныя пельмені. Пахі для мяне-дзіцяці доўга не існавалі. Відаць, пазней прыходзіць здольнасць іх адчуваць, адрозніваць. Магчыма, толькі ў мяне спазнілася асэнсаванне свету праз пахі.

Памятаю нейкія з цацак — калейдаскоп, напрыклад, сапраўды дзіўная рэч, космас. Яго ў мяне не было. Бачыла ў сяброўак.

Старэйшыя хлопцы, з якімі сябравала мая сястра Рая, у двары Сапуновых (шматдзетная сям'я інваліда, які рамантаваў абутак наваколлю, на тое жылі) змайстравалі аднойчы з невялікіх люстэрачкаў «падзорную трубу». Праз яе можна было, стоячы пад сцяной дома, убачыць, што робіцца на даху. Труба трубой не была, мела прамакутна выгнутую, на манер літары «зэт», прадаўгаватую пустаполую форму. Хлопцы бурна спрачаліся наконт яе правільнасці. Па чарзе ўглядаліся праз нутро «трубы» на розныя аб'екты. Акрамя коміна з яе нічога пабачыць на даху дома не падавалася магчымым.

Нарэшце, па пратэкцыі сястры, дазволілі зазірнуць у люстэрка і мне. Я нічагуткі не ўбачыла і не зразумела. Было крыўдна, але не выдала сваёй непаўнавартасці. Потым не раз здаралася, што ўсё новае мне (а што магло быць не новым для дзіцяці?) спачатку здавалася зусім незразумелым, нябачным, нячутным.

Вось так у першым класе нас вывелі ў двор паказаць праз чорныя шкельцы сонечнае зацьменне. Я глянула на само шкельца і нічога, акрамя заюдзганай паверхні, не ўбачыла, бо глядзела не праз шкельца, а на саму «сцяклянку» (так у нас казалі). Гэтак жа я адрэагавала і на першы прагляд тэлевізара.

А тое было ўжо пасля дзесяці гадоў. Дзеці радасна верашчалі ад якіхсьці кадраў, а я бачыла шэрае шкло тэлеэкрана і водблескі сонечных зайчыкаў на ім. А гэта дзіўна!

Я, чалавек, які большым часам жыве па-за рэальнасцю, па-за матэрыяльным светам, у дзяцінстве як адфакусіравала зрок у нутро рэчы, з'явы, так і да веку сталага з цяжкасцю вяртаюся ў побытавую яўнасць. Жыву не зараз і не тут. Гэта паталогія, з ёй трэба змагацца, але як своечасова дазнацца, што жывеш не так, калі жывеш першы раз і не ведаеш — як трэба?

Пачыналася «няправільнае» жыццё ў маленстве — вочы сплывалі ў кропку, думкі спыняліся — маленькі зомбі нерухома застываў у небыцці. Якаясь сіла патрабавала, напаміналa — выйдзі, прачніся, штосьці іншае замагнічвала ўвагу, не адпускала. Само дзіця не мае сілы змагацца. Цяжка вяртацца з «небыцця». Патрэбна ўвага дарослых: дакрануцца да пляча, паглядзець у вочы — мы тут, побач з табой. У маім жыцці такіх дарослых не знайшлося. Магчыма, сучасная хвароба аўтызм, вельмі распаўсюджаная сярод дзяцей, менавіта з таго пачынаецца.

Маё жыццё праіснавала ў мінулым, любое здарэнне я пачынала ўспрымаць, усвядомліваць, перажываць, калі ўключалася памяць і я магла аналізаваць здалёк тую ці іншую падзею, а на сам момант яе дзеі — я нібы адсутнічала.

Набегаўшыся за дзень, клалася я ў ложак, і тут уключаўся мой калейдаскоп. З правага боку пад закрытымі павекамі выплывала крынічка яскравых агеньчыкаў, рознакаляровым серпантынам яна закручвалася ў спіраль, увазносіла мяне ў бязмежную вышыню дзіцячых сноў. Цяпер гэта з'ява для мяне ўжо недаступная. Як ні стараюся — не магу вызваць з памяці тую крыніцу жывых, яскравых шкельцаў. Нават калі і сыпане з цемры пад веямі шчопаццю рознакаляровых іскрынак, дачакацца палёту, аддацца плыні я ўжо не здольная

## Авечка

Напэўна, гэта не можа лічыцца нармальным, але так: у мяне няма сяброў. Я нелюдзімка. Дзяўчынка-ваўчок. Я не жадаю ламаць сябе цераз калена толькі дзеля таго, каб хтосьці залічыў мяне ў спіс нармальных.

Знойдзецца дзясятак жанчын, якія будуць сцвярджаць, што сябравалі са мной у дзяцінстве, юнацтве, у студэнцкія гады, у працоўным калектыве. Яны, магчыма, і цяпер «сябруюць».

«Сябрам» патрэбнымі былі толькі мой маўклівы рот і ўважлівыя, чуткія вушы на момант іх дрэннага настрою: бяссонніца, муж запіў-загуляў, грошай не хапае, начальнік лютуе, дзеці сволачы… роўна да таго, як адчыняліся дзверы, і на парозе з'яўляўся той самы «скот», з якім толькі што збіраліся разысціся. «Ой, мне трэба Валеру карміць!» (Мішу, Валодзю, Пашу.) Я завісала з ротам, раскрытым на паўслове спачування, ці тэлефоннай трубкай у руцэ, якая пікала кароткімі гудкамі… і адчувала сябе апляванай, абдуранай, згвалтаванай… Мной, маёй энергіяй, маім часам, маім жыццём распарадзіліся як захацелі, без дазволу, без запрашэння, без майго жадання.

Не маю сяброў і ніколі іх не мела.

Апошнія словы прыстаўлены да фразы дзеля надання важкасці і абсалюту.

У дзяцінстве ў мяне ўсё ж была школьная сяброўка, ва ўсякім разе, пад мае высокія крытэрыі яна ў той час падыходзіла пункт да пункта з ліхвой.

Тыя ж, хто мяне лічыў сваёй сяброўкай, звычайна рабілі так. Не паспееш кінуць партфель на канапу, прыйшоўшы са школы, — яна ўжо стаіць. Толькі ж развіталіся — аднакласніцы… у госці явілася! Мне хочацца ў прыбіральню, мне хочацца есці, ноты не сабраныя — у музыкалку бягу…

Я — авечка, мяне не навучылі пярэчыць, супрацьстаяць, дамаўляцца. (Гэта вельмі небяспечна!)

Сяброўка прыйшла пагуляць, і я «гуляю»: стаю навыцяжку перад ёй у парозе, слухаю пустую балбатню ў каторы раз і ненавіджу сябе, бо другіх ненавідзець не ўмею, не навучаная.

Яна пацягнецца за мной у музычную школу, будзе настойліва чакаць на калідоры заканчэння ўрокаў, пасля захоча пайсці са мной дамоў дагуляць. Калі не дачакаецца гэта «сяброўка», з хору «да маёй душы» прычэпіцца новая, незнаёмая дзяўчынка. «Пайшлі да цябе ў госці!» — паведаміць яна.

Мы спяваем з ёй адну партыю першага сапрана ў хоры, ніколі не размаўлялі. Яна вучыцца ў другой школе, я не ведаю гэту дзяўчынку. Затое ведаю па словах дарослых, што яе бацька з самых галоўных начальнікаў раёна, што ён сядзіць за вялікім сталом у асобным кабінеце і да яго ў прыёмнай заўсёды чакае змрочная, маўклівая чарга.

Мне зусім не хочацца весці ў свой «няправільны» дом незнаёмую дзяўчынку. Гэта яна каторы год падчас майскіх і кастрычніцкіх дэманстрацый прыгожа апранутая, з трыбуны ўрачыстым бадзёрым голасам крычыць у мікрафон пра «поколения… мы клянёмся… пронести достойно…» штосьці.

І мне хацелася б стаяць на трыбуне, але я ніколі не вучылася на круглую выдатніцу, мой бацька не ходзіць на работу ў райвыканкам, не мае кабінета з высачэзнымі дубовымі дзвярамі. Як добра, што ад прыроды не ведаю нічога пра зайздрасць, умею не хацець таго, чаго не магу мець. Проста канстатую: хораша стаяць на трыбуне, усе яе бачаць, яна прыгожая, смелая, нікога не саромеецца, на галаве ў яе белапенны капронавы бант, у мяне такога няма і ніколі мама мне такі не купіць, у гэтай дзяўчынкі прыгожае рускае вымаўленне, а я не хачу так размаўляць, хоць мне падабаецца, як размаўляе яна. Мне чамусьці прыходзіцца саромецца сваіх родных слоў. Не ведаю — чаму, але адчуваю дакладна: размаўляць так, як мае бацькі і мая радня размаўляюць, — сорамна, нізка, непрыстойна, бо на ўроках кожны дзень выпраўляюць, перайначваюць маю гаворку, значыць я не так, як трэба, размаўляю… і таму я больш маўчу.

Яшчэ і па гэтай прычыне не хачу весці дзяўчынку дамоў, там я абавязкова «прагаваруся», там могуць «прагаварыцца па-свойску» мае бацькі, яны заўсёды размаўляць «не так, як трэба». Вось і яшчэ адна прычына таго, што стаяць на трыбуне я ніколі не буду. Проста гэта не маё жыццё.

Лёгка, лагічна, без шкадавання распараджаюся я ад самага маленства з усімі спакусамі і жаданнямі, якія немагчыма ажыццявіць: гэта не маё жыццё, кажа мая падсвядомасць і не адчувае ні зайздрасці, ні пратэсту. Памятаю: ёсць той, хто бязмежна любіць мяне, ён прыгатаваў для мяне самае лепшае маё жыццё, толькі трэба кожнае імгненне слухаць, адчуваць яго голас, а гэта няпроста…

Я доўга ваджу незнаёмую дзяўчынку па горадзе, але яна хутка заўважае — мы па гэтых завулках трэці раз кружляем. У мяне не застаецца іншага выйсця, як спыніцца ля свайго дома. Пашанцавала! Бацькі пакуль не вярнуліся з работы, хапаюся за астатні ратунак: ключоў ад дома няма! Дзяўчынка абыходзіць наш дом, заглядае ў вокны. «Ну ладно, приду в другой раз», — абвяшчае яна свае планы і сыходзіць.

А я ненавіджу… сябе.

Вось тая, каго лічыла сяброўкай я, ніколі не прыходзіла без дамовы, ніколі не навязвалася, не траціла свайго і майго часу дарэмна. Яна не любіла плётак, не завадзіла кузлаў-інтрыг, на што звычайна здольныя дзяўчынкі.

Таню першы раз пабачыла я перад самай школай у паліклініцы, куды нас прывялі на медагляд. У чарзе чакала прыёму разам са сваёй маці мілая бяляўвенькая дзяўчынка з блакітнымі вачамі і дзіўным вымаўленнем гукаў «ш, ж», яны ў яе атрымліваліся як гук «ф». (Потым, у сярэдзіне навучальнага года, Маня Ермачонак выйдзе да дошкі расказаць казку — аднакласнікі здзівяцца нязвычнаму вымаўленню Мані, а настаўніца засмяецца на ўвесь клас.

Казачніца раптам зашапялявіла: «Фыли-были дедуфка и бабуфка и была у них курофка Рябуфка». Мані спадабалася Таніна вымаўленне, і яна захацела пераняць такую адметнасць.)

Таня стала маёй першай сапраўднай сяброўкай. Запрашала мяне ў свой дом. Па дазволе маці. У іх сям’і прыгожа і правільна размаўлялі па-руску. Як па класічнай схеме, вялі мы з ёй разумныя дыялогі, чыталі кнігі, гулялі ў шахматы, потым маці садзіла мяне перад сабой за баян, на спецыяльны зэдлічак з падпіленымі ножкамі, для правільнай пасадкі маленькага баяніста (у мяне дома такога зэдлічка, канечне ж, не было, я мусіла сядзець на канапе, памінутна падцягваючы баян, які спаўзаў з каленяў): маці Тані загадвала іграць усё, што я ўмею, — хваліла, асабліва за мелодыі, падабраныя самастойна, па слыху. Тут жа ўшчувала дачку. Яна пры мне сароміла, вычытвала Таню за тое, што не ўмее граць як я. Рабілася няёмка, не ведала, што казаць, як сябе паводзіць, каб не аслухацца і не быць здрадніцай.

Гэта ў іх доме аднойчы я зразумею, што ад ежы чалавек можа памерці… Я зайшлася па сяброўку па дарозе на майскую дэманстрацыю. Маці запрасіла мяне разам з імі за стол.

— Але я толькі што паснедала.

— Нет, отказы не принимаются!

Я не ўмею супрацьстаяць, не ўмею пярэчыць, перада мной на талерцы дзве роўныя маёй галаве клёцкі з мясам. Ні крошкі пакінуць не дазволена. Што адбывалася далей у той дзень, я не памятаю…

Выраслі мы, і штосьці зламалася. Я зразумела: сябраваць па дазволе маці — не сапраўднае сяброўства.

## Памяць

Быў вечар напярэдадні Новага года. Апоўднем мае сёстры з мамай пайшлі ў бальніцу перадаць бацьку дамашняга харчавання, забраць яго вопратку. Нягледзячы на блізкае свята, бацьку чамусьці паклалі на стацыянарнае лячэнне.

Цяпер, калі я шмат дазналася з жыцця дарослых і канкрэтна з жыцця свайго бацькі, пракрадаецца драпежная думка аб тым, ці не сам ён арганізаваў сабе той стацыянар пад больш рамантычную мэту, чым лекаванне хваробы. Тым больш што бацька мой быў фізічна крэпкі, як сапраўдны асілак…

А тады ўсе падзеі бачыліся мне як належна.

Мяне везлі ў санках, звараных бацькам з арматуры. У руках я трымала торбачку з яго вопраткай. Твар заляплялі бухматыя шэрыя, як падавалася ў зімовым паўзмроку, ахлопкі снегу.

Вечарам мама і сёстры радасна разбіралі лубку (сплецены з лазы вялізны авальны кош-куфар, у якім мне можна было схавацца з галавой) з ёлачнымі цацкамі. У нас было шмат прыгожага ўбрання для навагодняй ёлкі: ланцугі шкляных пацерак, рознакаляровыя шары, моргаўкі, лімоны, яблыкі, зайчыкі, абрыкосы, хаткі, мядзведзікі, пышныя вяргіні і ружы, зорка для вярхушкі… Паяц! Я папрасіла даць мне паяца. Хацелася паглядзець у яго жывыя смяшлівыя вочы (канечне, ён быў жывым).

— Ён палез на гару. Чуеш, тупае нагамі па драбіне? — дарослыя не хацелі, каб я пабіла прыгожую цацку.

— Паяц не можа лазіць па прыступках — у яго склееныя ногі.

Дзеці заўсёды адчуваюць хлусню, згаджаюцца з маной толькі дзеля таго, каб не дастаўляць дарослым хвалявання. Дзецям дужа сорамна і мулка, калі хлусяць дарослыя.

Я ляжала на драўлянай канапцы, вочы адкрытыя глядзелі ў адну кропку.

— Чаму ты плачаш? Можа, ты спаць захацела?

— Не плач. Мы дадзём табе цукерку.

— На — пагуляй з паяцам…

Дарослыя ў тры галасы ўгаворвалі мяне. Іх напалохалі ціхія сумныя слёзы. Толькі да паяца слёзы ніякага дачынення не мелі. Не мелі дачынення і да сямейных — мяне ніхто не пакрыўдзіў.

Упершыню я адчула штосьці ў часе і прасторы. Памяць упершыню адгукнулася ўва мне, стварыла карціну: зіма, вечар, дарога, якой мяне везлі ў санках, звараных бацькавымі рукамі. Бацьку і мяне, мяне і Бацьку, як зямлю і неба, раздзяляе велізарная прастора: бязмежная пароша цяжкіх, шэрых, халодных снегавых ахлопкаў.

Так паступова прарастае, складаецца памяць, а яна і становіцца нашым Я. Я — памяць. Памяць — не абсалют падзеі, не гістарычны факт. Яна наша творчасць. Мяне заўсёды здзіўляла і непакоіла, чаму адзін і той жа выпадак, кадрык жыцця, зусім па-рознаму помніцца яго дзеючымі асобамі, а каму і зусім не помніцца. У яго жыцці такога не адбывалася, хоць, магчыма, гэты чалавек быў галоўным героем той падзеі.

Мае сёстры, чытаючы мае кнігі, здзіўляліся, не памяталі нейкіх апісаных мной успамінаў.

Памяць дзіцяці пачынае прачынацца толькі ў стасунках з іншымі людзьмі. Магчыма, таму дзіця, кінутае ў прыродзе сярод жывёл, чалавекам стаць ніколі не зможа, бо ў яго не развілася памяць. Развівацца яна пачынае толькі тады, калі чалавек мае магчымасць вылучаць сябе з асяроддзя ва ўзаемадзеянні з сабе падобнымі.

Наша Я — памяць і больш нічога.

## Думка — магутная сіла

Тая маленькая дзяўчынка-ваўчок, якая мусіла штодзённа падпарадкоўваць сябе дарослым, зусім не была мной. Маё «я» ўсё і адразу разумела, адрознівала лёгка дабро ад зла. Прымячала дрэнныя думкі ў палёце, яшчэ да знаёмства з імі: яны ўчэпістыя, саладка спакушаюць, прымружваюць свядомасць, волю, яны нападаюць, авалодваюць розумам, ад іх цяжка ўхіліцца.

У першыя моманты свядомага жыцця тое «я» дало мне загад — не дазваляй кепскім думкам панаваць над сабой.

Мае дарослыя давялі мне, што хараша спяваю. Хацелася мне таго ці не, ставілі на табурэцік перад гасцямі, і я мусіла спяваць. Пакуль была зусім малой — спявала як робат, калі падрасла крыху і табурэцік пачалі ставіць для ігры на баяне — прымус зрабіўся для мяне катаваннем. Ігру на баяне я ўспрымала чамусьці як штосьці глыбока асабістае, куды нельга лезці без дазволу.

Нельга граць перад сталом з бутэлькамі, кілбасой і яешняй са скваркамі.

Магчыма, гады чатыры мне было, як бацька з вадзіцелем грузавога аўтамабіля прыехаў з работы на хвілінку дамоў, заскочыў узяць закуску і, як заўзяты хвалько, падхапіў мяне, паставіў на табурэцік: «Ну папяі ж песню!»

Я адчайна супраціўлялася, спяваць не хацела, песня з майго рэпертуару тых дзён зусім не падабалася мне, але дарослыя не навучылі спяваць другую: бацька паабяцаў узяць мяне з сабой катацца на машыне…

На бульваре, где большой фонтан,
Черноглазый маленький пацан
Прямо перед девочкой стоит,
Что-то шепеляво говорит:

— Слусай, Катя, выласту больсой,
Мы тогда позэнимся с тобой,
Отластю тогда я для класы
Как у дяди дволника усы.

Я праспявала, а бацька з вадзіцелем уцяклі з хаты. Маці зачыніла на крук дзверы, каб я не збегла за імі, і нічога іншага па заведзеным парадку ў сямейным выхаванні мне не заставалася, як біцца на падлозе сенцаў у істэрыцы. Гэта зусім не было «маім», так сябе паводзіла навучаная дарослымі дзяўчынка, а тое «я», што ўвесь час кантралявала яе, мусіла сарамліва цярпець такія ганебныя паводзіны.

Бацька вярнуўся праз колькі хвілін.

— Во як падманваць рабёнка, — сказаў ён маці. — Машына зламалася!

Забраў мяне з сабой. Машына паехала.

## Пашырэнне прасторы

Усе гэтыя кадры, вядома ж, адбываліся ў нейкай прасторы. Але для дзіцяці яна мела памер, роўны кропцы. Вось дом. Што ён значыў у маёй прасторы? То месца ля топкі шчыта, альбо грубкі, яшчэ так называлі печку ў большым пакоі — круглую, бляшаную, высокую — ад падлогі да столі. Дзвёркі ў топцы былі пазначаны незразумелымі літарамі «Германъ и сынъ, Рига».

У топцы складзены шчэпкі, бяроста, вакол — паленцы дроў, зараз маці чыркне запалкамі і з'явіцца агонь: чырвоныя, жоўтыя, памаранчавыя, сінія, блакітныя і зялёныя хвалі языкоў полымя. Вось у гэтай грубцы і канцэнтравалася ўся мая прастора таго часу, іншай прасторы ў маім свеце не існавала.

Дом, танцуюць госці, яны прыйшлі на ўваходзіны. Маці так адбівае сваімі абцасамі польку (адкуль музыка, хто мог граць, не памятаю?) — праламала ў падлозе дошку. Я бачу дзірку. Потым, як падрасла, колькі ні ўглядалася ў падлогу — ніякай дзіркі там не было і быць не магло: дошкі ў падлозе дужа крэпкія, дыхтоўныя. Магчыма, гэта дзіцячая фантазія? Магчыма, я толькі чула жарт: «Падлогу праломіце!» Але гэта дзірка і танец вакол яе былі некалі ў памяці кропкай маёй прасторы.

Дом, катух з бульбай у маленькім пакойчыку, які стане потым кухняй. Я паўтараю першыя словы: «Мама кулікак, тата кулікак». І на мне маленечкія рудыя вайлачкі: кулікак — у вайлаках.

Хутар у Шыпах першых успамінаў змяшчаецца ў кропцы прасторы — печ, на якой я сяджу адна і мне так сумна і тужліва, што ўвесь свет ператвараецца ў суцэльны боль душы. Гэты боль і дае мне разуменне, што я ёсць. На хутары мяне часта маці пакідала на сваю родную сястру Ніну, маю цётку.

— Не чапайце Люську, яна дужа зжудзілася, — гэта словы цёткі Ніны да сваіх сямейных.

Каб не тыя словы цёткі Ніны, памяць не зафіксавала б ні кропку прасторы, якую ўвасабляла пядзя печы пада мной, ні тую невыносную тугу. Хутчэй за ўсё, душэўны боль дзіця ўвабрала б у свой нелюдзімы, ваўкаваты характар… Але цётка дала яму назву і ўсведамленне, падзея зафрахтавалася ў памяці назаўжды.

Прастор Шыпоў доўга будзе канцэнтравацца ў той балючай кропцы душы — адна. На ўвесь свет — адна. Адной я буду ўсё жыццё. Не ведаю чаму. Ніколі я не адшукала ніводнага чалавека, які б зразумеў мяне. Але пры тым ніколі я не адчувала і не ведала недалюбленасці. З самага ўсведамлення сябе я знала — гэты свет існуе для мяне. У кожнага чалавека — свой свет, але мой свет існуе толькі для мяне і ён бязмежна мяне любіць, тут усё прыгатавана найлепшае, толькі выбірай — не зблытай з чужым. Прыслухайся да сэрца, не траць сувязі з той бязмежнай любасцю.

Потым прастора Шыпоў пашырылася да поля, якое я магла ўжо абыходзіць адна сваімі нагамі. Там спявалі птушкі, там кнігаўка прасіла піць, там пахла мятай і кашкай, палыном і чаборам. Паступова прастора пашыралася да ўсяго хутара цалкам, з яблынямі, ігрушай, хлявом, сцежкай да дарогі і самой хатай пад саламянай страхой. У той дзіцячай прасторы чамусьці не памятаю ні дня дрэннага надвор'я, толькі сонца!

У жытнім полі я часта знаходзіла птушыныя гнёзды. І цяпер не ведаю, якія птушкі могуць гняздзіцца ў жыце. Тое, што гнёзды заўсёды былі пустымі, як мне думалася — разбураныя катом ці яшчэ якой жывёлкай, мне бачылася нядобрым знакам лёсу. Што за песімізм?!

Толькі цяпер да мяне дайшло: гнёзды ніхто не бурыў, птушаняты выраслі і павыляталі: жыта даспела — хутка жніво.

Да маёй прасторы дадалася ферма, куды хадзіла з дзядзькам, там ад вялікага чана моцна пахла кіслым малаком, гноем і махоркай, якую курылі мужчыны, седзячы на лаве за пустым сталом у няўтульнай каморы. Туды ж вадзілі да быка карову. І я ўспрымала злучку жывёлы як самую звычайную бытавую з'яву. Роўна так мы, дзеці, прымалі факт гермафрадытызму ў чалавеку з імем Максімка, які, усе ведалі і не дзівіліся, ходзіць аднаго разу ў мужчынскае крыло лазні, другі раз — у жаночае. Ведалі, што цётка Жэня носіць выключна мужчынскую вопратку, паліць папяросы і ніколі не будзе замужам. У тым без прапаганды, без навязлівай навукі ў школах: «бывает родитель № 1, родитель № 2» — не бачылі мы аніякага дзіва, крыміналу, выродства ці спакуслівага прыкладу. Жыццё ішло само сабой, якое ёсць.

Так мой прастор пашырыўся аднойчы да Любчыкавай хаты…

Раніцай дарослыя сышлі ў калгас адрабляць палачкі-трудадні. Я бачыла, як цётка Ніна пайшла ў «той» бок. Што ў тым баку — смутна

ўяўляла я толькі да хаты Любчыка, так звалі суседа, гаспадара бліжэйшага хутара.

Адной дома сядзець цэлы дзень сумна, я пайшла ў «той» бок. Куды ранкам накіравалася цётка Ніна. За градамі і кустоўем была маленькая сажалка, з яе піла карова пасля пашы. За сажалкай якаясь невыразная парасль з чарнабыльніку і асоту. За гэтай купкаватай, зарослай пожняй быў пясчаны кар'ер, адкуль бралі на будоўлю пясок і жвір. Там я часта гуляла. Смяротна небяспечнае месца для малых. Там аж пад дарогу было нарыта некалькі пячур, якія ў любы момант маглі абваліцца. Там заўсёды стаяла вада ў калюжыне, дно яе зыбкае, пясчанае імгненна ўсмоктвала нагу па калена, як палезеш цялёпкацца — толькі паспей ухапіцца за вострыя лёзы густога пырніку! Цікава гуляць у кар'еры, але мяне ўжо цягне напрамак, куды сышла цётка Ніна.

За кар'ерам нядоўга цягнуўся голы пагорак, без дрэў, без кустоўя, а за ім адразу, паводдаль дарогі месціўся хутар Любчыка ў густых зарасцях чаромхі і бэзу. А далей — да самага небасхілу — вакаём чорнага тарфянога поля. На ім амаль нічога не расло, толькі вілася вузкая сцежка кудысьці ў зусім няведамы мной прастор…

З Любчыкава хутара мяне пазваў голас. Гэта і быў голас Любчыка.

Я паслухмянае дзіця, як шчаня на паваду, я пасунулася ў хату, адкуль пагукалі мяне. За сталом сядзела чацвёра мужчын, на стале стаялі бутэлькі. Я паслухмяна, сціпла спынілася ў парозе і чакала, што скажуць дарослыя…

— Садзіся, Люська, выпі з намі… — запрасіў Любчык.

Хоць я была малой, гадоў восем, я ўсё разумела, адчувала: адбываецца штосьці нядобрае. Але разумець усё і адчуваць — мала. Патрэбна шмат слоў, каб перакласці тое на чалавечую мову, знайсці адпаведнасць прадчуванням і думкам у словах і фразах. А я не навучаная пярэчыць дарослым, аспрэчваць іх, ратавацца ад злога…

— Я не хачу. Не хачу піць, — ціха адмовілася я.

— Сядай, сядай за стол — выпі з намі…

— Кінь, Любчык. Яна малая… — знайшоўся ў кампаніі якісь адзін сумленны голас. — Ідзі, Люська, куды ішла…

## Шпулька

У нас стаяла швейная машынка з нажным прыводам. Маці казала, што раней бацька шыў на ёй нам малым штаны, кашулькі. Я не застала такога шчаслівага часу, а вось як мама садзілася за маленькі столік і пачынала стракатаць мерным дробатам, дамашнім, прыемным — помню. Мама шыць магла ўсё, ад прасціны да сукенкі і паліто. Як з часам навучылася і я.

Я мела самую важную асаблівасць для любога рамяства — адсутнасць страху перад пачаткам. Раз! — і нажніцы на вясу ўразаюцца ў палатно — чык, чык — і штаны на клубах як улітыя. Чык, чык — і сукенка ад Кардэна! Я магла выкраіць шыкоўную мадэль, а вось сшыць прафесійна, акуратна — не хапала цярпення.

Дык вось, малой хацелася і мне дабрацца да гэтай машынкі. Іншым разам мама дазваляла пагуляць. Ставіла механізм у нерабочы рэжым, каб іголка не рухалася, і дазваляла круціць нагамі чыгунную падстаўку: прыгожую, карункавага выгляду чорную раму.

Аднойчы падчас такога занятку — доўгага аднастайнага руху ступакоў — у галаве зрабілася пуста і лёгка, быццам захмялела. Праз усю маю істоту паплыў паток мікрачасцінак. Маё «я» зрабілася мікраскапічным і адначасова велізарным, на ўвесь сусвет. Папросту: я і была гэтым сусветам, усімі яго малекуламі і атамамі. Гэта неперадавальнае адчуванне якогась яднання першапачатку і вечнасці!

У дарослым веку, калі прыходзілася падоўгу круціць нажное кола швейнай машынкі, такі дзіўны энергетычны стан удавалася адчуць не раз.

## Фотаздымак на памяць

З расказаў маёй сястры Раі я не раз чула, што брат яе сяброўкі Зоі, Валодзька Сапуноў, ходзіць у музычную школу…

Ля нас стаяў імшоны зруб, малыя лазілі мы па лясах аж на самы верх, не зважаючы на забароны бацькоў. Але ж нікому не ўдавалася залезці на самы апошні, найвышэйшы вянец бярвення. Там маглі хадзіць толькі цыркавыя акрабаты. Іх бачыла я ў гасцініцы, дзе працавала мая маці прыбіральшчыцай, калі цырк прыязджаў у Глыбокае на гастролі.

Быццам з казачнай краіны, прыгожая, тоненькая дзяўчынка, гадоў дванаццаці, з доўгімі вогненнымі валасамі і гімнастычным абручом, чакала на вуліцы разам з дарослымі спецыяльны цыркавы аўтобус. Яна была сапраўднай артысткай, без паправак і скідак. Толькі яна магла лёгка, грацыёзна прайсціся з кніксенамі і рэверансамі ў бліскучым трыко па найвышэйшым вянку бёрнаў.

Так мне ўяўлялася і слова «музыкалка», пра што распавядала мая сястра Рая. Дзіўным здавалася адно: як гэта Валодзька Сапуноў, зусім не грацыёзны і не тоненькі, якісь белабрысы мацачок з канапушкамі на самым звычайным твары, умудраецца хадзіць па такой вышыні, як музыкалка.

І вось ужо я сама хаджу ў музычную школу. Сваяк Федзя зусім нядаўна паказваў мне басы на баяне, а тут, вельмі хутка, так здавалася ў маім часавымярэнні, задумаў жаніцца.

Мы паехалі на вяселле ў вёску. Там мой бацька рашыў пахваліцца дачкой. Ён заўсёды любіў хваліцца, хоць чым: хлявом, печкай, комінам, а дзецьмі — асабліва. Пасадзіў мяне на табурэт і загадаў — іграй. Акрамя «Степь да степь кругом» я нічога не ўмела іграць. Прыйшлося паўтараць раз за разам адну песню. Бацька пазваў фатографа. Наша сям’я выстраілася пад дрэвамі ў садку.

Так і засталіся на фотаздымку і ў маёй памяці: прыгожыя, яшчэ маладыя, мама з татам на табурэтах, стоячы за імі — дзве старэйшыя сястры ў новых сукенках, шытых самаруч імі ж пры дапамозе мамы, з моднымі прычоскамі, якія лёгка дазвалялі мець іх шыкоўныя, пышныя валасы: у Раі — чорныя, дужа пасавала ёй блакітная сукенка; у Люды каштанавыя валасы, прыгожа глядзяцца яны з загадкавым — чарніцы з малаком — колерам яе новай сукенкі. Сярод бацькоў я з баянам.

Пасля здымкаў да мяне падыходзілі знаёміцца вясковыя дзеці-аднагодкі. Дзікаватая, нелюдзімая бы ваўчок, я ні з кім не загаварыла, адвярнулася. Так было не раз. Я не стасавалася ні з кім з чужых. Толькі зараз, у сталым веку, да мяне праз унучку Машу, такую ж нелюдзімую, дзікаватую дзяўчынку, нейкім чынам дайшло, чаго не ўсведамляла ў маленстве. У той момант, калі да мяне падыходзілі бліжэй чым на тры крокі незнаёмыя, чужыя, а нават і сваякі, я адчувала страшэнны дыскамфорт, пакуты, няўтульнасць, фізічны боль, здавалася, што людзі топчацца па мне нагамі.

Але самы першы здымак маёй персоны быў зроблены дзесьці ў тры гады. На ноч мама мае валасы закруціла ў папільёткі. Раніцай мы ішлі з бацькамі па вуліцы Маскоўскай і спаткаліся з дамоўленым фатографам. На мне прыгожая белая вышываная сукенка, маленечкі кошычак у руцэ з бэзамі. Люблю бэзы!

## У той Зоі

У той самай Зоі я ўкрала ляльчыну сукенку. Такую прыгожую, што нават уявіць цяжка: блакітнага колеру з драбнюсенькімі кветачкамі, з карункавымі фальбонамі па ўсім падоле, з маленечкім гузічкам з перліны на расхіле каўнерыка, таксама абрамлёнага тоненькай фалдачкай карункаў.

Да Зоі нас прыйшло чалавек пяць, усе былі заняты гульнёй, сама Зоя іграла на фартэпіяна — яна ўжо вучылася ў музычнай школе, як і Валодзька Сапуноў, — а мне спакою не давала гэта сукенка. Так хацелася, каб у маёй лялькі-галыша Каці таксама была вопратка не толькі самазрэбная, а вось такая, сапраўдная. Я разумела, што сукенка Зоінай лялькі не налезе на майго галыша, бо ўдвая меншая памерам. Аднак скруціла сукенку ў рукаво сваёй кофты і пайшла дамоў. Але як перад сямейнымі адчытацца?

Паклала сукенку ў свіным катуху і «знайшла» яе сама тут жа з чыстым сумленнем, чыстасардэчна паверыўшы ў знаходку. Сямейныя наогул сукенкі не заўважалі.

А неўзабаве я ішла з сястрой Раяй са школы і папалася. Зоя стаяла ля сваіх варотцаў: «Люся воровка!» — крыкнула яна мне насустрач. Сястра Рая імгненна адрэагавала, распытала, што я ўкрала, супакоіла Зою, паабяцаўшы вярнуць украдзенае.

Рая прысароміла мяне, але маме не расказала. Я ж так шчыра паверыла ў «знаходку», што не дужа зразумела сваё злачынства. У памяць яно далося.

У маім дзяцінстве так мала было дзіцячай радасці, проста злачынна мала. Мне ўвесь час вельмі хацелася штосьці ўкрасці. Мне сніліся сны, як я купляю ў магазіне нейкія неабходныя для дзіцяці рэчы, цацкі, цукеркі. Даступна і дазволена ў сне многае і каштуе яно — сцёркі (ласцікі) — не грошы патрэбны для пакупак, а сцёркі, якіх у мяне шмат.

І ўсё ж нават у сне я не магла купіць анічога.

## Альбін-блін

Напэўна, музычная педагогіка беларускай баяннай школы мае шмат хібаў, ва ўсякім разе сярод правінцыйных навучальных устаноў. Доўгая практыка змушае мяне на такую выснову, бо атрымліваецца, што самыя таленавітыя, адораныя прыродай дзеці не даходзяць да прафесійнай музыкі. Іх спыняе першы ўступны экзамен у музычную вучэльню, калі яны здолеюць дапаўзці да яго. Так было дзясяткі гадоў раней, так застаецца і па сённяшні дзень. Ад першых урокаў вундэркінды мусяць развітацца са сваім прыродным абсалютным слыхам, здацца ў палон маруднага завучвання нотных знакаў, правіл, забарон. Адбіваюцца ад музыкі, моцна адстаюць ад упартых, працавітых сераднячкоў. Праўду казаў мой бацька падчас маіх школьных заняткаў: «Не ведаю, чаму вас у школе вучаць гадамі? Некалі Рубіс мальцаў за тры месяцы вывучваў на гарманістаў». Самыя адораныя дзеці, мае аднагодкі, слухачы, якія з першага разу паўтаралі мелодыю ад любой ноты, дзеці, да якіх мне па здольнасці не было як раўняцца, не паступілі ў музычнае вучылішча. Не здалі сальфеджыа, не вытрымалі ўсіх выпрабаванняў па спецыяльнасці (ігра на музычным інструменце), а я, хоць далёка не была ўседлівай і старанней, паступіла, мінімум патрэбных ведаў набыла за школьныя гады. Тое ж потым назірала і ў сваёй прафесійнай практыцы. Прыходзілі таленавітыя дзеці, на першых уроках пачыналі выракацца нотнай навукі: «Я па слыху!» Па слыху самі выкладчыкі «не навучаныя вучыць». Не хапае ў педагагічнай практыцы якогась прыёму, здольнага прымірыць слых і марудную навуку. Маленькія слухачы адолеюць майстэрства лабуха і не больш; можна сыграць знаёмую мелодыю, простую незнаёмую: Бетховена, Баха, Ліста, Чайкоўскага, Моцарта па слыху не надта схопіш.

Усю гэту гаворку завяла я толькі таму, што Алік Кірзяёнак і быў менавіта тым талентам, які не адолеў уступныя экзамены ў музычную вучэльню, а я паступіла, і было мне крыху сорамна перад ім і перад Жорам Карэнькам, які сходу граў любую песню: мне яе трэба было доўга вучыць, хоць нейкі слых мела і я, ды не роўны ім.

У Аліка ўся сям'я музычна адораная. Яшчэ дашкольніцай, памаўзой, я па-суседску трапіла ў іх двор (бывае, дзеці абіваюць вуглы-парогі, кудысьці ды забрыдуць), я — пад іх акно, а там Рэня, сястра Аліка,

дзеўка на выданні, вялікая ростам, чарнавокая, вясёлая, грала кавалерам на баяне і спявала песню «Колокольчик».

Дирлинь, дирлинь колокольчик,
Колокольчик голубой.
Ах, Коля, Коля, Николаша!
Где мы встретимся з тобой?

Мяне ўразіла ўсё! Смеласць Рэні — яна зусім не саромелася хлопцаў, — яе звонкі голас, як лёгка трымала яна і перакідвала на каленях баян, амаль без дапамогі рэменя. Жанчыны ў гэтай сям'і былі магутныя, крэпкія, здаровыя. Мужчыны, бацька Альбін і сам той Алік, пра якога вяду гаворку, дробныя, ды жылістыя, вельмі «мужчыністыя».

Той Алік перыядычна ўсплываў у маім дзяцінстве…

Малыя любілі абзывацца. Ідзе чалавек па вуліцы, нікога не чапае, і тут як цюцькі з-пад варот: «Цурук бяз рук!» — гэта мянушка такая ў чалавека.

Аднойчы з-пад варот пагаўкала і я на хлопца, гады на два старэйшага за мяне. «Альбін-блін! Альбін-блін!» Пагаўкала і ўцякла за дом на дрывотню, стаю, не дыхаю. А праз наш двор, тады яшчэ не было агароджы вакол нашай сядзібы, людзі хадзілі на другую вуліцу, каб спраміць дарогу. Якраз пападалі з вуліцы Шпітальнай, якую называлі не іначай як Госпітальнай, праз бульбяныя соткі ў двор да Аліка Кірзяёнка на вуліцу Жданава. І Алік скараціў свой ход праз наш двор, хоць па ўсім было відаць — не збіраўся, ішоў па прамой, так — куды мілей яму ішлося, там, далей Зіначка Лаўрынаўская жыла… Ды мусіў звярнуць у наш двор, заадно і ў дрывотню зазірнуў:

— Люся, яшчэ раз абзавеш мяне — палучыш, — без злосці.

Праходзіць час. Я ўжо дзеўка-выпускніца, разам з Алікам і яшчэ дзясяткам выпускнікоў Глыбоцкай музычнай школы на заказным аўтобусе едзем на кансультацыю ў Наваполацкае музычнае вучылішча. На зваротным шляху падыходзіць у аўтобусе Алік і кажа, як мне падаецца, — у вас. Я не разумею, кручу вачамі, ён усміхаецца і яшчэ раз паўтарае — у вас… Я зусім разгубілася, паціскаю плячамі. Заўважаю, што ў руцэ Алік трымае марозіва, працягвае мне стаканчык. Нарэшце дайшло: купіў усім дзяўчынкам марожанага, раздае, пры тым нейкім своеасаблівым старасвецкім манерам угаворвае кожную: «Уваж».

Маўляў, прымі ад мяне пачастунак. Яго гаворка была з лёгкім змякчэннем шыпячых, гук «ж» выходзіў як «шь-сь».

З удзячнасцю прыняла пачастунак ад Аліка. Цікава, як склаўся яго лёс?

## Дзесьці ёсць горад ціхі, як сон

У горадзе майго дзяцінства ўсё было іначай, чым зараз у Глыбокім. Па духу, па настрою, па эмацыянальнай напоўненасці. Праўду сказаць, скрозь ляжала смецце: бутэлькі, «бычкі», папяровыя стаканчыкі ад марозіва, прыгожыя, сувенірна аформленыя пачкі з-пад цыгарэт «Палессе», «Белавежская пушча», фанцікі ад цукерак — «залатыя» абгорткі ад іх мы збіралі нібы каштоўнасці, выраблялі з іх розныя «ювелірныя прыкрасы». З-за гэтага смецця Глыбокае мне зусім не здавалася дрэнным месцам. Што тычыцца марожанага, то асаблівая тэма! Спрачалася нядаўна з маладым сваяком, які запэўніваў: для «пажылых» усё з дзяцінства здаецца лепшым. Хлусня! Тое марозіва — кулінарны шэдэўр!

Ніхто зараз не ведае сапраўднага марозіва. Ніякія Soletto, FruDoza ці Truffele параўнаць нельга з самым звычайным, найтаннейшага кошту, малочным марозівам у вафельным стаканчыку. Яго рабілі ўручную! Канвеер і аўтаматы знішчаюць жывую энергію прыроды ў прадуктах. Наша марозіва мяшалі драўлянымі лапаткамі, напаўнялі імі бітоны і на конных падводах развозілі па невялікіх кіёсках — іх у Глыбокім было ці не больш за шэсць?

У цэнтры — два: праз дарогу ад «Детского мира» і за скверам; на Маскоўскай два: рог Кірава і ля чыгуначнага пераезду; на старой плошчы, ля касцёла і, магчыма, дзесьці мной не заўважаных пара.

Вось у адным з такіх «ларкоў» я пабачыла ўпершыню… мужчынскі таемны орган. Якісь валацуга захацеў «да ветру» і нічога лепшага не прыдумаў, як сунуць яго ў шчыліну прыадчыненых дзвярэй ларка, а магчыма, ён так назаляў упадабанай кабеце, што гандлявала марозівам. Каб спякотай прадукт не раставаў, бітоны абкладалі крыгамі лёду. У кардонавых каробках, асобна, цэлымі гірляндамі — адзін у адным — падвозілі вафельныя стаканчыкі. Яны смакам ні на кроплю не напаміналі цяперашнія вафельныя «гумовыя ёмкасці», як толькі знешнім

выглядам. Той стаканчык, тоненькі, крохкі, смачны, сам па сабе меў кулінарную каштоўнасць, ён не размякаў ад марозіва, неператвараўся ў трапічную цягучку без смаку і водару.

Прадавачка адкупорвала бітон, над ім уздымалася пара, чарэпала палонікам норму, напаўняла стаканчык, ставіла акуратна на вагі: сто грам выходзіла — удвая перапоўнены вафельны цэбрык, грудок дзіцячай радасці. Чарга — доўгі нецярплівы хвост. Каму не хопіць — крыўдна да слёз! Трэба чакаць новага «вазюра». Абяцаюць падвезці. Марожанае нашага дзяцінства мела порыстую, рыхлую кансістэнцыю, нібы сыры пясочак з драбнюсенькімі крупачкамі, яго можна было лёгка захапіць языком колькі пажадаеш, яно не юлозіла, не лізгалася ўпустую, як цяперашняе, і ніколі, растаяўшы, не ператваралася ў цягучы кісель. У роце — колькі ні схапі — не зойдзецца ад холаду, бо яго не падвяргалі глыбокай замарозцы, градус трымаўся мінімальны, прыемнай чалавечай тэмпературы. Які водар і смак! Нават успамін напаўняе свежасцю. Назвы памяці сённяшнія фірмы эксплуатуюць для свайго тавару дарэмна — у ім няма той вартасці, на які намякае надпіс на абгортцы.

У цэнтры Глыбокага, недзе ў нізіне, зелянеў стары невялікі парк. Там раслі таўшчэзныя векавыя дрэвы: дубы, каштаны, бярозы, ліпы, таполі. Як шкада мне было, як балюча, калі карчавалі іх, руйнавалі парк пад будоўлю Дома Саветаў. Ненавідзела архітэктараў і ўсіх, хто згадзіўся на нядобрую задуму: знішчыць старадаўнія пабудовы горада, выразаць дрэвы двух сквераў пад услаўленне бюракратычнай сістэмы — дзеля таго, каб узвесці непрыгожы сяміпавярховы гмах.

## Альма-матар

Музычная школа месцілася насупраць парку, ля маленькага скверыка, у старадаўнім, чырвонай цэглы, будынку. Такіх дамоў у Глыбокім заставаліся тады ўжо лічаныя адзінкі. Дом меў два паверхі, кожны — вышынёй па тры метры, магчыма, вышэй. Зараз уявіць не магу: як раённая школа размяшчалася ў такім маленькім памяшканні? Класаў было ўсяго шэсць і адзін пад калектыўныя заняткі: сальфеджыа, хор, аркестр, музычная літаратура. Прытым з кабінетамі для кіраўніцтва ў школе было грунтоўна і належна, як і паложана ў савецкай школе.

Дырэктарка мела асобны маштабны кабінет, там я, трасучыся ад страху, з ліста на фартэпіяна чытала «Танец маленьких лебедей» Чайкоўскага. Строга і сур'ёзна ў яе быў наладжаны навучальны працэс. Яшчэ мелася прасторная настаўніцкая з балконам, адкуль у спякотныя майскія дні маладыя выкладчыкі паглядалі на возера, базарчык і прыгожых дзяўчат, што прабягалі паўз вокны музыкалкі.

Як адчыняеш з вуліцы ўваходныя дзверы ў чырвоны будынак, трапляеш адразу на крутую высокую лесвіцу. Такая Францу Кафку ў сне магла сніцца. Яна не мела парэнчаў ні ў пачатку, ні ў канцы — толькі пасярэдзіне — і складалася з вузенькіх, на палову мужчынскай нагі, прыступак. Я баялася вышыні і гэтай лесвіцы.

## Выхаванне не схаваеш

Аднойчы вечарам пасля рэпетыцыі аркестра мы спускаліся той лесвіцай з Лідай Рубашкай, маёй суседкай, таксама баяністкай (у перспектыве жыцця). Нейкі дурань пакінуў на прыступках вядро з вапнай. У школе паралельна навучальнаму працэсу ішоў рамонт. Ліда акуратненька мінула вядро, а я, ідучы следам, канечне ж, не ўпісалася: зачапіла калашынай, абярнула вядро, яно пакацілася ўніз. Бачу: Ліда стаіць уся белая. Мала таго, што я абліла яе з ног да галавы вапнай, — усю дарогу спыніцца не магла ад рогату. Чым больш ушчувала сябе за свінства, чым мацней дакарала за няўклюднасць — тым больш душылі мяне спазмы рогату. Твар аж круціла ад непаслухмянасці мышцаў. Шкада Ліду: уяўляла, як крыўдна ёй, як на ўсё паглядзяць бацькі, магчыма, будуць сварыцца. А подлы, здрадніцкі смех толькі ўзмацняўся. Я кашляла, пчыхала, шморгала носам, хрукала, хрыпела, каб замаскіраваць смех, і не вытрымлівала — выбухала зноў, а потым зрывалася на дзікі рогат. Ліда і вухам не вяла, не пакрыўдзілася ні за вапну, ні за смех, магчыма, як культурна выхаваная дзяўчынка, не паказала віду.

## Архітэктурны помнік СССР

Насупраць музычнай школы стаяла старая аўтастанцыя. Маленькі, цёмны, брудны будынак з аднюткім акенцам «каса». Ля гэтай касы аднойчы я, калі мяне паслалі за білетам, знайшла пяць рублёў — значная купюра таго часу, тым больш для нашай сям'і. Я спытала: чые грошы?

Ніхто не адазваўся. Аддала купюру касірцы. Праз хвіліну мужчына, які першым у чарзе, аблакаціўшыся на выступ акенца, чакаў прыходу транзітнага аўтобуса, памацаў сябе па кішэнях: «Гэта ж мая пяцёрка выслізнула!» Грошы яму аддалі.

Побач з аўтастанцыяй месцілася некалькі сталоў для базарчыку, там гандлявалі семкамі.

Калі ішла паўз гэтыя сталы, мяне аж распірала ад гонару. Жарт? У руках папка для нот! Іду ў музычную школу! Здавалася: усе бабулі толькі і занятыя тым, што назіраюць за мной. Ува мне, напэўна, разжываўся бес вяліказначнасці.

Але самай адметнай пры той аўтастанцыі была прыбіральня. Яна стаяла бліжэй да возера, за пуняй, у якой ляжала айсбергам саляная гара — некалі, магчыма, соль прывезлі ў папяровых пакоўках, ды папера даўна растварылася, соль жа зацэментавалася. Мураваная прыбіральня з метровай таўшчыні сценамі, хоць і робленая грунтоўна, усё ж пацярпела ад вандалаў — заднюю сцяну яе выламілі напалову. Людзям прыходзілася стаяць, вытыркнуўшы зады ў дзюрку. І мы, дзеці, мусілі з музыкалкі бегаць у тую прыбіральню, палохаючы адно аднаго байкай пра нейкага дзядзьку, што падсцерагае пад дзіравай сцяной жанчын з лязом у руках.

## Сустрэчы-праводзіны

На гэту аўтастанцыю, а потым ужо і на новую, бегала мая мама сустракаць маю старэйшую сястру Раю з Бабруйска — там яна вучылася на мастака-афарміцеля. Тэлефонаў не было. І кожны раз перад канікуламі альбо святамі мама нервавалася загадзя. «Прыеду на Новы год», — пісала ў паштоўках Рая.

Тут пачыналася! Звышэмацыйная, нецярплівая мама дні тры бегала чаўнаком. Спачатку на Маскоўскую, па якой абавязкова ішоў мінскі аўтобус: калі Раі не сустракала (гэта значыла — яна не прыехала, аднак мама не верыла), яна бегла наўздагон аўтобусу аж да цэнтра, дзе таксама іншы раз удавалася якомусь лёзнаму пасажыру ўгаварыць нязлоснага вадзіцеля спыніць транспарт (афіцыйна прыпынак у цэнтры, на Леніна, зрабілі пазней). Тут ужо мама зусім панікала, але не здавалася, даганяла аўтобус на станцыі. Не было мяжы яе расчараванню.

Мама галасіла, кляла ўсіх падчыстую! І так амаль кожны рэйс, а іх з транзітнымі ў дзень было нямала. Назаўтра ўсё паўтаралася. На трэці дзень нарэшце мы (я ж таксама бегала пры маме) сустракалі Раю і маміна злосць адразу прападала.

Двайнік будынка музычнай школы стаяў па дарозе на базар — не той маленькі, дзе семкі прадавалі: базар сапраўдны, вялікі, куды раз на тыдзень, у нядзелю з'язджаліся вазы з усяго нашага і суседніх раёнаў. Ад трох раніцы верашчалі парасяты, мычэлі каровы, бляялі козачкі, сакаталі-кудахталі куры… Потым пад'язджалі гандляры сельгаспрадуктаў: выстаўлялі мяхі з гароднінай, кашы з садавінай. Да адмысловых прылаўкаў вабілі смачныя брусы сыроў, масла і слоікі смятаны. Куды пазней дабіраліся «шпікулянты» з трантамі. Паблізу ад базарнага прасторнага пляца стаяў той самы стары будынак.

Зараз у ім музей. Раней сядзела начальства камунальнай гаспадаркі, гасцініцы. У падвале, з задняй сцяны, жыла сям'я гасцінічнай прачкі: старая бабуля, маці прачкі, сама яна і маленькая дачушка з хворымі ножкамі. Дзяўчынка не магла хадзіць, сядзела на ложку, гуляла з прыгожай вялікай лялькай.

Я хацела такую ж прыгожую ляльку, калі з мамай бывала ў іх падвале. Як добра, што па сваёй прыродзе я не зайздросная. Бо ў той час яшчэ не ведала: калі ты зайздросціш на ляльку, не забудзь пазайздросціць і хворым ножкам дзяўчынкі, іначай парушаецца справядлівасць жыцця і яно, цалкам магчыма, можа забяспечыць зайздросніку штосьці зусім нечаканае.

## Маміна работа

Сама гасцініца стаяла, як і зараз, на вуліцы Маскоўскай. І ў ёй мне знаёма было ўсё і ўсе: ад конюхаў, прыбіральшчыц, пакаёвак, прачак, дзяжурных, загадчыцы і дырэктара да кожнага куточка на кожным паверсе, да вялізнай бетоннай прорвы-сметніцы ў кутку гасцінічнага двара, якая чамусьці нічым не смярдзела, акрамя папяровых каробак і тытуню. Мая мама працавала ў гасцініцы, і я хадзіла да яе ледзь не кожны дзень. Мной абследаваны там усе закануркі: вестыбюль, фае, калідоры і лесвіцы, душ, туалет, пакоі, дзяжурка, камора-кладоўка, тамбур з вялікім кіпяцільным агрэгатам, які ўсе называлі «Цітанам» — менавіта так.

З гасцінічнымі ездзіла я ў лес вясной па мётлы, ад Паўла да Пятра — па венікі, летам у калгас на сена, увосень — на бульбу, потым у грыбыягады. Аднаго разу мне нават заплацілі палову працадня, знайшоўся хтосьці чуйны і ўважлівы:

— Трэба Люсі заплаціць, яна ўвесь дзень з намі старалася.

Я ўзрадавалася за маму — грошы добра ўлагоднівалі і змякчалі яе халерычны складаны характар. Але назаўтра мама не ўзяла мяне з сабой.

— Заставайся дома. Злаваць будуць, зайздросціць, што дваім плоцяць.

Мне зноў стала шкада маму, яна, канечне ж, хацела, каб я штосьці зарабіла, а яшчэ я разумела — мая мама ўмее бачыць па тварах чужыя думкі і паважае іх.

Дзякуючы гасцініцы я з маленства ведаю нашых народных артыстаў: Гарбука, Мархель, Уладамірскага, Станюту… Тэатральныя трупы Мінска, Віцебска часта прыязджалі на гастролі ў раён. Мама прасіла іх узяць мяне з сабой у паездку па вясковых клубах. Я глядзела спектаклі, цыркавыя праграмы, лялечныя казкі, канцэрты. Аднойчы, першакласніцай, паехала з артыстамі ў другую школу, там паказвалі лялечны спектакль. Казка скончылася, а я не ведаю, што рабіць, дзе шукаць артыстаў, дарогі дамоў я не ведала. Школа вялікая, выхадаў шмат. Школа стаяла на процілеглым канцы горада адносна майго дома. Уключыўся якісь інстынкт: пайшла за натоўпам, куды людзі — туды я. Ішла, ішла, на старой плошчы ўбачыла касцёл, ён стаў арыенцірам. З плошчы знайшла дарогу.

## З томным позіркам

Нашай класнай абавязкова трэба дадаць залік з плюсам за тое, што вазіла нас па розных вандроўках: Віцебск, Мінск — цырк, тэатр, музеі. Брэсцкая крэпасць.

Мы ехалі з вандроўкі ў цягніку, то быў дзесьці шосты-сёмы клас. Пачатак цікаўнасці да процілеглага полу. Нашы дзяўчынкі гуртом улюбляліся ў аднаго якогась выбранага хлопчыка. У першым класе — Віця Харлап, мамчын сынок, прыгладжаны хлопчык, паслухмяны, прычэсаны, выдатнік-харашыст. Чаму мне ніколі не ўдавалася закахацца

ў такіх хлопчыкаў, якіх любілі ўсе? Ці не таму мой асабісты жаночы лёс склаўся не зусім удала?

Не ведаю, пра што распаўсюджаныя «ахі-охі» — першае каханне! У першым класе Вася Кулак паднёс партфель, я падумала — вось яно, каханне: не кранае; потым «крэатыўна брутальны» Лёня Мацкевіч з запіскай і тумакамі, чым не любоў? Напалохаў. Прыйшоў у пяты клас Міша Калантай. Пасадзілі за адну парту. Міша хадзіў наравістым непаслушэнцам-двоечнікам. Я пераклала пад яго «Курган». З Мішам у нас сімпатыя на ўсё жыццё. Ніхто ніколі не разумеў мяне, як Міша. Потым новенькі-Каралькоў. Сапраўдны і непасрэдны. Яшчэ хлопчык быў старэйшы класам з блакітнымі, як неба, вачамі, запрасіў у кіно. Каторае з іх — першае каханне?

Не толькі на момант вяртання цягнікам з вандроўкі ў сёмым, у студэнцкія гады, акрамя платанічных мрояў у маёй галаве, на жаль, бо ўсяму б — ды свой час, не вадзілася думак пра хлопцаў.

Такой забітай, дзікай, непрыветлівай дзяўчынкі пашукаць яшчэ трэба было. Мне думалася, што ніколі і ніхто з хлопчыкаў на мяне не гляне. І вось пад мерны стукат калёс «піянерская пошта» прыносіць запіску, а ў ёй тры словы! Не паспела па-сапраўднаму «ўрубіцца», падаюць другую, там зноў тры словы, а за ёй следам «бандэроль» з медзвядзьком, потым з зайчыкам, зноў запіска…

На бацькоўскім сходзе класная выказала маме назіранні.

— Сидела томная, принимая любовные послания от мальчиков!

Каб толькі яна магла ўявіць, як паталагічна позна ў маёй галаве зарадзіліся неабходныя кожнаму чалавеку пачуцці да процілеглага полу, як ненармальна доўга, да нараджэння дзяцей, я заставалася «юным піянерам» у той час, калі мае аднагодкі вучыліся спасцігаць свет іншаполага чалавека. Злачынна дарма не навучылася я заўважаць мужчын, цаніць, паважаць іх, любавацца імі — і не навучуся ўжо ніколі.

## Хутарская педагогіка

Валік мой стрыечны брат, ён такі дарослы, што амаль не заўважае мяне. Ад самых першых момантаў-успамінаў аб ім засталася ў маёй галаве здзеклівая прыпеўка-дражнілка, прыдуманая другім маім стрыечным братам, родным братам Валіка — Віцем:

Валянцін, Валянцін!
Кату ж…пу завінціў!
Коцік бегае, крычыць —
нечым ж…пы адвінціць!

Колькі гадоў Валік служыў у войску аж у Нямеччыне. На хутар прыходзілі адтуль дзівосныя карткі-паштоўкі — вялікая ў вёсцы рэдкасць на тыя часы: віды замежных гарадоў, прырода, кветкі, маляваныя выявы жывёл (пачатак анімацыі), як на мой густ — самыя цікавыя адкрыткі. Старонкі фотаальбома раўнаважна са здымкамі займалі гэтыя прысланыя Валікам відочкі. Сваё дзяцінства я памятаю больш па цётчыным хутары, туды мяне выпраўлялі ад пелянальнага веку.

Мне дазвалялі разглядаць альбом, які нязменна зберагалі ў самаробнай тумбе. Тумба мела дзве прасторы: ніжняя за дзвёркай з ручкай-паўшпулькай ад пакупных нітак і верхняя без шуфлядкі; здымалася сталешніца, бы вечка ад цэбра, — бралі патрэбнае з неглыбокага корабу тумбы і накрывалі, упраўляючы вечка ў пазы. Але ж спачатку трэба было вызваліць гэту накрыўку ад дробязі, што заўсёды стаяла на тумбе: якіясь пушачкі з гузікамі-аплікамі, акуляры, свечка, нажніцы — і потым адхінаць сурвэтку. Па маёй просьбе, хто б ні быў дома, без ушчування даставаў альбом, не лянуючыся тых маніпуляцый.

Даждаліся з войска Валіка. Сярод хаты накрылі стол, весела гаманілі, смяяліся. Дэмбель узяўся паказаць на тых самых адкрытках месца сваёй службы, ён раскрыў альбом… Невядомая сіла ў гэты момант выштурхнула мяне ў двор. Я стала пад сцяной за рагом і чула праз адкрытае акно гаворкі дарослых.

— Вось тут, на гэтай старонцы была…

— Куды ж яна падзелася?

— Ціху… ціху…

На вуліцу выйшаў малодшы Валікаў брат, Віця, спыніўся ля мяне, пагладзіў па галоўцы.

— Люсечка, ты, мусіць, забылася адкрытку з альбома пакласці на месца. Пайшлі разам пашукаем яе…

## Звычайны дзень

Прачынаюся. Чую гоман. Дальні сусед прыйшоў на сяло, хоць хата стаіць асобна ў полі, хутар, але тут ніколі не скажуць «у госці», толькі — на сяло.

Хутарскія заходзілі ў хату не вітаючыся. Абаб'е снег з шапкі за парогам: «Сцюжа, халера яе!» Сатрэ пот з ілба летам: «Парыць!» «Дождж». «Пагода». «Непагадзь, каб ты калом!» У зачатак ідзе любая фраза, якая не парушыць парадку. Толькі пасля ўсіх рытуальных замоў паследуе навіна ці прычына самага прыходу, калі такая ёсць. Бо на сяло прыходзілі часцей без прычыны.

— Мінька дома?

Альбо:

— Дзе сам?

— Пайшоў лазы надраць.

Альбо:

— Карову павёў. Каня поіць…

— Даўна?

— Зараз будзе.

Варыянтнасць дзеі дае варыянтнасць адказу.

Сядае на лаву, скручвае цыгарку, чакае. Частаваць не прынята — не час. Якое сталаванне ў буднія дні, ды з раніцы…

Гаспадар заходзіць з вуліцы ці злазіць з печы, выходзіць з-за фіранкі, сядае побач. Маўчаць.

Там, ля печы, цётка Ніна гатуе сняданак, цягне аладкамі з петляванай мукі. Суседа, відаць, адолеў філасофскі імпэт.

— Як думаеш, Мінька, ёсць Бог на свеце?

— Хто ведае… Так і сяк думаеш: штосьці ёсць у прыродзе.

— Хтосьці кіруе светам.

Люблю слухаць, назіраць за людзьмі, што прыходзяць «на сяло» ў хату да цёткі Ніны, асабліва да дзядзькі Міنькі. Жанчыны пляткараць, абгаворваюць — не люблю, не любіць і цётка. Мужчыны звычайна разважаюць.

Дзядзька апоўдні стамляецца — хворы на сухоты, кладзецца на засцелены «капай» ложак адпачыць. У расчыненае акно праз галлё садовых дрэў свеціць сонца. Промні прыпячатваюць да сцяны, падлогі,

дзядзькавай спіны цёплых аранжавых зайчыкаў. Усе куты напоўнены густым моцным водарам кветак, траў, але адвечны пах сялянскага жытла ён ніколі не пераб’е. У садзе стаіць гул чмялёў і аваднёў. Па белых гладкіх дзядзькавых пятах — ніколі з-за сухотаў ён не хадзіў босым — поўзае муха. А ён не прачынаецца ад гэтага?! Уяўляю на сваіх пятках казытанне ўчэпістых мушыных лапак і заходжуся ад ласкоткі.

## Палітыка вёскі

У сенцах хутарской хаты на сцяне вісіць самаробны ліхтарык: бляшаная кансаровачка з-пад120 кількі, пачэпленая на матузок, у ёй агарак звычайнай свечкі. Гэтым ліхтарком мае браты цёмнымі зімовымі ранкамі і вечарамі падсвечвалі дарогу ў школу — яна ў суседняй вёсцы, праз поле кіламетры тры.

Віцю памятаю не раней за яго пятнаццаць-шаснаццаць гадоў, мне сем-восем. Валіка памятаю ад праводзінаў у армію. Кароткія моманты-ўспаміны пазламі складаюць карціны жыцця вёскі тых гадоў.

Прыходзяць паштоўкі з Германіі, там адбывае службу Валік. Ён прыгожы, высокі, статны, чарнявы, вялікія выразныя вочы: годзен прадстаўляць за мяжой савецкага салдата. Пачынаюцца ўсе лісты аднолькава, нібы пад капірку: «Здрастуйця, мама і тата!» — далей пералічваецца ўся радня і сваякі з дзецьмі, мужамі, цёткамі, суседзямі. «Ва первых страках свайво пісьма шлю прывет з Германіі і сапшчаю, што ўсё ў міня харашо», — гэта абавязковы радок, пісаны пад дыктоўку зачын. Далей следуе звязка слоў: «Мала вы мяне білі малога, — характэрны паварот салдацкага ліста. — Так і перадайце Віцю, як не будзет вас слухацца — прыеду і пасаджу на хлеб і ваду». І толькі пасля пералічаных загатовак, альбо між імі, можна дазнацца іншы раз хоць бы якую навіну з жыцця салдата.

Па прыходзе з войска, каб вырвацца з «прыгоннага калгаснага права», зноў спраўлялі праводзіны Валіка… на Цаліну. Гэта слова мне здаецца пісаным з вялікай літары, бо ўяўлялася як штосьці геаграфічна і гістарычна маштабнае, так і было… магло быць. Цаліна, мне думалася, як і служба ў войску — ёсць непазбежны этап мужчынскага лёсу.

Валік — прыгожы, стройны, высокі чарнявы хлопец — вярнуўся з цаліны фізічна непаўнавартасным чалавекам, страціў там вока. Яно

пасля траўмы зацягнулася бяльмом, стала меншым за здаровае, моцна касіла. Валік ганарыўся, распавядаючы, як «іншаземцы» любяць нас, беларусаў, за сціпласць, дабрыню. Брат ніколі, па сваёй сямейнай і нацыянальнай непатрабавальнасці ад жыцця, не ўспамінаў тых цяжкасцяў, што прыйшлося перажыць на чужыне, пра тое, што цаліннікі вырасцілі, сабралі, пералапацілі горы, да неба, збожжа, прытым самі елі без хлеба. На цаліне не хапала хлеба! Не галавы Валіка задача, колькі дабра, здабытага цяжкай працай маладых людзей, сабраных з усёй неабсяжнай прасторы Саюза, струхла, пагніло, сапрэла, сплеснявела, прахам пайшло праз злачынную безгаспадарчасць кіраўнікоў усіх рангаў, як і само жыццё многіх цаліннікаў — не адбылося.

Шкада вока, аплаціла дарэмнае намаганне: хутка і без цаліннай «радоўкі» калгаснікаў «вызвалілі з палону» — выдалі пашпарты.

У Валіка была дзяўчына — Вера, высокая, стройная, прыгожая. З нябеднай сям'і. Яе бацька трымаў пчол. Сама Вера — краўчыха: справа надта выгадная на той час, калі нічога прывабнага не было ў гандлі. Толькі тое і насілі, што шылі самаруч ці ў краўчых.

Нявеста нервавалася. Праз Валікавы вандроўкі па свеце можна і ў дзеўках застацца. Папярэдзіла ў лісце: калі не рашыцца на хуткае вяселле — выйдзе замуж за другога!

Валік паспяшаўся, прыехаў. Замова адбылася той жа вечар. Сядзелі пад абразамі склаўшы рукі, сарамліва апусціўшы галовы, так ні разочку і не пацалаваліся «на горка». Дык і не вяселле ж!

Вяселле справілі пазней, сапраўднае. На ўсю вёску. З гарманістам, вэлюмам і белай сукенкай. З песнямі і танцамі. І вось ужо маладая пара гасцюе ў цёткі ў Глыбокім.

— Паехалі, Люська, у Шыпы, — дзеля прыліку на развітанне запрашае брат. Зіма, мароз. Транспарт не ходзіць да Шыпоў. А Люську маці ўжо сабрала ў дарогу. Ад Ластавічаў праз дзве вёскі ішлі пешы. Маладыя адразу палезлі на печ грэцца: жылі ў цешчы. А Люська пайшла далей, на хутар, да цёткі Ніны, праз снежнае поле. Дайшла, а ў хаце нікога няма, хата зачыненая. Вяртайся, Люся, у вёску, шукай прытулку.

У доме Веры мне выпала паняньчыць іх першага сыночка Сашу. Вера імкнулася больш зарабіць грошай, шыла, шыла з раніцы да цёмна. Мяне пазвалі ў нянькі. Спраўна кармілі! Вера часта пыталася: «Ну, Люся, ты мусіць ужо агаладала?» На стале стаяла конаўка мёду, скры-

лі духмянай белай булкі і кварта малака. Смаката! А работы — усяго толькі дачакацца з нецярпеннем, пакуль прачнецца малое. Гэта ж Веры хацелася, каб Сашка даўжэй паспаў, а мне цікавей было пагуляць з ім, пашоргаць шпулькамі ад нітак, звязанымі ў брандзэлак, пабіць «ладкі», запытаць «сароку-варону», памацаць ружовыя пятачкі:

Кую-кую ножку, паеду ў дарожку.
Дарожка крывая, кабылка старая,
Кабылка сляпая, кабылка храмая
Зачапілася за пень — прастаяла цэлы дзень.
Каб не тыя панічы — прастаяла б да начы.
Каб не тыя паповічы — прастаяла б да поўначы.
Як бы не шляхцянка — стаялі б да ранку.
Каб не дальняя радня — дастаялі б аж да дня.
Кую-кую ножку, паеду ў дарожку.
Паеду да пана — зарэжу барана.
Пана дома не знайшоў — завярнуўся і пайшоў…
Да папа паеду — пасляшайся, гнеды!
Поп няхай пасціцца — мне баран згадзіцца.
Зарэжу другога — паеду да Бога,
Мо ён пашкадуе гаротных-убогіх.
Кую-кую ножку, збірайся ў дарожку,
Пакуль цягне гнеды — паеду, паеду!

Хутка яны пачалі будаваць дом у Глыбокім. Другі сынок Валіка падрастае, Коля, у глыбоцкім двары капае савочкам пясок. А гора ходзіць ля вуглоў, паглядае на сядзібу зайздроснымі вачамі… Памерла Вера. Застаўся мой брат з двумя маленькімі хлопчыкамі. Сустракала яго іншы раз у цэнтры Глыбокага. Ідзе праз плошчу, паніклы, гаротны, праз плячо перакінутая на шнурочках дзіцячая абуўка.

— Во, мальцам кеты пакупляў да школы. Хутка верасень.

Няма ўжо маіх братоў на гэтым свеце.

Пісалі ў раённай газеце: сын Веры і Валіка, Саша, вьiратаваў хлопчыка, які праваліўся пад лёд.

Нядаўна знайшоў мяне ў сацсетках другі іх сын, Коля. Пісаў: пакрыўджаны ён на бацьку… Валік жа потым не трымаўся адзіноты — сышоўся з жанчынай, разухабістай, вясёлай, бесклапотнай, заможнай: ім справы не было да сірот. Катаўся Валік на чужым аўтамабілі з дурным гонарам, хітра паглядаючы на радню адным здаровым вокам —

як зайздросцяць яго «шчасцю». Шкада яго было ў той «шчаслівы» час, і потым, калі зусім несумленны хадзіў па радні на пахаванні, каб выпіць чарку: «Во паклаў у кішэнь дзясятку, недзе вывалілася». Не маю чаго сказаць у апраўданне брата свайму пляменніку, маю што дадаць Колю — маўчу, бо мы, пракуроры чужога жыцця, сябе лёгка апраўдваем. Сам Коля пакінуў першую сям'ю з дачушкай, няньчыць новае дзіця ў новай сям'і. А хочацца яму думаць, што такі яго ўчынак зусім не падобны на бацькаў.

Бязбожныя гады фальшывай ідэалогіі непазнавальна суродавалі простыя, чыстыя, наіўныя душы сялян.

* * *

Сыходзіць жыццё. Усё менш застаецца энергіі, прасторы, часу для мяне на зямлі. Рэчы, з'явы, людзі страчваюць усякі сэнс, губляюць прыналежнасць да мяне, губляюць сваё для мяне, значэнне, патрэбу. Прыходзіцца звыкацца, зжывацца з новымі абставінамі.

Толькі адно — дзеці. Палохае да адчаю думка: не змагла ім прывіць самага важнага. Жыццё аддаляе іх ад мяне. Імкнулася быць патрэбнай, спяшалася дагадзіць. Чым больш старалася, тым горш замінала ўсім, адчувала гэта, яшчэ больш старалася і яшчэ горш замінала.

Як даць тое, чаго ніколі не меў сам? Не меў пры нараджэнні, у дзяцінстве, юнацтве, не меў на момант іх нараджэння, выхавання, а зараз, калі зразумеў нарэшце тое, самае важнае, не маеш навукі даць гэта сваім дзецям.

Як можа цяжкаатлет непрафесійна ўзваліць на сябе залішнюю, не асвоеную вагу, зламаць цягу — я неразумна страціла «эканоміку жыцця». Яго ўжо амаль не засталося, я існую, а жыцця няма. Няма энергіі штосьці перамяніць, паправіць. Як бы ні здавалася неэстэтычным, нелітаратурным слова «эканоміка», у ім сэнс. Усё мае сваю эканоміку, рэсурс, энергетычны запас: фізічныя сілы, стан здароўя, псіхічны тонус, матэрыяльныя асновы жыцця і культурны яго бок. Сапраўдная любоў (не падмена яе на прыцягненне палоў і цікаўнасць) і духоўнасць не маюць эканомікі, як не маюць межаў.

З момантаў самаадчування, нібы збоку, назірала за сабой і адчувала сябе чужой сярод чужых істот. Не было ў маім жыцці чалавека роднага душой.

Ніколі раней я не была на гэтай зямлі і ніколі больш не вярнуся сюды? Нікому не замінаць, не прасіць дапамогі, дагадзіць — было маім характарам. Я нічога не прасіла, не шкадавала сябе. Але тую адзінокую дзяўчынку, якая дзеля чагосьці ж нарадзілася на гэты свет, шкада. Быццам я нанесла ёй непапраўнае калецтва, не зберагла давераную жыццё. А магчыма, пражыла чужое жыццё, захапіўшы яго без дазволу ў той дзяўчынкі?

Толькі апошнія гады я адчула, якое шчасце жыць! Які цуд гэта планета, ява. Няўжо я прайшла стараной паўз жыццё?

# «НЯБЕСНЫЯ БЕГІ»*

## ЛІБРЭТА

На аснове біяграфічных падзей Язэпа Драздовіча, з дапамогай яго паэзіі і рыфмаванага тэксту Л. Андзілеўкі. Прымаюцца ўсе пажаданні і праўкі як кампазітара, так і рэжысёра, любога låрадцы, зацікаўленага ў стварэнні памяці Язэпу Драздовічу — галоўнае не пярэчыць біяграфічным звесткам яго жыцця.

## Дзейныя асобы:

Я з э п Д р а з д о в і ч — збяднелы шляхціч, адукаваны чалавек, мысляр, летуценнік, мастак, паэт, этнограф, настаўнік, астраном.

Д з я ў ч ы н а Б е л а р у с ь — з'яўляецца ў кожнай дзеі без слоў, папярэдне агучаная лейтматывам любові.

Б е л а р у с — каларытная асоба, перад заслонай кожнай карціны стварае настрой сваёй песняй (лейтматыў нязгоды). Гэта асоба зусім не абавязковая: дазволена вырашаць рэжысёру.

С т а р ы с а л д а т.

С я б р ы н а ц ы я н а л ь н а г а р у х у.

В у ч н і.

С а л д а т ы ў ш п і т а л і — тры.

Д з я ў ч а т ы (балет).

Ж а н д а р ы.

Расклад галасоў на гледжанне кампазітара.

---

* Назва службовая, з назвы кнігі Язэпа Драздовіча па астраноміі, дапушчальная замена на іншую па жаданні рэжысёра.

## Рэквізіт

Палата. Шпітальнае абсталяванне, ложак.

Клас. Школьнае абсталяванне.

Інтэр'ер «Беларускай хаткі» — суполка 1916–1920 гадоў.

Патрэбна апаратура для светлавых эфектаў і адлюстравання на экране карцін твораў Язэпа Драздовіча. Партрэтныя фотаздымкі рэпрэсаваных беларусаў, ахвяр імперскай палітыкі СССР.

Музычныя нумары як уверцюра, інтрадукцыя, пралог, харэаграфічныя сцэны — па жаданні кампазітара. Яны мусяць адлюстроўваць касмавізіі Язэпа Драздовіча, апісаныя ў яго дзённіках і творах.

## Дзея першая

### *Карціна першая*

Перад закрытай заслонай кожнай дзеі праходзіць беларус з песняй (лейтматыў нязгоды). Вопратку можна мяняць адпаведна часу. Песня можа выконвацца не кожны раз цалкам, па куплеце з прыпевамі ў пачатку і пасля куплета. Яна ж можа і без праходкі беларуса выконвацца за кулісамі хорам.

Гэй! Гэй! Беражысь!
Цёмна сіла — адступісь!

Не гультай, не абібок
Я — варты шчасця — далібог!

Рыбы стайка плешча у рацэ,
Неба, поле, паша, лес-гушчар!
Дык чаму слязіна па шчацэ?
Бо ў краі сваім — не гаспадар…

Гэй! Гэй! Беражысь!
Цёмна сіла — адступісь!
Не гультай, не абібок
Я — шчасця варты, далібог!

А няўжо, народзе, ты аслеп?
А няўжо, народзе, ты аглух?

За які — пакуты церпіш — грэх?
Кажы — колькі яшчэ сцерпіш мук?

Гэй! Гэй! Беражысь!
Цёмна сіла — адступісь!
Не гультай, не абібок
Я — шчасця варты, далібог!

Праўду падмянілі — і прайшло,
Песню задушылі — як было,
Ці ты нарадзіўся папіхайлам?
А ці табе мову адняло?

Гэй! Гэй! Беражысь!
Цёмна сіла — адступісь!
Не гультай, не абібок
Я — шчасця варты, далібог!

Едзем мы на конях па шляху,
Ладна востра шабля — на баку.
Годзе ўжо на печы спачываць!
Будзем сабе долю здабываць!

Гэй! Гэй! Беражысь!
Цёмна сіла — адступісь!
Не гультай, не абібок
Я — шчасця варты — далібог!

Заслона адкрываецца. Трызненне Язэпа ў тыфознай гарачцы. Ваенны шпіталь, палата, ложак, медычныя прылады, ад іх святлоэфектам ідзе водблеск у цемры, іх Язэп успрымае як зорнае неба. Устае з ложка, падыходзіць, дакранаецца да аконнага шкла.

Я з э п. Ночка зорная… Поўня ясная…

Промні водблескаў ператвараюцца на экране ў зорнае неба.

(*Спявае*.)

Зоркі, млечны шлях, поўня ясная…
Дзе пачатак ваш? Дзе мяжа?
Хто кіроўца твой, Яў нязгасная?
О, нябесных бегаў абшар!

Несупынны рух у векі-вечныя!
Не спасцігнуць розумам, пачуццём!
А у нас, людзей, хуткацечнае,
Хуткацечнае на зямлі жыццё.
Вы халодныя, вы далёкія,
Паасобку й вы адзінокія,
Але вольныя! Незалежныя!
Не заўжды да нас абярэжныя:
Не шкадуеце, не чакаеце,
Згоды з доляю не пытаеце.
Каму ў шчасці жыць, каму гараваць —
Вырашаеце — вы рашаеце!
Славай, ганьбаю, грахом, святасцю
Надзяляеце, абдзяляеце.
Хто разлучыцца, хто спаткаецца —
Толькі вамі ўсё вырашаецца.
Зачароўвае ваш яскравы рой,
Летуценнікаў кліча за сабой.
Ў даль высокую, даль таемную.
З марай велічнай спаткаемную.
А здаецца мне — у адзінстве мы:
Вы і чалавек!
Не спыняйце ж свой несупынны бег.
Свой касмічны бег.

Цемра на сцэне, Язэп вяртаецца на ложак. У гэты момант хор падхоплівае яго словы (адвольна, можна не ўвесь тэкст, а можна і без хору).

Харэаграфічная сцэна — сон Драздовіча. Промні нябесныя спускаюцца на сцэну,ператвараюцца ў дзявочы карагод. Гучыць жаночы хор: «Выбірай, Язэп…» Дзяўчаты танчаць вакол ложка Язэпа. Карагодам і паасобку падбягаюць, прапануюць — кожная свой вянок: усе вянкі адмаўляе. Гэта адбываецца ў гарачцы. Хор працягвае спяваць.

Х о р

Выбірай, Язэп.
Выбірай свой лёс.

Выбірай жа сам!
Ды не пашкадуй…
То прыйшоў твой час —
Не крыўдуй на нас!
Будзь сам — гаспадар!
Свайму лёсу — ПАН!
Ды не пашкадуй!
Ой, не пашкадуй…

Д з я ў ч а т ы

Вось прыйшоў твой час —
Паглядзі на нас:
Выбірай сабе наймілейшую.
Мы перад табой,
Дзе знайдзеш, Язэп,
Дзе знайдзеш яшчэ прыгажэйшую?

*(Карагодам вакол Язэпа мітусяцца, падбягаюць па чарзе.)*

Я пяшчотная.
Я ласкавая.
А я верная.
Я — вясёлая.
Я заможная.
Ганарыстая!
Працавітая.
Дамавітая.
Я разумная.
Далікатная.
А я лёзная.
Я шчаслівая…

Выбірай, Язэп,
Выбірай свой лёс.
Выбірай жа сам!
Ды не пашкадуй…
Ці ў багацці жыць.

Лёкаем служыць.
Ці з сумой хадзіць.
Праўду бараніць.
Мо дзяўчат кахаць —
Лашчыць-цалаваць…
Ці сыноў-дачок
Расціць-гадаваць?
Войска прынімай
Пад сваю руку!
Паспытаеш СЛАВЫ
На сваім вяку!

Падключаюцца этнічныя барабаны. Трывожны рытм. Танец пераходзіць у шалёную «свістапляску». Хор пераблытвае словы з розных сэнсаў. Падключаюцца рэплікі дзяўчат, якія несупынна вакол ложка скачаць: «Я прыгожая, я вясёлая…» Хор «шалее» з барабанамі, нібы заклінае — «Выбірай жа сам, ды не пашкадуй!» (Аднак гэта толькі маё бачанне — кампазітар па-свойму вольны бачыць.) Адна з дзяўчат (Беларусь) не падыходзіць да Язэпа, не пахваляецца. У яе на галаве вянок. Калі дзяўчаты збягаюць, гучыць лейтматыў любові (дзяўчыны Беларусі). Язэп прыўстае на ложку, працягвае да яе рукі.

Д з я ў ч ы н а
*(падыходзіць, кладзе на галаву вянок)*

Ой, не пашкадуй!
Ой не пашкадуй!

Усё сціхае, карагод збягае. Дзяўчына павольна сыходзіць, азіраецца, глядзіць на яго і прамаўляе:

Д з я ў ч ы н а. Толькі не шкадуй ды не папракай, Язэп…

## *Карціна другая*

Праходзяць тры хворыя салдаты, спыняюцца, паглядаюць у бок палаты, дзе ляжыць Язэп.

П е р ш ы  с а л д а т

Хто тут так крычаў?

Д р у г і  с а л д а т

Фельчар наш, Язэп…

Т р э ц і  с а л д а т

Дзень і ноч служыў, хворых даглядаў.
Змогся…
Сам упаў у хваробу — во…

П е р ш ы  с а л д а т

Малады зусім…
Сорак дзён ляжыць!
Беражы, Гасподзь!

Д р у г і  с а л д а т

Беражы, Гасподзь…

Т р э ц і  с а л д а т

Беражы, Гасподзь.

П е р ш ы  с а л д а т *(спявае)*

Вось і я салдат… Салдат-ветэран!
Дваццаць год служыў цару Мікалаю!
Перанёс нямала я і здзекаў, і ран…
А на старасці во… як жабрак хаджу!
Як жабрак хаджу, валачуся па роднаму краю.

С а л д а т ы *(працяг трыа, магчыма)*

Ой, прайшлі вякі даўняй вольніцы.
Калі кожны быў у супольніцы.
Калі лес, зямля былі Божымі.
Не прыватнымі, не варожымі.
Калі ўсе усім карысталіся
Ды ў правах сваіх вечаваліся.

Вечам правілі — справаваліся.
Пад прымус ярма не даваліся!
Лепш не мецъ зямлі,
Ды быць вольнымі,
Чым па ўласнасці — паднявольнымі.

*(Можа паўтараць хор за кулісамі нейкія словы.)*

Хворыя салдаты заўважаюць: Язэп устае з ложка, кагосьці шукае. Гучыць лейтматыў любові. Кароткі, просты, выразны — формула кахання.

Я з э п. Дзе яна?.. Тут была…

П е р ш ы  с а л д а т. Хто?

Д р у г і  с а л д а т. Язэп!

Т р э ц і  с а л д а т. Ці прыснілася?

Я з э п. Не! Была… Вось жа красачкі ў вянок спляла, азірнулася, усміхнулася.

П е р ш ы  с а л д а т. Пэўна трызніць ён…

Д р у г і  с а л д а т. Так, так — трызніць ён…

Т р э ц і  с а л д а т. Беражы, Гасподзь…

П е р ш ы  с а л д а т. Беражы, Гасподзь.

З а с л о н а.

## Дзея другая

Перад закрытай заслонай гучыць прыпеў, запеў і зноў прыпеў песні «Гэй! Гэй! Беражысь!»

### *Карціна першая*

«Беларуская хатка» — суполка інтэлігентнай моладзі ў Мінску 1916–1920 гг., якая імкнулася захаваць і адраджаць нацыянальную культуру. Збіральнікі этнаграфічных скарбаў, стваральнікі музея, вядомыя пісьменнікі, паэты. Сцены прыбіраюць нацыянальнымі сімваламі, арнаментам, ручнікамі, гістарычнымі выявамі. Чалавек пяць-шэсць. Мараць пра развіццё нацыянальнага мастацтва, літаратуры. Можна дадаць, як паэты чытаюць свае новыя вершы.

Крыху пазней. Гучыць лейтматыў кахання. Дзяўчына Беларусь ідзе па вуліцы паўз будынак «Беларускай хаткі». За ёй пільнуе Язэп. Дзяўчына нібы заходзіць у будынак, і Язэп за ёй, але дзяўчыны тут няма, ён азіраецца, шукае, аглядае пакойчык. Спачатку прысутныя яго не заўважаюць. Лейтматыў сціхае.

Я з э п *(з папкай малюнкаў у руках)*. Добры дзень усім!
П е р ш ы с а л д а т. О! Язэп — здароў?
Я з э п. Дзякую… Акрэп.
Д р у г і с а л д а т. Дзе блукаў-хадзіў?
Т р э ц і с а л д а т. Колькі зімаў, лет?
П е р ш ы с а л д а т. Спрэчка ў нас ідзе…
Д р у г і с а л д а т. Далучайся, брат.
Т р э ц і с а л д а т. Што напрацаваў?
П е р ш ы с а л д а т. Прапануеш што?
Я з э п. Вось — эскізаў шмат. *(Дастае з папкі малюнкі, выстаўляе.)*

Усе разглядаюць беларускія краявіды. Адзін з прысутных, гледзячы на выявы, пачынае спяваць — гэтыя словы можна падзяліць на рэплікі, ствараючы размову між героямі.

Беларусь мая, наша родная!
Ты ізноў сабой не свабодная.
Ты ізноў чужым западалася,
Праз якіх не раз разбіралася.
На правы твае навалілліся.
Між сабой — табой падзяліліся.
Не шукай ты ў іх сабе літасці.
Не было й няма справядлівасці.
Хоць бы баялі — мы не ворагі!
Ды правы твае ім не дорагі.
Пройдзе, пройдзе час — нехта знойдзецца,
Каб прайсці цябе, ды закаяцца!

У с е *(разам)*

Пройдзе, пройдзе час — нехта знойдзецца,
Каб прайсці цябе, ды закаяцца!
Захлынецца сам і падавіцца!

Беларусь мая! Наша родная!
Будзь шчаслівая! Будзь свабодная!

Чутно моцны стук у дзверы, заходзіць дзяржаўны чыноўнік, зачытвае на рускай мове загад — забараніць дзейнасць суполкі!

Ч ы н о ў н і к: Деятельность националистически настроенных собраний, организаций и прочих сообществ вражеских элементов запрещается! Вам понятно?

С я б р ы  с у п о л к і. Не зусім. Мы ніякай небяспекі савецкаму грамадству не нясём. Мы тут вершы чытаем. Спяваем песні. Мы толькі жадаем зберагчы родную культуру, гісторыю нашу, мову…

Ч ы н о ў н і к. ЗАПРЕЩАЕТСЯ! Деятельность вашего «балаганчика» прекратить!

## *Карціна другая*

Клас у невялікай школцы. Вучні рознага ўзросту ўважліва слухаюць настаўніка, які распавядае пра родны край. Самі адказваюць.

(Расклад фраз вучняў прыкладны — не абавязкова ў такім раскладзе, як пададзена. Можна больш слоў аднаму камусь.)

Н а с т а ў н і к  Я з э п  Д р а з д о в і ч

Сярод пушч-лясоў, па-над водамі,
Дзе жылі калісь людзі родамі:
Рыбаловілі, ды змагаліся.
Гарадзішчаў сляды пазасталіся.

*(Паказвае рукой на вучня, каб працягваў гутарку, адказваў урок.)*

П е р ш ы  в у ч а н ь *(спявае)*

Паміж селішчаў з гарадзішчамі
Весяліўся народ твой ігрышчамі,
Весяліўся-гуляў карагодамі,
Дружбы дух трымаў паміж родамі.

Настаўнік паказвае — сесці. Падымае вучня.

Д р у г і  в у ч а н ь *(працягвае)*

Весяліліся, мёд збіраючы,
Дзядоў-прадзедаў памінаючы.
Хто й радзіліся, хто й жаніліся,
Хто й памёр — па ім весяліліся.

Настаўнік дадае, нібы падкрэслівае важнасць слоў:

Весяліліся, трызны правячы,
Валатоўкі магіл нарываючы.

Т р э ц і  в у ч а н ь

Наша грамата была рунамі,
А казна тады была кунамі.
Гарадзішчамі ўкаранялася.
Вечам-сходамі упраўлялася.

Н а с т а ў н і к

Люд у краі быў правадаўцамі!
А князь выбраны — выканаўцамі!

*(Ківае пальцам, засяроджвае ўвагу вучняў.
Як дырыжор, паказвае рукамі разам паўтарыць.)*

У с е

Люд у краі быў правадаўцамі,
А князь выбраны — выканаўцамі.

Н а с т а ў н і к *(працягвае спяваць)*

Старана мая, старасвецкая,
Ты была калісь маладзецкая.

П е р ш ы  в у ч а н ь

І адважная, і лавецкая.
Са звяр'ём, з ражном — паляўнічая.
З лютым ворагам — ваяўнічая.

Д р у г і в у ч а н ь *(падхоплівае)*

Ваяўнічая ды харобрая!
З кім — у загрудку,
А з кім — добрая.
У правах сваіх вечавалася.
Пад прымус ярма не здавалася.

Т р э ц і в у ч а н ь

Не мірылася — адбівалася.
За чужой спіной не хавалася.
Не хавалася, не прасілася.
Колькі сіл было — баранілася.

Моцны стук у дзверы. Заходзіць польскі жандар. Аглядае клас, вучняў, настаўніка і важна зачытвае на польскай мове, што навучанне дзяцей на беларускай мове забараняецца.

Ж а н д а р. Панове, мам декрэт! Заброніць школенне вучэнь по біялоруску! Розуме, пан? Розумем, панове? ЗА-БРО-НІЦЬ! Прошэ! *(Паказвае на выхад.)* Прошэ до дому! *(Сам сабе і да публікі.)* Прэч! Пся крэв! Тфу! *(Разганяе вучняў.)*

Язэп застаецца адзін ля акна. Збірае свае кнігі, паперы. Збірае сваю катомку ў дарогу. У начным небе за акном ветах.

Я з э п *(сумна спявае)*

Ізноў, ізноў па поўні свеціць
Скрозь шыбы ясны веташок.
На цёмным небе след свой меціць,
Як пазалочаны ражок.
Скажы мне, ветах-веташок,
Куды імкнешся ты, дружок?
Мо, як і я, імкнешся ты,
І сам не ведаеш — куды?
Ты будзіш думак маіх рой.
Сягоння ты ў маім акне,

А заўтра гэтакай парой
Мо й не засвеціш ужо мне?

З а с л о н а.

## Дзея трэцяя

### *Карціна першая*

Харэаграфічная сцэна — сон Драздовіча. Незямны відарыс. Іншапланетныя істоты ў танцах ходзяць між дзіўных раслін і забудоў. На краю сцэны, проста ў полі спіць Язэп, прачынаецца, садзіцца ля каменя. Здзіўлена круціць галавой. Краявід мяняецца, істоты знікаюць.

Я з э п.

Які дзіўны сон? А мо гэта яў?
На якой з планет быў сягоння я?
Не Венера то… Ды і не Плутон?
Як забыцца мог?! Сам загадваў сон —
Паляцець на Марс…

Ідуць на работу сяляне. Спяваюць куплет з песні ваяроў «Гэй! Беражысь!» Спяваюць сумна менавіта вось гэты куплет без прыпеву:

С я л я н е

Рыбы стайка плешча у рацэ,
Неба, поле, паша, лес-гушчар.
Дык чаму слязіна па шчацэ?
Бо ў краі сваім не гаспадар.

Спыняюцца ля Язэпа. Пачынаюць гаманіць між сабой.

П е р ш ы с е л я н і н. Чуў, Язэпе? Кругом гора…

Д р у г і с е л я н і н. Васіля Мядзельца схапілі… Смяротнае пакаранне прысуджана. А таму і васямнаццаці няма.

Т р э ц і с е л я н і н. Дакумент падрабілі, быццам старэйшы, каб перад Масквой адчытацца, якую бандыцкую кодлу рассакрэцілі!

П е р ш ы  с е л я н і н. А там жа — дзеці горкія. Беларусь марылі захаваць.

Д р у г і  с е л я н і н. Казалі: «Вывучымся на настаўнікаў — пойдзем па школах расказваць пра родны край, пра гісторыю, каб мовы не забывалі сваёй, песень нашых».

Т р э ц і  с е л я н і н. Дачку настаўніка, Алесю — на 25 гадоў!

Я з э п. За што?!

Т р э ц і  с е л я н і н. За тое, што дзетак на роднай мове вучыць збіралася.

П е р ш ы  с е л я н і н. За мову…

Д р у г і  с е л я н і н. Нібыта шпіёнка.

За сялянамі ў момант гутаркі на ўвесь экран усплываюць партрэты пакутнікаў за Беларусь. Сядзеў — клацае жалезны замок турэмных кратаў. Забіты — стрэл. Клац, стрэл, клац, стрэл… Спачатку вялікая выява, потым у радок становіцца партрэт — меншае. І так пад аўтаматную чаргу пралятаюць сотні, сотні твараў з прозвішчамі.

Сяляне сыходзяць. Язэп сядзіць ля каменя, абхапіўшы рукой галаву, хітаецца. Незаўважна выходзіць абраная ім у сне першай дзеі дзяўчына Беларусь. Спачатку гучыць лейтматыў кахання. Потым пяе жалобу. (Яе падхоплівае хор, хор у шостым куплеце, пасля спеву салісткі пры паўторы слоў пераходзіць зноў, як у першай дзеі, на крык, заклён з барабанамі.)

Зелен-дуб у полі рос,
Груган чорны яго трос.
Жалуды ляцелі,
А дзікі іх елі.

Пайшлі хлопцы ваяваць,
Свае землі вызваляць.
Войска іх пабіла,
Долу ўсіх зложыла.

Як нам жытку выпраўляць?
Ды з кім дзетак гадаваць?
Выракшысь айчыны —
Здацца на чужыну?

Галубкі з галубкамі
Прытулілісь дзюбкамі.
А у іх гняздэчкі —
Поўныя яечкі.

А што ж дзеўкам нам рабіць?
Куды замуж выхадзіць.
Дзецюкі ў няволі,
Прэюць косткі ў полі.

Пайду ў поле галасіць.
Буду хлопцаў зваць-будзіць.
Гэй жа вы, малойцы!
Уставайце, хлопцы!

Ці пара вам спачываць?
Трэба справу ў рукі браць!
Цяжкая гадзіна.
Хворая Радзіма.

Зелен-дуб у полі рос.
Груган чорны яго трос.
Ды не зрыць дзіку курган —
Хутчэй ссохне той груган.

### *Карціна трэцяя — смерць Язэпа*

Язэп збірае восеньскія кветкі. Ён вельмі любіў збіраць кветкі.

Я з э п *(спявае перадсмяротную песню сваю)*

Я — з вечна вандроўных, бяздомных людзей,
Што ўласнага куту не маюць.
Не маюць сям'і, ані жон, ні дзяцей.
Сіротна сябе адчуваюць.
А́т-вось і я — сірата сіратой…
Ні шчасця, ні ўцехі не знаю.
Бясконцай дарогай брыду пехатой,
З хатулём на плячы кавыляю.

«Я адзін. Кругом адзін. Адзінокі. Я не маю каму пазаставіць гэту справу сваю пад апеку. Дык дзеля чаго і каго я гэта ўсё пішу?.. Не!.. Я не адзін. Са мной сілы любві ды гармоніі творчай сусвету. Я веру ў жыццё ў сусвеце. Я веру ў населенасць міроў людзьмі і чалавекам. Прыйдзе час, што і ў нашай абняхаенай краіне заквітнеюць кветкі. Што хараства прыйдзе час. Знойдуцца людзі, іх пашле Бог і выдасць новае пакаленне народу на пакрасу жыцця».

Ён павольна, абапіраючыся аб камень, падае на дол… Ляжыць колькі часу. Гучыць лейтматыў кахання. Падыходзіць абраная дзяўчына..

Д з я ў ч ы н а *(весела звяртаецца да яго)*. Хадзем, Язэп… Пойдзем разам.

Я з э п. Куды?

Д з я ў ч ы н а. У вечнасць.

Я з э п. Я ўжо не хадок…

Д з я ў ч ы н а *(весела смяецца).* Забыўся!.. Ты ж лятаць умееш!

Я з э п

Абяцала ты — мне нявестай быць.
І не спраўдзіла — спадманула вось.
Дык адкрыйся хоць — як цябе завуць?

Д з я ў ч ы н а

Ты са мной навек: Беларусь.

На сцэну выбягае натоўп моладзі сучаснай, шчаслівай, яны весела перамаўляюцца на беларускай мове. Бяруць за рукі Дзяўчыну, Язэпа.

З а с л о н а.

# ЗМЕСТ

